# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

## № 9

ВЕРАСЕНЬ

МЕНСК 1929

У № 7—8 „Бальшавік Беларусі“ быў зьмешчаны памылкова артыкул т. А. Некрашэвіча „На новым этапе“, у якім ёсьць шэраг палітычных памылак. У адным з наступных нумароў рэдакцыя дасьць спэцыяльны артыкул па пытаньнях, закранутых т. А. Некрашэвічам і рэцэнзэнтам газэты „Зьвязда“ Я. Штылем.

**Рэдкалегія.**

У № 7—8 „Бальшавік Беларусі“ быў зьмешчаны памылкова артыкул т. А. Некрашэвіча „На новым этапе“, у якім ёсьць шэраг палітычных памылак. У адным з наступных нумароў рэдакцыя дасьць спэцыяльны артыкул па пытаньнях, закранутых т. А. Некрашэвічам і рэцэнзэнтам газэты „Зьвязда“ Я. Штылем.

Рэдакцыя.

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 9
ВЕРАСЕНЬ

МЕНСК — 1929

# На змаганьне за генэральную лінію партыі.

Верасьнёвы пленум ЦК КП(б)Б прайшоў пад знакам бальшавіцкае самакрытыкі і бязбоязнага выкрыцьця скажэньняў лініі партыі і правых ухілаў у рабоце шэрагу органаў, як Наркамзем, Сампрамкоопэрацыя, Наркамасьветы, фінорганы і інш.

Пленум у пастанове аб контрольных лічбах на 1929-30 г. адзначыў, што: „існуючая політыка і практыка ў БССР пры правядзеньні земляўпарадкаваньня патрабуе значных зьмен, галоўным чынам, ва ўстанаўленьні форм і норм земляўпарадкаваньня і землянадзяленьня. Выходзячы з таго, што дагэтуль Наркамземам БССР і яго органамі на мясцох на практыцы праводзілася няправільная права-опортуністычная лінія, таму хутарскія формы землякарыстаньня мелі значнае месца пры правядзеньні земляўпарадкаваньня, Пленум ЦК КП(б)Б з асаблівай сілай падкрэсьлівае неабходнасьць самае рашучае барацьбы з хутарскімі формамі і даручае ўсім партыйным організацыям і зямельным органам ужыць самыя рашучыя захады да таго, каб не дапускаць выхаду на хутары, атрубы і карлікавыя пасёлкі, а накіраваць земляўпарадкаваньне ў бок колектывізацыі і ў бок організацыі буйных пасёлкаў. „Рашучая барацьба з хутарамі, за масавую колектывізацыю“—вось асноўны лёзунг партыі і савецкае ўлады БССР.

Існуючыя дагэтуль „максымальныя і мінімальныя“ нормы землянадзяленьня і землякарыстаньня таксама ні ў якой меры ня спрыялі колектывізацыі, наадварот, яны даюць магчымасьць захоўваць у значнай частцы заможныя і нават яўна кулацкія гаспадаркі“.

З такой-жа рашучасьцю пленум асудзіў скажэньні клясавай лініі кіраўнікамі сампрамкоопэрацыі. Пленум адзначыў, што „ў працы прамкоопэрацыі ня было дастаткова выразнае клясавае лініі. Мінулае кіраўніцтва прамысловай коопэрацыі праводзіла праваўхіленцкую лінію ў практычнай рабоце. Гэтая лінія ў практычнай рабоце грунтавалася ў асноўным на опортуністычнай концэпцыі неабходнасьці выкарыстаньня ініцыятывы, вопыту і сродкаў капіталістычных элемэнтаў.

У выніку ўзмоцненага соцыялістычнага будаўніцтва выціснутыя з шэрагу галін народнае гаспадаркі капіталістычныя элемэнты гораду і мястэчак накіраваліся ў прамысловую коопэрацыю ў мэтах яе заваёвы.

Дзякуючы опортуністычнаму кіраўніцтву прамысловай коопэрацыі ў цэнтры і на мясцох, а таксама, дзякуючы невыстарчальнаму гаспадарчаму і організацыйнаму абхопу з боку саюзных коопэрацыйных зьвенчакоў—гэтыя капіталістычныя элемэнты ня толькі не спаткалі належнага адпору, але часам сустракалі садзейнічаньне ў сваіх імкненьнях замацавацца ў коопэрацыі. Гэта давяло да захопу кулацка-нэпманскімі элемэнтамі шэрагу арцеляй і кіраўніцтва ў іх на шкоду інтарэсам бядняцка-серадняцкіх мас саматужнікаў і соцыялістычнаму будаўніцтву“.

У адозьве Пленуму да ўсіх членаў КП(б)Б адзначаецца, што: „мінулае кіраўніцтва Наркамасьветы не забясьпечыла цьвёрдае клясавае лініі на культурным фронце, не давала рашучага адпору варожым нам ідэолёгіям, вельмі слаба займалася работаю па выхаваньню і падрыхтоўцы новых пролетарскіх кадраў".

Чыстка і праверка вясковых ячэек КП(б)Б паказала, што мы маем шэраг скажэньняў клясавае лініі работнікамі нізавых партыйных і савецка-грамадзкіх організацый; сярод выключаных з партыі 17% складу вясковых комуністаў, большасьць апынулася па-за парогам партыі за сваю кулацкую політыку і практыку ў рабоце, за зрастаньне з кулацкімі і наогул чужымі элемэнтамі.

Аб вялікай небясьпецы правага ўхілу сярод вясковых організацый асабліва яскрава гаворыць становішча, выкрытае абсьледваньнем у Тураўскай організацыі, Мазырскае акругі. У пастанове Сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб рабоце Тураўскай райпарторганізацыі, мы чытаем:

„а) у раёне няма ніводнага калгасу і да апошняга часу не вялася работа ў гэтым напрамку; б) зусім слаба разьвіты прасьцейшыя вытворчыя аб'яднаньні; в) скрыўленьне клясавае лініі пры разьмеркаваньні земфондаў (перароў); г) значны процант крэдытаваньня заможных (5,2); д) адсутнасьць работы з беспартыйным актывам, дзякуючы чаму адсутнічае рост організацыі за кошт батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых; е) наяўнасьць у організацыі хваравітых зьявішч (настрой некаторых членаў партыі супроць калгасаў, выхады і развал калгасаў, агітацыя супроць дзяржпазык і г. д.); ж) зусім невыстарчальная організацыя беднаты вакол асноўных пытаньняў (калектывізацыя, коопэраваньне, разьмеркаваньне крэдытаў, ільгот, організацыя сплаўных і лесарубачных арцеляй) і зусім слабая работа груп беднаты, кепская работа з батрацтвам і адсутнасьць падліку апошніх.

Гэтыя буйнейшыя недахваты, галоўным чынам, тлумачацца, па-першае, тым, што да апошняга часу ў работнікаў раёну панавала думка, „што ва ўмовах Тураўскага раёну калгаснае будаўніцтва разьвівацца ня можа". Гэта антыпартыйная ўстаноўка да апошняга часу не знайшла рэзкага адпору з боку РК і ўсяе парторганізацыі і, па-другое, ёсьць вялікі недахоп у самой сыстэме работы РК".

Усе выкрытыя скажэньні клясавай лініі, наяўнасьць права-ўхіленцкае політыкі і практыкі ў рабоце цэлага шэрагу як вышэйшых, так і нізавых організацый яшчэ раз сьцьвярджаюць тое, што ў БССР— краіне пераважна сялянскай, з яе невялікаю праслойкай пролетарыяту пры шматнацыянальным пераплёце—ёсьць багатая глеба для росту правага ўхілу.

Практыка барацьбы з правым ухілам сьведчыць, што сярод некаторае часткі членаў партыі ёсьць неразуменьне сутнасьці і карэньняў правага ўхілу. Мы маем цэлы шэраг выпадкаў, калі комуністы галасуе супроць правага ўхілу, лічыць сябе стопроцантным праваднікам генэральнае лініі партыі, а на справе, у сваёй практычнай рабоце праводзіць яўна правую лінію.

Адгэтуль увага ўсяе КП(б)Б павінна быць зьвернута на яшчэ больш рашучае змаганьне з правым ухілам, на змаганьне з конкрэтнымі носьбітамі правага ўхілу.

Падзеі ў ячэйцы працкалектыву мэблёўшчыкаў (у Менску), дзе „левыя" злучыліся з правымі для сумеснае барацьбы з партыяй, сыгналізуюць аб тым, што пры барацьбе з праваю небясьпекай ня трэба забываць аб магчымасьці рэцыдываў троцкізму і сваячасова даваць адпор левым наскокам.

Змаганьне з праваю небясьпекаю і левымі загібамі можа ажыцьцяўляцца галоўным чынам шляхам шырокага разгортваньня бязьлітаснае бальшавіцкае самакрытыкі, шляхам падняцьця тэорытычнага ўзроўню марксыцка-ленінскага выхаваньня партыйных кадраў. Адгэтуль набывае асаблівае значэньне канстатаваньне верасьнёвага Пленуму аб тым: „што да гэтага часу парторганізацыямі КП(б)Б ня створаны яшчэ ўсе неабходныя ўмовы для шырокага разгортваньня самакрытыкі і ў шэрагу выпадкаў самакрытыка недастаткова дзейнічае, дзякуючы ня зусім уважлівай і чулай адносіне да крытыкі мас з боку асобных парторганізацый і асобных кіраўнікоў, і катэгорычна выходзячы з таго, што самакрытыка зьяўляецца лепшым і сапраўдным сродкам праверкі клясавае лініі і бальшавіцкае ўстойлівасьці кожнага паасобнага кіраўніка, пленум лічыць патрэбным і прапануе ўсім парторганізацыям з усёю сілаю і настойлівасьцю дамагацца больш шырокага і сьмелага разгортваньня пролетарскае самакрытыкі мас, „ня гледзячы на асобы", накіроўваючы яе на праверку чыстаты клясавае лініі ўсіх організацый і кіраўнічых работнікаў, на выпраўленьне недахопаў у рабоце партыі, прафсаюзаў і дзяржапарату.

Усім організацыям КП(б)Б значна ўзмацніць і палепшыць якасьць работы ў справе ўздыму політузроўню і марксыцка-ленінскае падрыхтоўкі кіраўнічых кадраў, абавязаўшы ўвесь кіраўнічы актыў узмоцнена працаваць над уздымам свайго політычнага ўзроўню і забясьпечыўшы яму ў гэтым усебаковую дапамогу. У першую чаргу трэба шырока скарыстаць дзеля гэтага тыя магчымасьці, якія ўжо ёсьць (Комвуз, завочны Комвуз, завочныя курсы марксызму і г. д.).

Толькі бязьлітасная самакрытыка, толькі сьмелае прызнаньне сваіх памылак забясьпечыць сваечасовае выкрыцьцё скажэньняў лініі партыі і далейшы поступ уперад на шляху соцыялістычнага будаўніцтва.

Завастрэньне ўвагі ўсяе організацыі—трэба яшчэ раз падкрэсьліць—на правай небясьпецы, як галоўнай небясьпецы, і неабходнасьці рашучае барацьбы з ёю зьяўляецца сёньня нашаю асноўнаю задачаю.

Ня менш увагі павінна быць зьвернута ўсёю КП(б)Б і на скажэньні лініі партыі на фронце ідэолёгічным і нацыянальным. Нашы перамогі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, сьмелае выкарчоўваньне капіталістычных элемэнтаў у горадзе і вёсцы і выкліканае гэтым абвастрэньне клясавае барацьбы спрыяла актывізацыі варожых нам элемэнтаў на ідэолёгічным фронце. І тут мы мелі цэлы рад прарываў і выλазак клясавага ворага.

Мы маем наяўнасьць актывізацыі вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму, мы яшчэ дагэтуль назіраем упартае нежаданьне цэлага шэрагу работнікаў партыйнага, савецкага, профсаюзнага і гаспадарчага апаратаў праводзіць у жыцьцё дырэктыву партыі аб беларусізацыі. Цэлы шэраг выпадкаў на яўрэйскай вуліцы сьведчаць аб актывізацыі яўрэйскага шовінізму.

Праводзячы рашучае змаганьне і з расійскім, а таксама яўрэйскім шовінізмам, мы на даным этапе асаблівую ўвагу, павінны зьвярнуць на барацьбу з беларускім нацыянал-дэмократызмам, які зьяўляецца найбольш небясьпечным сёньня.

Гэта вымагаецца, па-першае, таму, што беларускі нацыянал-дэмократызм набыў ваяўнічы, наступальны характар і, па-другое, таму, што беларускі нацыянал-дэмократызм у БССР змыкаецца з нацыянал-фашызмам у Заходняй Беларусі—адзінаму пролетарскаму фронту ў БССР і Заходняй Беларусі супроцьстаўляецца адзіны фронт нацыянал-дэмократаў тут і нацыянал-фашыстаў там.

На фоне сусьветных падзей, пры наяўнасьці падрыхтоўкі ўзброенага нападу на нас, у першую чаргу, фашысцкіх атрадаў Пілсудчыны нацыянал-дэмократызм у БССР у змычцы з нацыянал-фашызмам у Заходняй Беларусі, зьяўляюцца саюзьнікамі заклятых ворагаў дыктатуры пролетарыяту.

Вось чаму мы кажам, што пры наяўнасьці і актывізацыі вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму, актывізацыі яўрэйскага і польскага шовінізму, найбольш небясьпечным на даным этапе зьяўляецца беларускі шовінізм.

Нашы посьпехі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва расчышчаюць ад капіталістычных карэньняў тую глебу, якая сёньня харчуе і беларускага нацыянал дэмократа і шовіністых іншых колераў.

Кожная наша заваёва на ідэолёгічным фронце і асабліва стварэньне пролетарскіх марксыцкіх кадраў зьяўляецца моцным ударам па нацыянал-дэмократызму. Апанаваньне пролетарыятам вышынь нацыянальнае культуры шляхам далейшага паглыбленьня беларусізацыі дапаможа выбіць нацыянал-дэмократаў і шовіністых з усіх позіцый на культурна-нацыянальным фронце.

---

С. Агурскі.

# Барацьба супроць ухілаў на гістарычным фронце.

Ні для каго не сакрэт, што ў шмат якіх досьледах па гісторыі партыі і рэволюцыйнага, рабочага руху, яскрава праяўляецца цэлы шэраг ухілаў, хібных немарксыцкіх антыленінскіх ацэнак. Мы часта наглядаем тут поўнае скажэньне важнейшых фактаў і рэзка выяўлены анты-партыйны падыход у асьвятленьні падзей. Гэткія ўхілы, гэткія скажэньні вельмі прыкметны ў частцы дасьледчых прац таварышоў-камуністаў, якія зьяўляюцца выхадцамі з нацыяналістычных дробна-буржуазных партый. Сярод названых таварышоў ёсьць і такія, якія праз розныя сродкі стараюцца затушаваць сапраўдны характар організацый, якія выхавалі іх раней, імкнуцца давесьці, што гэтыя апошнія былі самымі рэволюцыйнымі, сапраўды марксыцкімі, бальшавіцкімі організацыямі, імкнуцца давесьці па трапнаму выразу т. Пакроўскага („Ідэолёгічны фронт“, „Правда“ ад 7/XI-28 г.), што яшчэ ў 1880 годзе дзяды іхныя былі марксыстамі.

Наскольві глыбока гэтыя тэндэнцыі дзе-ні-дзе прасякалі галіну гістарычнага дасьледваньня, паказвае ідэалізацыя „Бунда“, „Беларускай Социялістычнай Грамады“, „ППС“ і іншых да іх падобных організацый, спробы, што асабліва рэльефна праявіліся за апошнія гады ў Беларусі, дзе шэраг таварышоў у замаскаваным, а часам і ў адкрытым відзе настойна праводзяць тую думку, што бальшавізм на Беларусі вядзе свой пачатак ад мясцовага нацыянальна-адраджэнцкага руху, ад мясцовага дробна-буржуазнага социялізму. Каб ня быць галаслоўным, спашлюся на факты. Спынімся перш на тым, як пад сьцягам бальшавізму прапаведваецца чыстае вады бундызм. Няхай чытач прабачыць нам за тое, што мы адцягнем пры гэтым яго ўвагу (хоць-бы і на кароткі час) да рэчаў, якія, мабыць, яму вядомы.

Мы вымушаны гэта зрабіць для таго, каб усе навочна маглі пераканацца, як, каб дагадзіць знарочнай антыленінскай концэпцыі, груба перакручваецца гістарычная сапраўднасьць.

Хто больш ці менш знаёмы з гісторыяю партыі, той ведае, што „Бунд“ узьнік у 1897 г., як самастойная організацыя яўрэйскага пролетарыяту, паклаўшы ў аснову сваёе програмы прынцыпы, сфармуляваныя Мартавым у прамове, сказанай на першамайскім сходзе ў Вільні ў 1895 годзе. У тэй прамове Мартаў заявіў:

„што яўрэйскія рабочыя павінны стварыць спэцыяльную рабочую організацыю, якая мусіць стаць кіраўніцай і выхаваўцам яўрэйскага пролетарыяту, у яго барацьбе за экономічнае, грамадзянскае і політычнае вызваленьне, бо калі рускаму пролетарыяту прыдзецца ахвяравацца, каб дасягнуць якіх-небудзь палепшаньняў праз адно якое

з сваіх патрабаваньняў, дык ён у такім выпадку ахвотней ахвяруецца тымі з патрабаваньняў, якія датычаць спэцыяльна яўрэяў"...

Праўда, у самым раньнім пэрыодзе існаваньня „Бунда" плынь, якая высоўвала на першы плян спэціфычныя задачы яўрэйскага пролетарыяту, далёка яшчэ ня была панаваўшаю плыньню, чым тым часам і тлумачыцца актыўны ўдзел „Бунда" ў скліканьні першага зьезду РСДРП. Але мікробы нацыяналізму, што ўнетрыліся з самага пачатку ў „Бунд", знайшлі ў ім вельмі спрыяючую для свайго размножаньня асяродзіну і чым далей, тым усё больш і больш разьядаюць бундаўскую організацыю.

Ужо зараз-жа пасьля першага зьезду партыі ў цэнтральным органе „Бунда"—„Арбэтэр Штымме" („Голос рабочего") № 11 за 1898 г. зьявіліся артыкулы, у якіх разьвіваюцца такія думкі:

„З посьпехам адстойваць спэцыяльныя яўрэйскія інтарэсы ня ў змозе агульна-расійская партыйная організацыя".

На 3-м зьезьдзе „Бунда" ў 1899 годзе адзін з дэлегатаў адкрыта заявіў: „Яўрэйскі пролетарыят павінен дамагацца таксама нацыянальнага роўнапраўя. Грамадзянскага роўнапраўя мала для таго, каб яўрэйскі рабочы мог адстойваць свае інтарэсы".

У 1900 годзе цытаваная вышэй прамова Мартава „Бундам" выдана асобнай брашурай пад назвай „Паваротны пункт у яўрэйскім рабочым руху", што паслужыла за пачатак пашырэньня нацыяналістычных ідэй у шырокіх пластох яўрэйскіх рабочых.

У далейшым нацыяналістычная тэндэнцыя разьвівалася яшчэ больш хуткім тэмпам, што прывяло да таго, што на 2-м зьезьдзе партыі „Бунд" высунуў патрабаваньне аб пабудаваньні партыі на фэдэратыўным грунце і аб прызнаньні яго адзіным прадстаўніком яўрэйскага пролетарыяту. Але калі гэтае патрабаваньне было адхілена, „Бунд" вышаў са складу РСДРП і пачаў весьці супроць партыі ажарсточаную барацьбу. Усім вядомы выступленьні Леніна, Плеханова ў „Іскры" супроць нацыяналізму „Бунда". З бундаўскім нацыяналізмам вёў таксама ўпартае змаганьне С. З. і Палескі Камітэты партыі, якім пасьля 2-га зьезду ўдалося раскалоць шэраг бундаўскіх організацый і ўцягнуць больш рэволюцыйныя элемэнты яўрэйскіх рабочых у шэрагі РСДРП.

У 1905 годзе бальшавікамі былі выдадзены на яўрэйскай мове пратаколы 3-га зьезду партыі. У напісанай да гэтага выданьня Цэнтральным органам РСДРП прадмове „Бунд" характарызуецца гэтак:

„Першы зьезд нашае партыі, які адбыўся вясною 1898 г., паставіў сабе за мэту стварыць гэтае адзінства. Для зьнішчэньня абы-якое думкі аб яе нацыянальным характары, партыя дала сабе найменаваньне ня „рускай", а „расійскай". Організацыя яўрэйскіх рабочых „Бунд" уступіў у партыю, як аўтаномная частка. Нажаль, з гэтага моманту адзінства яўрэйскіх і не-яўрэйскіх соц.-дэм. у аднэй партыі было зьнішчана. Паміж дзеячамі „Бунда" пачалі распаўсюджвацца нацыяналістычныя ідэі, якія стаяць у вострай супярэчнасьці з усім сьветапоглядам социял-дэмократыі. Замест імкненьня да зьбліжэньня яўрэйскіх і неяўрэйскіх рабочых, „Бунд" ступіў на шлях адрыву першых ад другіх, выставіў на сваіх зьездах адмежаванасьць яўрэеў, як нацыі".

Наступная эволюцыя „Бунда" ўправа поўнасьцю апраўдала даную яму цэнтральным органам характарыстыку. У 1905 годзе „Бунд" уключыў у сваю програму патрабаваньне аб нацыянальна-культурнай аўтономіі. У гады рэакцыі ён канчаткова парваў з рэволюцыяй і прадставіў самае правае крыло ліквідатараў. Супроць позыцыі, якую ў

гэты пэрыод займаў „Бунд“, неаднокраць выступаў Ленін і другія відныя бальшавікі.

На нарадзе ЦК РСДРП у сьнежні 1912 году ў рэзолюцыі аб нацыянальна-дэмократычных організацыях пра „Бунд“ сказана наступнае:

„Нарада асабліва адзначае крайні опортунізм і ліквідатарства ў рашэньнях апошняе (IX) конфэрэнцыі Бунда, якая адхіліла лёзунг рэспублікі, адсунула на задні плян нелегальную работу і выказала забыцьцё пра рэволюцыйныя задачы пролетарыяту“.

Аб паводзінах „Бунда“ ў пэрыод імпэрыялістычнае вайны т. Зіноўеў пісаў у „Социал-Дэмократе“:

„Бунд—адзіная організацыя ў „старым Інтэрнацыянале“, якая ўжо цяпер дала якісьці сынтэз соцыял-шовінізму абудвых адценьняў. У Варшаве і Лодзі мы гаворым на дыялекце Шэйдэмана. У Менску і Гомелі мы гаворым на дыялекце Гвазьдзёва“ (Г. Зіноўеў і Н. Ленін „Против течения“, выд. 4, ст. 168).

Вось які быў „Бунд“ напярэдадні нізрынуцьця самадзяржаўя. Пасьля Лютаўскае рэволюцыі опортунізм „Бунда“ праяўляецца ў яшчэ больш рэзкай форме. З самага пачатку рэволюцыі „Бунд“ быў самым ярым абаронцам Часовага Ўраду і самым заўзятым ворагам бальшавікоў. У часе чэрвеньскае дэмонстрацыі ў 1917 годзе, калі ўвесь Петраградзкі пролетарыят высыпаў на вуліцу з лёзунгамі: „Далоў 10 міністраў капіталістаў“, „Бунд“ сумесна з данскімі казакамі і групаю „Адзінства“ выступіў з лёзунгам аб поўным давер'і Часоваму Ўраду. У дні чэрвеньскае рэакцыі бундаўская прэса не аставалася ад усяе буржуазнае ў гнюсных інсінуацых супроць Леніна і іншых правадыроў бальшавіцкага-руху і тым натхніла імпэрыялістычны Часовы Ўрад на жорсткія рэпрэсіі супроць бальшавікоў.

Калі 2-м Усерасійскім зьездам Саветаў была агалошана Савецкая Ўлада, прадстаўнікі „Бунду“ кваліфікавалі гэты найвялікшы ў гісторыі акт, як „бяздушнае“ злачынства, якое робяць бальшавікі ў адносінах расійскае рабочае клясы і міжнароднае сацыялістычнае рэволюцыі; у адзнаку протэсту супроць гэтага „бязумства“ яны дэмонстрацыйна пакінулі зьезд.

У самы напруджаны пэрыод Кастрычнікавае рэволюцыі „Бунд“ стаў на другі бок барыкадаў, у шмат якіх месцах ён актыўна выступаў супроць Саветаў. У Менску ў сьнежні 1917 г. бундаўцы спрабавалі організаваць агульную забастоўку супроць Савецкае Ўлады; у Віцебску ў Кастрычнікавыя дні яны стаяць на чале контр-рэволюцыі, супроцьстаўляючы бальшавіцкаму ваенна-рэволюцыйнаму камітэту свой ваенны савет; на Украіне прадстаўнікі „Бунда“ былі самымі віднымі работнікамі Пятлюраўскае Рады і актыўна дапамагалі Пятлюры ў яго барацьбе з Савецкай Расіяй.

З цягам абвастрэньня грамадзянскае вайны бундаўцы ў сваёй контр-рэволюцыйнай рабоце робяцца ўсё больш і больш актыўнымі. Самы небясьпечны для пролетарскае рэволюцыі момант—і некаторыя з іх пераходзяць да адкрытых узброеных анты-савецкіх выступленьняў: Лібер у гэты час зьяўляецца адным з удзельнікаў чэха-славацкага мецяжу; часткі бундаўскіх організацый бяруць удзел у белагвардзейскіх паўстаньнях у Яраслаўлі, сяле Багародзку; у 1918 годзе „Бунд“ удзельнічае ў спробах склікаць зьезду „Рабочых упаўнаважаных“.

На Беларусі прадстаўнікі „Бунда“ сустракаюць нямецкіх акупантаў, як „збаўцаў ад ненавіснага іга бальшавікоў“. Характэрныя ў адносіне гэтага заявы, якія зрабіў адзін лідэр „Бунда“ на першым пасяджэньні Менскае Гарадзкое Думы, што адбылося на трэці дзень пасьля эвакуацыі Менску Савецкім урадам: „Нарэшце такі мы маем

магчымасьць свабодна пасядаць“. Прадстаўнікі „Бунда“ ў часе нямецкае акупацыі ўваходзяць у склад контр-рэволюцыйнае беларускае рады.

Контр-рэволюцыйныя паводзіны „Бунда“ прывялі да таго, што пролетарскія элемэнты пачалі пакідаць яго і ўступаць у шэрагі РКП(б). У гады 1917—1919 г. немаль уся найбольш рэволюцыйная частка вышла з „Бунда“. У апошнім засталіся толькі мізэрныя групы дробна-буржуазных інтэлігентаў, але і ў асяродзіне, сярод гэтых генэралаў бяз арміі пад уплывам пролетарскае рэволюцыі заўсёды адбываліся расколы.

Пад канец грамадзянскае вайны, улетку 1920 году, калі ў „Бундзе“ захаваліся толькі самыя мізэрненькія рэшткі, левае крыло яго абвясьціла, што „настаў час калі „Бунд“ можа ўзяць на сябе адказнасьць за дзеяньні Савецкае ўлады, можа прыняць програму Комінтэрна“. У красавіку 1921 году яны ўліліся ў партыю.

Правае-ж крыло „Бунда“ не пакідала свае даўнейшае контр-рэволюцыйнае работы. Правыя лідэры „Бунда“ на чале з Абрамовічам эміґравалі за межы, дзе дасюль яшчэ актыўна праяўляюць сябе як самыя заўзятыя ворагі СССР.

Цэнтрам чыннасьці „Бунда“ цяпер зрабілася Польшча, дзе ён пад аховаю жандармэрыі Пілсудзкага вядзе барацьбу супроць Компартыі Польшчы і Комінтэрна.

З усяго вышэйсказанага ясна, як дзень, што, кажучы пра „Бунд“ і бундзізм, нельга замазваць опортунізм і нацыянал-шовінізм „Бунда“ да Кастрычніка і яго контр-рэволюцыйны твар пасьля Кастрычніка. Нажаль, трэба констатаваць, што замест барацьбы, супроць бундызма, якая мае яшчэ і цяпер актуальнае значэньне, мы часта ў апошнія гады наглядаем адваротнае зьявішча з боку цэлага шэрагу таварышоў—былых бундаўцаў, была тэндэнцыя ідэалізаваць „Бунд“, прадстаўляць яго як нэобальшавіцкую організацыю ў рэволюцыі 1905 году і скрываць яго контр-рэволюцыйную сутнасьць у эпоху Кастрычніка.

Як далёка прасьцягваецца гэтая тэндэнцыя і якую барацьбу прыходзілася весьці супроць тэндэнцый бундызма ў шэрагах партыі, паказваюць ніжэйпаданыя факты.

Перад уступленьнем у партыю цяперашнія члены ЎсеКП(б) і тагочасныя лідэры „Бунда“ т. т. Фрумкіна, Літвакоў і Вайнштэйн патрабавалі ад нашае партыі, каб „Бунд“ захаваў, будучы у РКП(б), тыя організацыйныя формы і назву, якія ён меў у РСДРП. Партыя гэтае патрабаваньне адхіліла.

Перад 12 конфэрэнцыяй „Бунда“, калі абгаварвалася пытаньне аб уступленьні ў РКП(б), у адным з сваіх артыкулаў т. Фрумкіна пісала наступнае:

„І няхай цяпер у гэты апошні момант ясна і акрэсьлена будзе сказана: што-б не зрабілася з імем „Бунда“, з організацыйнымі яго формамі, якую-б пастанову ні ўхваліла конфэрэнцыя,—*бундызм будзе жыць, пакуль жыве рабочы рух, пакуль будзе жыць яўрэйскі пролетарыят. Бундызм будзе жыць і перамагаць*“.

На самой конфэрэнцыі яна сказала:

„Мы заявілі Комінтэрну: вы можаце нас прымусіць, можаце нас зламаць, але вы ня сумееце нас перарабіць, мы застанемся такімі-ж, якімі былі“.

У часе ўступленьня „Бунда“ ў партыю на ўрачыстым сходзе Менскае організацыі КП(б) лідэр „Бунда“ т. Вайнштэйн заявіў:

„Я не схаваю ад вас, што мы гэтых поглядаў у агуле і ў цалку не зьмянілі, мы засталіся пры тэй думцы, што для далейшага руху

рабочае рэволюцыі было-б карысьней, калі-б *яўрэйская комуністычная работа мела-б досыць рухавыя формы для свайго разьвіцьця*". („Известия ЦК КП(б)Б" № 14, 19/V-21 г.).

15 сакавіка 1921 г. у № 170 Віцебскае газэты „Ройтэр Штэрн" (орган Віц. Губкома) зьявіўся артыкул был. бундаўца т. Л. Абрама пад назваю „Бунд перамог", у якім ён пісаў:

„*Першым на арэне клясавае барацьбы ў Расіі,* першым правадыром рабочае клясы, організатарам Расійскае соцыял-дэмократычнае рабочае партыі ў Расіі ў 1898 г., *першым* баяздольным авангардам расійскага, а таксама яўрэйскага пралетарыята—*быў Бунд"* (курсіў наш—*С. А.*).

1 мая 1921 г. выходзіць у Маскве першы нумар газэты „Эмес" пад рэдакцыяй Літвакова. Замалым увесь нумар гэтае газэты быў прысьвечаны ідэалізацыі „Бунда". У артыкуле „РКП і Бунд", напісаным т. Літваковым пад псэўданімам Ніцэц, ён услаўляе гісторыю „Бунда" і лічыць уступленьне яго ў РКП(б) гэроічным актам. У тым самым нумары т. Фрумкіна ў артыкуле аб 1 мая піша, што ў 1902 г. першамайская дэмонстрацыя ў Вільні была організавана выключна „Бундам" і толькі яўрэйскія рабочыя падпалі цялесным карам,—зусім ігнаруючы ўсім вядомы факт, што сярод 26 пастрадаўшых было 8 польскіх рабочых і што сярод організатараў замаху на Фон-Валя былі таксама два польскіх рабочых. У гэтым нумары зусім замоўчваецца мінулая работа бальшавікоў сярод яўрэйскіх рабочых.

У маі 1922 г. ЦБ выдала зборнік, прысьвечаны 20-гадоваму юбілею Гіршы Лекерта. Юбілей сьвяткаваўся ва ўсіх яўрэйскіх цэнтрах Савецкага Саюзу. У зьвязку з гэтым юбілеем ЦБ выпусьціла цэлы шэраг брашур пра Лекерта. Гэтая ўрачыстасьць была больш прысьвечана „Бунду", чымсь Лекерту. У прадмове да кніжкі „Гірша-Лекерта", выдадзенай ЦБ яўсэкцыі пад фірмаю РКП(б), ёсьць месцы, што паўтараюць думкі т. Абрама, выказаныя ў газэце „Ройтэр-Штэрн"... З гордасьцю яўрэйскія організаваныя рабочыя—учорашнія парыі сярод пролетарыяту, маглі сказаць пра сябе, што яны зьяўляюцца авангардам рускага рабочага руху. Як гэтакі, яўрэйскі рабочы ішоў у перадавых шэрагах на працягу апошніх дзесяці год мінулага стагодзьдзя".

І гэтак, няма Леніна, Плеханова, няма „Групы вызваленьня працы", няма „Саюза барацьбы за вызваленьне рабочае клясы", няма польскае і літоўскае соцыял-дэмократычнае рабочае партыі, наогул няма іншае рабочае клясы апроч яўрэйскага пролетарыяту на чале з „Бундам". Такая шовіністычная бязглуздзіца выдана пад фірмай РКП(б) і прыпадносіцца дасюль для вывучэньня 1 мая 1902 г. у г. Вільні.

У тэй-жа самай кніжцы, на тэй-жа старонцы ёсьць такі абзац: „Бунд быў тады шырокай масавай рабочай організацыяй, што складалася з экономічных кас, з кіруючымі камітэтамі, якія павінны былі прасякнуць ўсю організацыю соцыял-дэмократычнымі ідэямі рэволюцыйнае барацьбы, выканаўшай у большай меры гэтую задачу, але ня досыць шырока, *робячы тыя-ж памылкі, што і ўвесь рускі рабочы рух* (курсыў наш—*С. А.*).

Такім чынам выходзіць, што „Бунд" рабіў тыя самыя памылкі, *што і ўвесь рускі рабочы рух.* Гэтыя словы належаць да таго пэрыоду, калі „Бунд" у маі 1901 г. прыняў нацыяналістычную програму і нацыяналізм паставіў вышэй за інтарэсы адзінства рабочае клясы; гэта сказана аб тым пэрыодзе, калі Ленін, Плеханаў і „Іскра" вялі адчайную барацьбу супроць бундаўскага нацыяналізму. Гэта назы-

ваецца ў был. бундаўцаў, што „Бунд“ рабіў тыя самыя памылкі, *што і ўвесь рускі рабочы рух*“.

Цікава, што ў кніжцы пра Лекерта гісторыя сьвяткаваньня 1 мая ў Вільні і замах на Фон-Валя асьвятляецца такім чынам, што гэта зьяўлялася толькі справаю адных яўрэйскіх рабочых. Гэтак т. Эстэр Фрумкіна пісала ў 1921 г. у першамайскім нумары „Эмеса“.

У сьнежні 1923 г. т. Літвакоў у юбілейным нумары органа ЦК КП(б)Б—„Векер-Штэрн“ пісаў наступнае:

...„У першы момант нашае новае комуністычнае бальшавіцкае радасьці мы былі схільны зусім махнуць рукою на 25 год нашае ўласнае гісторыі, рабочага руху, гісторыі, якая нам прадстаўлялася суцэльнаю памылкаю, ня кажучы ўжо пра тое, што ў РКП не магла пранікнуць такая рабочая кляса, зьяўленьне якое на рэволюцыйную арэну было памылкай, які жыў выключна памылкамі. Наша партыя прайграла-б толькі, калі-б яна ўвабрала ў сябе такую бяспомачную масу.

Мы ведаем аднак, што ў РКП нас штурхалі і нашыя рэволюцыйныя традыцыі і ісьціны, што РКП набыла ў асобе яўрэйскіх рабочых новыя баяздольныя творчыя атрады. Так, мы ўспрынялі ў РКП новы сьвет, але вельмі шмат з гэтага новага сьвету мы насілі ўжо ў сабе, адваяваўшы яго *ў працягу дзесяткаў год нашае барацьбы*. Мы ў нашым мінулым рабілі шмат памылак, але памылак, *якіх мы павінны саромецца вельмі мала*...“ („Векер“, 27 сьнежня 1923 г.).

...„З таго часу, як мы скінулі з сябе тугу каюшчага грэшніка, мы пачалі больш сур‘ёзна ставіцца да свае ўласнае гісторыі. Мы адчулі ня толькі тое, што РКП дала нам, але таксама і тое, з чым мы к ёй прышлі“.

Няма чаго саромецца гісторыі „Бунда“... „Бунд“, які атручваў яўрэйскія рабочыя масы нацыяналізмам і опортунізмам да Лютаўскае рэволюцыі, які ішоў ад Лютага да Кастрычніка разам з меншавікамі і эсэрамі, які дэмонстраваў 18 чэрвеня 1917 г. пад тымі-ж лёзунгамі, што і данскія казакі, які дапамагаў у ліпеньскія дні арыштоўваць і расстрэльваць бальшавікоў і які стаў у дні Кастрычнікавага пераварогу супроць пралетарскай рэволюцыі,—гэты „Бунд“, па думцы Літвакова, зрабіў *мала такіх памылак, якіх трэ‘ было-б саромецца*.

І бундаўцы сапраўды не сароме́ліся свае гісторыі. У 1924 годзе член ЦБ Яўсэкцыі т. Я. Левін пад рэдакцыяй т. Эстэр выдае выключна для моладзі кніжку пад назваю „Юген Бунд“, якая зьяўляецца адным суцэльным дыфірамбам „Бунду“.

У 1925 г. т. Вайнштэйн напісаў артыкул пад назвай „1905 год“ для гістарычнага зборніка „Ройтэ Блэтэр“ („Чырвоная Летапісь“), у якім ён піша, што „ў 1905 годзе „Бунд“ быў неаформлена бальшавіцкаю організацыяю“.

У тым-жа самым годзе тав. Рафес у сваёй прадмове да кніжкі Кіржніца „Яўрэйскі рабочы ў рэволюцыі 1905 г.“ пісаў, што „Бунд“ у 1905 г. абальшавізаваўся, прычым Рафес зусім забыўся пра тое, што менавіта ў 1905 г. тав. Ленін вёў жорсткую барацьбу супроць бундаўскага нацыяналізму. Толькі пасьля зьяўленьня ў гэтым годзе ў „Известиях ЦВК СССР“ крытычнае заметкі супроць фальсіфікацыі „Бунда“ заднім чыслом т. Рафес напісаў ліст у рэдакцыю, у якім ён прызнае сваю памылку.

Калі ідэалізацыя „Бунда“ набыла такія памеры, некаторыя таварышы рэзка выступілі супроць гэтага. У рэцэнзіі аб кніжцы т. Эстэр „Па Ленінскаму шляху“ тав. Ашаровіч сказаў, што тав. Эстэр дае няправільную ацэнку ролі яўрэйскіх рабочых у Кастрычнікавай рэволюцыі.

У 1924 г. група таварышоў падалі дакладную запіску ў ЦК КП(б)Б з указаньнем на неабходнасьць перайменаваньня газэты „Векер“ і клюбу ім. Гросэра,—назвы, якія бундаўцы працягнулі ў РКП(б) для захаваньня бундаўскіх традыцый. У запісцы пісалі:

„У нашай Беларускай і ў прыватнасьці ў Менскай організацыі ёсьць зьявы, якія зусім ня могуць спрыяць у цяперашні час задачы абальшавічваньня яўрэйскіх рабочых і якія як дробна-буржуазная спадчына мінулага павінны быць зжыты: цэнтральны яўрэйскі рабочы клюб носіць назву імя Гросэра (бундаўская традыцыя), а орган ЦК КП(б)Б на яўрэйскай мове—імя „Дэр Векер“. Мы мяркуем, што яўрэйскі рабочы клюб, які павінен быць у першую чаргу школаю комунізму, павінен насіць імя камуніста, які беззаветна змагаўся за комунізм, які клікаў пад сьцяг РКП(б) яўрэйскіх рабочых, памёршага сьмерцю рэволюцыянэра бальшавіка на вуліцах Вільні тав. Хайкіна, а не імя чалавека чужога бальшавізму. Мы напамінаем, што клюб правых бундзістаў саратнікаў Абрамовіча ў Польшчы носіць таксама імя Гросэра, як і наш комуністычны клюб (што вельмі няпрыемна ўражае політэмігрантаў з Польшчы). Мы мяркуем, што цэнтральнаму органу нашае партыі на яўрэйскай мове больш прыстала насіць старое бальшавіцкае імя „Зьвязды“—„Дэр Штэрн“,—якая першая асьвятліла шлях да комунізму яўрэйскаму пролетарыяту Беларусі, чымся імя „Векера“, яшчэ нядаўна (1918-1919 г.) вёўшага адчайную траўлю комунізму на яўрэйскай вуліцы, які мае „падазроных аднаімёнцаў“ на тым боку рубяжа („Векер“,—штодыднёвы дадатак да яўрэйска-амэрыканскага „Форвэртсу“)“.

Гэта запіска прывяла да таго, што было пастаноўлена перайменаваць газэту „Векер“ на „Акцябр“, а клюб імя Гросэра ў клюб ім. Леніна.

Барацьба супроць бундаўскіх традыцый стала агульна-партыйнай задачай. ЦК КП(б)Б зьвярнуўся з спэцыяльным лістом да ўсіх членаў КП(б)Б па гэтым пытаньні. У лісту гаворыцца:

„ЦК КП(б)Б з ухвалы ЦК УсеКП(б), паставіў пытаньне аб неабходнасьці зжыцьця небальшавіцкіх традыцый у тых пластох нашай організацыі, якія вышлі з дробна-буржуазных партый. Найбольш буйною і тыповаю з гэтых партый, існаваўшых на Беларусі, зьяўляецца „Бунд“. У моц гэтага, а таксама ў моц таго, што бундзізм пусьціў карэньні ў рабочым руху, у асяродзіне кіруючае клясы, пытаньне аб барацьбе супроць бундаўскіх традыцый набыло асаблівае значэньне. Суб'ектыўная шчырасьць і рэволюцыйная пераконанасьць таварышоў, прышоўшых у нашу партыю з шэрагаў Бунда, стаяць па-за ўсякім ценем сумненьня. За чатыры з паловаю гады, што мінулі з часу ўступленьня асноўных кадраў Бунда ў бальшавіцкую партыю, шмат якія таварышы прарабілі значную эволюцыю, зжываючы ўсе сьляды бундаўскае ідэолёгіі і цалком успрымаючы ідэолёгію бальшавізму. Не ўважаючы на гэта, тым часам бундаўскую традыцыю нельга лічыць зжытай да канца. Асноўныя моманты, у якіх праяўляюцца рэшткі бундаўскае ідэолёгіі, звычак і настрояў, заключаюцца ў наступным:

1) Ідэалізацыя Бунда заднім чыслом—недагаварваньне ў азначэньні нацыяналістычна-меншавіцкае сутнасьці Бунда, падфарбоўваньне яго дзейнасьці, пераўвялічэньне ролі рэволюцыйных элемэнтаў у ім, хваравітая рэакцыя некаторых таварышоў на простую крытыку бундызма.

2) Нацыянальная абмежаванасьць—зацікаўленасьць толькі ў пытаньні яўрэйскае работы, нязвыкласьць і няўменьне весьці работу сярод мас іншых нацыянальнасьцей, памылковая політыка прымусовага залічэньня яўрэйскіх дзяцей у яўрэйскую школу.

3) Цэхаўшчына—г. ё. недастатковае разуменьне ролі пролетарыяту, як клясы—гэгэмона, і ў зьвязку з гэтым няпоўнае ўразуменьне сялянскае політыкі партыі (а таксама адпаведных элемэнтаў яе нацыянальнае політыкі).

4) Хвасьцізм—у форме перанясеньня ў партыю настрояў адсталых рабочых ці нават, што яшчэ горш, дробна-буржуазных яўрэйскіх пластоў, тады, калі абавязак бальшавіка, прыслухоўваючыся да настрояў мас, заўсёды быць іхным важаком, строга праводзячы партыйную лінію.

Нельга, зразумела, агулам пашыраць паказаныя зьявішчы на ўсіх былых бундаўцаў. Але разам з тым бяссумненна, што ў пэўнай частцы іх у тэй ці іншай ступені гэтыя моманты наглядаюцца. А без абсолютнага адмаўленьня ад бундаўскае традыцыі, без каранное пераработкі ўсяго ідэйнага строю і ўсяе практыкі работы, нельга быць бальшавіком.

Адгэтуль выцякаюць дзьве задачы: па-першае, весьці сыстэматычную прапагандысцкую работу па крытычнаму вывучэньню гісторыі Бунда і разьясьненьню яго опортуністычнага і нацыяналістычнага характару. Гэтаму пытаньню неабходна адвесьці сур'ёзную ўвагу пры праходжэньні курсу гарадзкіх школ. У прыватнасьці, пад гэтым кутом гледжаньня трэба праводзіць работу па зьбіраньню і асьвятленьню матар'ялаў рэволюцыі 1905 г. Па-другое—па-таварыску папраўляць памылкі ў рабоце тых былых бундаўцаў, якія не перамаглі яшчэ ўказаных вышэй недахопаў, выхоўваючы іх, такім чынам, у бальшавіцкім духу ў самым ходзе практычнае работы".

Некаторыя работнікі ЦК выступілі супроць гэтага ліста ЦК, паказваючы, што спэцыяльнай барацьбы супроць бундызма няма чаго весьці, што прыкметныя сярод адсталай часткі яўрэйскіх рабочых зьявы хвасьцізму і цэхаўшчыны выкліканы тымі самымі прычынамі, як іншыя ўхілы ў партыі (як, напрыклад, опозыцыя) але зусім не традыцыямі бундызма. На пасяджэньні Яўбюро ЦК КП(б)Б 10 сакавіка 1926 г., калі абгаварвалася пытаньне аб барацьбе супроць бундызма, т. Чэмерынскі, які прысутнічаў на гэтым пасяджэньні, назваў нашу позыцыю політычнай распустай і заявіў наступнае.

„З поваду інструктыўнага ліста аб яўрабоце. Разьдзел аб бальшавізацыі яўрэйскіх рабочых мас і аб зжываньні традыцый бундызма—выклікае ў мяне недаўменасьць.

Нездаровыя зьявішчы ў партыі, нездаровыя настроі трэба заўсёды шукаць на глебе цяпер перажываемых цяжкасьцяй, а не капацца ў мінулым. Гэта сапраўдная мэтафізыка, у процівазе нашаму дыялектычнаму мэтоду. Я пераконаны, што ўхілы, якія вы пералічаеце (хвасьцізм, цэхаўшчына), родзяцца на глебе сучасных затрудненьняў, а—ня мінулага, калі Зіноўеў і Каменеў маглі пераацаніць распластаваньне ў вёсцы, калі яны маглі праявіць ўхіл ад партыйнае лініі, калі Сакольнікаў, стары бальшавік, бяззьменны член ЦК з Кастрычнікавае рэволюцыі мог памыляцца, дык прычым зьвязваньне ўхілаў і нездаровых настрояў з бундызмам у мінулым.

Пастаноўкай і завастрэньнем пытаньня аб бундызьме вы адхіляеце ўвагу ўсяе партыі ад сапраўдных небясьпек і прычын ухілаў. Гэта ёсьць скажэньне, гэта ёсьць політычная распуста" (з выступленьня тав. Чэмерынскага на паседжаньні Яўбюро ЦК КП(б)Б ад 10 сакавіка 1926 г.).

Навакол гэтага пытаньня разгарэлася ўпартая барацьба паміж Яўбюро пры ЦК КП(б)Б і паміж ЦБ Яўсэкцыі пры ЦК УсеКП(б). Пытаньне было перанесена ў АПА ЦК УсеКП(б) і апошні ўхваліў лінію Яўбюро пры

ЦК КП(б)Б. Толькі ў 1926 г., калі АПА ЦК УсеКП(б) прыняў рэзалюцыю, якая засуджала лінію ЦБ Яўсэкцыі ў гэтым пытаньні, нарада яўработнікаў, што адбылася ў Маскве ў сьнежні 1926 г., прыняла пастанову аб неабходнасьці барацьбы супроць рэштак бундызма.

Дык вось мы бачым, што да 1926 г. ня толькі ніякае барацьбы ЦБ не вяло супроць бундаўскіх традыцый, але нават пасьля гэтае нарады мы сустракаемся са спробамі рэабілітаваць контр-рэволюцыйную ролю „Бунда" ў пэрыод Кастрычнікавае рэволюцыі. Гэтак, напрыклад, у хрэстаматыі „Яўрэйскі рабочы", выданай у Маскве ў 1928 г. пад рэдакцыяй Рафеса, падаецца разьдзел з мае кнігі „Яўрэйскі рабочы ў камруху", у якой я апісаў удзел бундаўцаў у контр-рэволюцыйным выступленьні кулакоў у сяле Багародзкім, Ніжагародзкае губэрні. З гэтага разьдзелу складальнікі хрэстаматыі выкідаюць якраз тыя мясьціны, у якіх апісваецца гэты факт.

Тав. Эстэр-Фрумкіна ў сваёй кнізе „Кастрычнікавая рэволюцыя" гэтак характарызуе ролю „Бунда" ў пэрыод Кастрычнікавае рэволюцыі:

„Тады, калі левыя эсэры пад націскам рэволюцыйнае сялянскае стыхіі канчаткова парвалі з правымі, тады як яны актыўна ўдзельнічалі ў Кастрычнікавым паўстаньні і не зважаючы на прыметныя хістаньні і толькі на вядомы пэрыод увайшлі ў склад Савецкага Ўраду,— меншавікі і бундаўцы, якім сапраўднаю соцыяльнаю базаю паслужыла гарадзкая дробная буржуазія, у сваім лявеньні не пайшлі далей за беспарадны мізэрны „вікжэлізм", блыталіся паміж абудвых бакоў, што змагаліся і ламалі рукі, што льецца кроў.

...Калі ў асяродзішчы меншавікоў было значнае крыло, якое ішло супроць „вікжэлізму", што сьцьвярджаў, што з бальшавікамі ні ў якія пагоджаньні ўступаць нельга, дык Бунд быў жывым уцелясьненьнем „вікжэлізму" (Эстэр „Кастрычнікавая рэволюцыя" ст. 323—327).

„Вікжэлізм" хутка лопнуў, але Бунд застаўся на вікжэлеўскіх позыцыях.

У першы пэрыод пасьля Кастрычніка сутнасьць бундаўскае політыкі заключалася ў тым, каб у грамадзянскай вайне ня прыступіць ні да таго, ні да таго боку. У некаторых мясцох бундаўцы павыходзілі з Саветаў. Гэта адбылося таксама ў Менску пад непасрэдным кіраўніцтвам членаў ЦК Бунда. У той-жы самы час менскія бундаўцы ў „Камітэце Ратаваньня Рэволюцыі" змагаліся супроць правых эсэраў, якія хацелі паслаць войска ў дапамогу Керанскаму і яны (менскія бундаўцы — *С. А.*) разам з меншавікамі-інтэрнацыяналістымі дамагліся таго, каб гэтая пасылка войска не адбылася" (Эстэр—„Кастрычнікавая Рэволюцыя" ст. 325).

Гэтая ацэнка ролі „Бунда" ў сваім грунце хібная. Як можа бальшавік пісаць, што „Бунд" застаўся на „вікжэлеўскіх" позыцыях, калі пададзеныя вышэй факты аб удзеле бундаўцаў у Пятлюраўскай Радзе, у контр-рэволюцыйнай Беларускай Радзе і г. д. нічым ня могуць быць зьняпраўджаны?

Таксама няправільнае сьцьвярджэньне Эстэр, што памылкі дробна-буржуазных партый падобны да тае памылкі, якую зрабілі т.т. Зіноўеў і Каменеў у момант Кастрычнікавага паўстаньня. Яна піша:

„Яўрэйскія дробна-буржуазныя соцыялісты ўспрынялі Кастрычнікавае паўстаньне, як няшчасьце, як вар'яцтва. Ім удалося затрымаць ад удзелу ў паўстаньні большасьць рабочых. Шлях да Кастрычніка быў яўрэйскім рабочым больш цяжкі і даўжэйшы, чымсь неяўрэйскім.

Але як няшчасьце і вар'яцтва ўспрынялі Кастрычнікавае паўстаньне такія відныя бальшавікі, як Зіноўеў і Каменеў. Яны аб гэтым адкрыта

гаварылі, яны змагаліся супроць паўстаньня“ (Эстэр „Кастрычнікавая Рэволюцыя“ ст. 330).

Гэтыя радкі напісаны ў разгары барацьбы партыі з опозыцыяй. Але і ў той момант аўтар павінен быў падумаць над тым, ці можна кастрычнікавыя памылкі т. т. Зіноўева і Каменева цалком параўноўваць (отожествлять) з контр-рэволюцыйнай чыннасьцю „Бунда“ ў пэрыод 1917—1919 г.? Асабліва варожая позыцыя да Кастрычнікавае рэволюцыі аб‘ясьняецца ня толькі тым, што лідэры „Бунда“ раптам спалохаліся „непарадкаў“ і „ўзрушэньняў“ (хоць такая боязкасьць вельмі характэрная для дробнага буржуа), але і мінулымі паводзінамі „Бунда“, тым, напрыклад, што яшчэ ў гады рэакцыі ён выкрасьліў з свае програмы лёзунг буржуазнае рэспублікі, лічачы яго за надта рэволюцыйны.

Т. т. Зіноўеў і Каменеў, зрабіўшы свае памылкі, пасьля бралі актыўны ўдзел у самой Кастрычнікавай рэволюцыі; лідэры-ж „Бунда“ толькі ў канцы грамадзянскае вайны зрабіліся нагэтулькі „шляхетнымі і адважнымі“, што не пасаромеліся ўзяць на сябе адказнасьць за дзеяньні Савецкай Улады.

Адгэтуль вынікае, што існасьць справы ня ў Зіноўеву і Каменеву, „умысел иной тут был“. Спасыланьне на іхныя памылкі (хоць і буйныя і не выпадковыя) спатрэбіліся т. Эстэр для рэабілітацыі „Бунда“. Глядзеце—моў, ня толькі лідэры „Бунда“ памыляліся ў Кастрычнікавыя дні, але і памыляліся тады нават гэткія бальшавікі, як т. т. Зіноўеў і Каменеў, якія таксама выступілі супроць паўстаньня“.

У цытаванай вышэй кнізе т. Эстэр-Фрумкіна разьвівае вельмі цікавую думку: на яе погляд клясава-сьвядомыя і культурныя яўрэйскія рабочыя ў часе Кастрычнікавае рэволюцыі знаходзіліся ў дробна-буржуазных партыях, за бальшавікоў ішла стыхія, адны толькі неорганізаваныя рабочыя.

„Здаецца дзіўным“, заяўляе яна „але ўсё-ж гэта так. Зжыць дробнабуржуазную ідэолёгію было найбольш цяжка самай культурнай, самай пісьменнай, самай сьвядомай часткі тых яўрэйскіх рабочых, якія былі організаваны ў яўрэйскіх партыях. Яны былі культурны. Яны на працягу шмат гадоў чыталі марксыцкую літаратуру. Некаторыя з іх на зубок ведалі популярныя марксыцкія брошуры,[1] адтуль у іхных галовах моцна засела думка, што маршрут соцыялістычнае рэволюцыі ляжыць з Захаду на Усход, што рэволюцыя павінна раней адбыцца ў перадавых заходня-эўропэйскіх краінах і што для яе патрабуецца пэўная ступень тэхнічнае падрыхтоўкі (Эстэр—„Кастрычнікавая рэволюцыя“, ст. 328).

...Масавік, неорганізаваны рабочы быў куды больш вольны ад гэтых перашкод. У пэрыод дыктатуры буржуазіі ён стыхійна ішоў пад уплывам дробна-буржуазнага асяродзішча. У пэрыод дыктатуры пролетарыяту, свае клясы, ён стыхійна і без мудраваньняў хітрых ішоў да свае клясы, да свайго пролетарскага авангарду (Эстэр—„Кастрычнікавая рэволюцыя“, ст. 329).

Даўгія разважаньні на тэму „Да бальшавікоў ішоў стыхійна неорганізаваны яўрэйскі рабочы“. А што ў пэрыод яшчэ першае рэволюцыі ў шэрагах бальшавікоў выхоўваліся і яўрэйскія рабочыя, што яшчэ ў 1905 годзе шмат з іх былі сярод бальшавікоў Украіны, што ў бальшавіцкіх організацыях выкоўваліся з асяродзіны яўрэйскіх рабочых такія рэволюцыянеры,—пра ўсё гэта ў кніжцы з 330 старонак ні гуку.

Гэта зусім зразумела. Для часткі таварышоў выхадцаў з „Бунду“, дзе ўсё яшчэ казалася пра яго, як пра адзінага прадстаўніка яўрэйскага

пралетарыяту, самая навочнасьць калі-небудзь культурных і клясавасьвядомых яўрэйскіх рабочых па-за „Бундам“ уяўляецца немагчымым.

Так, нажаль, яшчэ ў 1928 годзе пішацца гісторыя развіцьця бальшавізму сярод яўрэйскіх рабочых.

Разумеецца, што калі „Бунд“ быў „адзіным прадстаўніком яўрэйскага пролетарыяту“, ня можа быць і гутаркі пра тое, што сярод яўрэйскіх рабочых магла праводзіцца работа апроч „Бунда“. Таксама зразумела загэтым, што тая работа, якую партыя вяла сярод яўрэйскіх рабочых у эпоху рэволюцыі 1905 году і ў эпоху Кастрычнікавае рэволюцыі аж да самага 1921 г. да моманту ўступленьня рэштак „Бунда“ ў партыю, павінна замоўчвацца або ігнаравацца. Падам факты, якія паказваюць, як гэтыя тэндэнцыі ажыцьцяўляюцца на практыцы.

Ужо на III конфэрэнцыі Яўсэкцыі ў 1920 годзе, дзе ўпяршыню ўдзельнічалі толькі-толькі ўвайшоўшыя бундаўцы, апошнімі ігноруецца ўся папярэдняя работа Яўсэкцыі. Прымаецца рэзолюцыя, якая асуджае работу, праробленую групаю старых бальшавікоў, як Дыманштэйн і інш.

У 1918 годзе партыя прыступіла да выданьня яўрэйскае газэты „Дэр Эмес“ (Праўда). Пасьля выхаду некалькіх нумароў выданьне было перарвана. Калі „Эмес“ аднаўляе сваё выданьне ўжо пад рэдакцыяй былых бундаўцаў, яна выходзіць пад новай нумарацыяй, прычым зусім ігноруецца стары „Эмес“. У артыкулах, у якіх мімаходам успамінаюцца былыя кіраўнікі яўрэйскае бальшавіцкае работы, пра іх гаворыцца з усьмешкаю. І гэтым быў пастаўлены крыж на ўсёй рабоце сярод яўрэйскіх працоўных, якая прароблена партыяй у першыя тры гады пасьля Кастрычніка. Характэрна, што падрыхтаваны да друку зборнік аб'яўрабоце за першыя тры гады ў 1921 годзе быў загублены ў друкарні...

У канцы 1920 гаду „Эмес“ на некаторы час перарваў сваё існаваньне і калі 1 мая 1921 г. ён ізноў пачаў выходзіць у сьвет, „Эмес“ пачынае сваю гісторыю ня з 7 жніўня 1918 г., а з 7 лістапада 1920 году і нумарацыя пачынаецца з 1920 г., а не з 1918 году. Як і ў ранейшым, гэтак і ў новым выданьні „Эмес“ ні словам не абазваўся пра першую бальшавіцкую газэту на яўрэйскай мове. Пра гэта т. Дыманштэйн пісаў у „Эмесе“ (№ 241 ад 24 кастрычніка 1926 г.). Ён сказаў, што некаторы час новыя таварышы, што ўліліся ў РКП(б), ставіліся зьнядбайліва да першага пэрыоду комуністычнае работы сярод яўрэйскіх рабочых.

У 1918 годзе, у кастрычніку м-цы, у Маскве адбылася першая нарада яўрэйскіх культурных работнікаў, на якой прысутнічала 34 чал.; 1 чэрвеня 1919 г. таксама адбылася 2 конфэрэнцыя яўрэйскіх культработнікаў, на якой было 74 чалавека; у ліпені 1920 г. у Маскве адбыўся Ўсерасійскі зьезд яўрэйскіх культурных работнікаў, на якім прысутнічала 250 дэлегатаў. Гэтыя конфэрэнцыі і зьезд ня толькі заклалі грунт яўрэйскае пролетарскае культурнае работы, але на іх пачалася ўпартая барацьба супроць „Бунда“ і іншых яўрэйскіх дробнабуржуазных партый, якія ўсякімі спосабамі стараліся сарваць нашу работу, імкнучыся правадзіць свае нацыяналістычныя ідэі ў нашы культурныя ўстановы.

Здавалася-б такія конфэрэнцыі і зьезды павінны прадстаўляць вялікую цікавасьць ў гісторыі яўрэйскіх працоўных мас. Але ў сапраўднасьці яны былі ігнараваны і калі ў 1924 г. быў скліканы зьезд яўрэйскіх культурных работнікаў, дык таварышы, вышаўшыя з шэрагаў „Бунда“, прадстаўляць яго як першы Ўсесаюзны зьезд. На самым

зьезьдзе ніхто не налічыў патрэбным указаць, што яшчэ да 1924 году адбыўся цэлы шэраг нарад і конфэрэнцый па пытаньнях аб культурнай рабоце сярод яўрэйскіх рабочых. Толькі ў 1928 годзе на Харкаўскім зьезьдзе было ўзьнята пытаньне аб зьмене нумарацыі зьездаў, палічыўшы за першую конфэрэнцыю культ. нараду ў 1918 годзе. Пры абгаварэньні гэтага пытаньня мы сустрэлі моцнае супроцьдзейнічаньне з боку кіраўнікоў зьезду, але ўсё-такі нам удалося дамагчыся таго, што пры зачыненьні зьезду т. Чэмерынскі вымушаны быў указаць на гістарічнае значэньне першых зьездаў.

Зусім таксама ігнараваліся першыя мерапрыемствы партыі і савецкае ўлады на землябудаўніцтва яўрэйскіх працоўных. У гэтых адносінах характэрная нават брошура т. Чэмерынскага „ЎсеКП(б) і яўрэйскія масы“, выданая ўжо ў 1926 годзе. Зачэпваючы там пытаньне аб землябудаўніцтве яўрэяў, ён для таго, каб пераканаць чытача, што гэтая работа пачата толькі з 1921 году, піша: „Для таго, каб давесьці, што гэтая работа выплыла невыпадкова, што яна падрыхтоўвалася на працягу доўгага пэрыоду мы падаем у канцы кніжкі, як дадатак, дакумэнт 1921 году, які цяпер вядомы ня шмат каму“. Тым часам партыя яшчэ з 1918 г. займалася гытым пытаньнем. Гэтаму пытаньню аддаваў увагу тав. Ленін у 1918 годзе; у 1919 годзе ЦК РКП(б) быў прыняты з поваду гэтага цэлы шэраг пастаноў і пры Наркомнацы быў створаны адзел па арганізацыі яўрэйскіх земляробчых комун. Некаторыя з арганізаваных тады яурэйскіх сельска-гаспадарчых комун існуюць у нас на Беларусі і цяпер.

У кастрычніку 1925 году т. Мерэжын зьмясьціў у „Эмесе“ артыкул, у якім ён адкрыта адмаўляе ўсю работу, праробленую сярод яўрэйскіх працоўных, як і Савецкае ўлады ў першыя гады Кастрычнікавае рэволюцыі. Ён кажа там, што Кастрычнікавая рэволюцыя прышла для яўрэйскага пролетарыяту са спазьненьнем на 3 гады, і што яўрэйскія рабочыя прышлі ў Компартыю толькі ў той момант, калі „Бунд“ уліўся ў РКП(б). Там ён зацьвярджае таксама, што НЭП пачаўся для яўрэйскіх працоўных толькі з 1923 году.

У свой час мы адзначалі, што тэтакія адносіны да работы партыі сярод яўрэйскіх працоўных мас, акрамя скажэньня сапраўднасьці, зьяўляюцца вельмі шкоднымі. Наша ацэнка зусім пацьвердзілася. Цяпер у сіанісцкіх газэтах выступленьне т. Мерэжына выкарыстоўваецца, як доказ, што савецкая ўлада да 1923 году нічога не рабіла, каб палепшыць становішча яўрэйскіх мас.

Цэлы шэраг фактаў ідэалізацыі „Бунда“ праявіўся асабліва рэльефна за апошні час на Украіне.

Два—тры гады таму назад Бухбіндэр выпусьціў кнігу пад назвай „Гісторыя яўрэйскага рабочага руху“. У гэтай кнізе Бухбіндэр дае хібную нацыяналістычную ацэнку гісторыі яўрэйскага рабочага руху. „Бунд“ у гэтай кнізе малюецца ў самых яркіх рэволюцыйных фарбах. Супроць гэтае нацыяналістычнае гісторыі і ідэалізацыі ў ёй „Бунда“ выступіў на старонках „Пролетарскай Рэволюцыі“ і ў газэце „Эмес“ тав. Дыменштэйн і паказаў, што кніга Бухбіндэра нацыяналістычная і шкодная. Усё-ж такі пасьля зьяўленьня гэтае рэцэнзіі ў Харкаўскай часопісі на яўрэйскай мове „Ройтэ Вельт“ была зьмешчана рэцэнзія, у якой расхвальвалася кніга Бухбіндэра і рэкамэндавалася як лепшая кніга, якая зьявілася за апошні час.

У 1928 годзе ў Кіеве была організавана яўрэйская катэдра пры Украінскай Акадэміі Навук; кіраўнікі катэдры паслалі запрашэньне на адчыненьне катэдры бундаўскай „Фолькецайтунг“, газэце, якая вядзе ганебную барацьбу супроць комуністычнае партыі.

У ліпені 1929 г. ў Кіеве быў выданы політычны слоўнік на яўрэйскай мове пад рэдакцыяй двух комуністаў. У гэтым слоўніку сказана, што ў першыя гады свайго існаваньня „Бунду“ быў чужы нацыяналізм...

Гэтая няправільная ацэнка і шэраг іншых прывялі да тато, што прышлося забараніць кнігу ў 880 старонак.

Усе гэтыя факты ідэалізацыі „Бунда“ не спрыялі зжываньню бундаўскіх традыцый, а, наадварот, дапамагалі іх узмацненьню. Наколькі моцныя яшчэ гэтыя цяжкасьці можна меркаваць па артыкуле т. Алека, зьмешчанага ў „Эмесе“ 8 жніўня 1929 г. у № 180. У гэтым артыкуле пад назвай „Шкодны нацыяналізм“ ён піша:

„У некаторых былых бундаўцаў заўважваецца ідэалізацыя гнілога мінулага—ідэалізацыя „Бунда“. Яны проста з натхненьнем гавораць аб рэволювыйнай дзейнасьці „Бунда“. Іншыя гатовы выдраць вочы ўсім тым, хто кваліфікуе яе, як контр-рэволюцыйную работу. Такія таварышы, якія ня вызваліліся яшчэ ад чаду і зьвязаны яшчэ са старымі традыцыямі „бундызма“, заўсёды ганарацца сваёю вялікаю роляю і ўдзелам у „вялікай рэволюцыйнай“ рабоце „Бунда“.

Гэтыя бундаўскія перажыткі ня толькі праяўляюцца ў ідэалізацыі гісторыі „Бунда“, мы сустракаемся з гэтай ідэалізацыяй і ў штодзеннай рабоце, і нават ў нашай штодзеннай партыйнай рабоце. У яўсэкцыях, дзе працуюць большаю часткаю былыя бундаўцы і былыя члены іншых яўрэйскіх дробна-буржуазных партый, яшчэ ня зжыты старыя бундаўскія імкненьні да асобных самастойных організацый у шэрагах УсеКП(б).

Аб гэтым зьявішчы апавядае тав. Алек у вышэй цытаваным артыкуле наступнае:

„Ёсьць такія, якія глядзяць на яўпартсэкцыі, як на асобныя камітэты ў партыйных камітэтах. Хацелі-б і бывае, што проста патрабуюць, каб яўсэкцыі ўзялі на сябе функцыі ўсяго парткамітэту. Часам прыходзяць па такія дырэктывы, якія датычаць выключна Оргаддзела, Агітпропа, Сакратарыята, Парткома і г. д. і расчароўваюцца і злуюць, калі ім растлумачваюць, што гэта ня тычыцца яўсэкцыі.

Бываюць выпадкі, калі хочуць супроцьпаставіць яўсэкцыю парткому, разглядваючы яўсэкцыю як „абаронца яўрэйскага народу“ супроць савецкай улады і супроць партыі“.

Гэтыя факты, аб якіх піша тав. Алек, ня толькі тычацца Украіны. У іншых мясцох можна адзначыць тыя самыя зьявішчы бундызму і бундаўскае ідэалізацыі. Вельмі характэрна, што быўшыя бундысты, якія хочуць змагацца з бундызмам і з бундаўскімі традыцыямі, робяць гэта такім чынам, што выходзіць наадварот.

Замест таго, каб змагацца з бундызмам, яны умацоўваюць бундаўскую концэпцыю па некаторых пытаньнях.

Усе бундаўскія гісторыкі распаўсюджвалі благую думку аб гісторыі яўрэйскага рабочага руху: што яўрэйскі рабочы рух нарадзіўся як інтэрнацыянальны рух і што быў ён такім да тага часу, калі ён зрабіўся масавым рухам (да другой паловы 90-х гадоў), калі зьявіўся „Бунд“. Гэтую хлусьлівую думку бундаўскі гісторык Б. Фрумкін формуляваў у 1913-м годзе ў яўрэйскім нацыяналістычным зборніку „Яўрэйская старына“ ў артыкуле „З гісторыі яурэйскага рабочага руху“. І праз 15 год у 1928 годзе 2 члены комуністычнае партыі паўтараюць тую самую хлусьню. Тав. Кугель, які напісаў артыкул, накіраваны супроць „Бунду“ ў лістападаўскім нумары „Бальшавіка Беларусі“, пісаў наступнае: „Яўрэйскі рабочы рух быў у першы пэрыод свайго існаваньня прасякнуты духам інтэрнацыяналізму. Паваротны пункт у гісторыі яўрэйскага рабочага руху, калі нацыяналістычная

ідэалізацыя пачынае прасякаць у шэрагі яўрэйскіх арганізаваных рабочых, зьвязаны з гістарычным пераходам ад прапагандыцкіх гурткоў да масавае агітацыйнае работы" [1]).

Так пісаў тав. Кугель у лістападзе 1928 г., і ў сьнежні 1928 г. Літвакоў аб тым самым пытаньні ў газэце „Эмес" пісаў наступнае:

..."Што таксама ў яўрэйскім асяродзішчы пачаў (яшчэ у 70-х годах мінулага стагодзьдзя) разьвівацца рэволюцыйны рабочы рух, што спачатку гэты рух ішоў пад знакам інтэрнацыяналізму. Але потым у сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя, калі ва ўсім расійскім руху моцна разьвіўся опортунізм, які асабліва быў прыстасаваны да дробна-буржуазнага асяродзішча, пераважна саматужнага пралетарыяту, там яшчэ аб'яднаўся з дробна-буржуазным нацыяналізмам, як асобным прадуктам спэцыфічнага яўрэйскага асяродзішча і ў выніку гэтага атрымаўся „Бунд" [2]).

Адсюль яскрава відаць, „што ўсе шляхі ў Рым вядуць". Бундаўскі гісторык Фрумкін яшчэ ў 1913 годзе, усхваляючы „Бунд", заявіў, што яўрэйскі рабочы рух стаў нацыянальным, калі зьявіўся „Бунд" і калі ён стаў масавым рухам; і т. Літвакоў, які змагаецца з бундызмам, паўтарае у бальшавіцкім друку ў 1928 годзе тое, што бундыст Фрумкін казаў ў 1913 годзе. І характэрна, што ўсе тры аўтары разглядаюць яўрэйскі рабочы рух, як адно цэлае, без якіх-небудзь напрамкаў. Да 1895 г. ён быў „цалкам інтэрнацыянальным" і потым, калі ён стаў масавым, ён зрабіўся нацыянальным [3]). Кожны больш менш знаёмы з разьвіцьцём соцыялістычных ідэй сярод яўрэйскіх рабочых, добра ведае, што гэтая бундаўская концэпцыя хібная ад пачатку і да канца. Кожны, хто знаёмы з гісторыяй яўрэйскага рабочага руху, добра ведае, што ўжо з першых крокаў разьвіцьця соцыялістычнае мысьлі сярод яўрэйскіх рабочых, у яўрэйскім рабочым руху былі два напрамкі—нацыяналістычны і інтэрнацыянальны. У першым яўрэйскім народніцкім гуртку, заснаваным Ліберманам у Вільні ў 1872 г., мы знаходзім нацыяналістычны напрамак Лібермана і інтэрнацыянальны Зундэлевіча. І з гэтага дню барацьбы між нацыяналізмам і інтэрнацыяналізмам ня спыніліся ва ўсёй гісторыі соцыялістычнага руху сярод яўрэйскіх рабочых.

Бундаўскія гісторыкі сьвядома ігнаруюць гэтую ідэолёгічную барацьбу і сьвядома яны падзялілі соцыялістычны рух сярод яўрэйскіх рабочых на пэрыоды інтэрнацыяналізму і нацыяналізму, каб гэтым паказаць вялікую ролю Бунда ў грызьні яўрэйскага народу.

Бундаўскія гісторыкі імкнуцца паказаць, што да ўзьнікненьня „Бунда" яўрэйскі рабочы рух быў прасякнуты асымілятарскімі тэндэнцыямі і ня цікавіўся спэцыфічнымі запатрабаваньнямі яўрэйскага народу. Як толькі нарадзіўся „Бунд" і зрабіўся „палітычна-масавай партыяй яўрэйскага пролетарыяту", піша бундаўскі гісторык Шульман—перад ім стала адна з важнейшых задач:

„рэагаваць на спэцыфічныя ўмовы, у якіх знаходзіліся яўрэйскія працоўныя масы, як важнейшая частка яўрэйскага прыгнечанага

---

[1]) Кугель. Ленін аб „Бунду". „Бальшавік Беларусі" ст. 47-ая, 1928 г.

[2]) Літвакоў. „Эксперт Агурскі". „Эмес" 4 сьнежня 1928 г.

[3]) Варта адзначыць, што абсурдную думку аб інтэрнацыянальным і нацыянальным пэрыодзе яўрэйскага рабочага руху падтрымліваюць таксама „Поалей-Сіоністы". Іхны тэорэтык Борухаў сказаў таксама, што калі яўрэйскі рабочы рух быў гурткавым рухам інтэлігенцыі, ён быў асімілятарскім. а калі стаў масавым, ён зрабіўся нацыянальным. Розьніца паміж Поалей-Сіоністамі і бундыстамі толькі ў тым, што першыя зьвязваюць погляды, што яўрэйскі рабочы рух стаў масавым і нацыянальным рухам з узьнікненьнем Поалей-Сіонізма, а не бундызма.

народу. Яўрэйскі народ быў зусім бяспраўным. Агульны націск палітычнага бяспраўя, які давіў насельніцтва ва ўсёй Расіі пад царскім рэжымам, асабліва ціснуў на яўрэйскі народ“ [1]).

З гэтых слоў становіцца яскрава мэтавая ўстаноўка ў пэрыодызацыі яўрэйскага рабочага руху. Мэтавая ўстаноўка такая, што „Бунд“ ня толькі зьявіўся змагаром за права яўрэйскага пролетарыяту, але таксама і змагаром за правы яўрэйскага народу, які прыгнятаўся царызмам. І калі „Бунд“ стаў нацыянальна масавым яўрэйскім рабочым рухам, дык нельга было сказаць, што мог існаваць асобны інтэрнацыянальны рух сярод яўрэйскіх рабочых, бо ўсе ведаюць бундаўскую концэпцыю, што „Бунд“ зьяўляецца адзіным прадстаўніком яўрэйскага пролетарыяту. Вось чаму бундаўскія гісторыкі імкнуцца паказаць, што да ўзьнікненьня „Бунда“ соцыялістычны рух быў асымілятарскім і інтэрнацыянальным і толькі з нараджэньнем „Бунда“ ён стаў нацыянальным.

Калі зразумела, што бундаўскія гісторыкі пішуць так, то зусім не зразумела, як комуністы паўтараюць бундаўскую концэпцыю аб характары яўрэйскага рабочага руху, як яны паўтараюць абсурдную думку, што спачатку яўрэйскі рабочы рух быў інтэрнацыянальным, а потым зрабіўся нацыянальным, ігнinduючы пры гэтым той факт, што ў яўрэйскім рабочым руху заўсёды былі два напрамкі—інтэрнацыянальны і нацыянальны.

Мы маглі-б адзначыць цэлы шэраг іншых падобных фактаў. Але нам здаецца, што іх падана досыць, каб ясна было якую шкоду прыносяць спробы ідэалізацыі „Бунда“ і зьвязаныя з імі замоўчваньні бальшавіцкае работы сярод яўрэйскіх мас да ўступленьня „Бунда“ ў РКП(б). Усё гэта паказвае, наколькі правільны і актуальны тэзіс апошняе нарады Гістпартаў аб неабходнасьці ўзмацненьня барацьбы супроць тэндэнцыі ідэалізацыі дробна-буржуазных партый.

У сёньнешнім нашым артыкуле мы разабралі пытаньне, як гэтыя тэндэнцыі праяўляюцца ў адносінах „Бунда“. Ня ў меншай аднак ступені яны праяўляюцца і ў адносінах дробна-буржуазных беларускіх партый.

---

[1]) Шульман. „Стравички из истории рабочего движения“, 1-ая частка, 45-ая старонка. Выдав. „Свет“—Варшава, 1929 г.

Р. Кугель.

# Ленін аб антысэмітызьме.

Самадзяржаўе ў барацьбе з нарастаючымі сіламі рэволюцыі ў Расіі карысталася рознымі сродкамі адцягненьня мас ад рэволюцыйнага руху. Адным з такіх сродкаў быў антысэмітызм.

Самадзяржаўе моцна трымалася толькі да таго часу, пакуль клясавая барацьба ў Расіі яшчэ слаба або недастаткова разьвілася. Але з узьнікненьнем рэволюцыйнага, а потым і рабочага руху, нарастала і ўзмацнялася такая клясавая сіла, якая ў канчатковым падрахунку павінна была скінуць самадзяржаўе.

Гэта ведаў і разумеў самадзяржаўны ўрад. З гэтае прычыны ён робіць безнадзейную спробу адцягнуць рабочую клясу і сялянства ад барацьбы са сваімі клясавымі ворагамі і накіраваць соцыяльнае нездавальненьне на шлях нацыянальнае барацьбы. Сродкамі абвастрэньня нацыянальнае барацьбы павінен быў служыць антысэмітызм. Царскае самадзяржаўе рабіла спробу перашкодзіць утварэньню адзінага клясавага фронту рэволюцыйных элемэнтаў усіх нацый супроць дыктатуры буйных земляўласьнікаў, г. зн. супроць самадзяржаўя, і дзеля гэтага імкнулася нацкаваць адну нацыю на другую, скарыстоўваючы рэлігійныя і нацыянальныя забабоны адсталых нацый.

Мы наглядаем зусім невыпадковы паралелізм у нарастаньні рэволюцыйнага руху ў краіне антысэміцкае хвалі. Як вядома, антысэміцкая хваля супадае з наступнымі пэрыодамі ўздыму рэволюцыйнае хвалі: 70 гады—гады народніцтва і народавольства, гады рэволюцыі 1905 г., 1912 год, калі вызначыўся буйны ўздым рабочага рэволюцыйнага руху, гады вайны, калі пачала ўзрастаць рэволюцыя. Гэтыя факты, такім чынам, сьведчаць аб тым, што антысэмітызм робіцца ўлюбёным сродкам самадзяржаўя, калі завострываецца клясавая барацьба працоўных.

Антысэмітызм набываў і набывае розныя формы ў залежнасьці ад ступені абвастрэньня клясавае барацьбы. У „мірныя“ часы, калі рэволюцыя яшчэ не дайшла да свае вышэйшае ступені, антысэмітызм вядзе сваю справу „ціхай сапай“ (вядомае яўрэйскае законадаўства і г. д.). У рэволюцыйны час антысэмітызм набывае пагромны характар.

Перад рабочаю клясаю стала задача весьці барацьбу з антысэмітызмам. Дзеля таго, каб весьці гэтую барацьбу з пункту гледжаньня пролетарыяту правільна, трэба было перш-наперш тэорытычна асьвятліць зьмест антысэмітызму, яго мэты і на падставе гэтага тэорытычнага асьвятленьня вызначыць правільную тактыку барацьбы.

Тав. Ленін у сваіх творах зьвярнуў увагу на зьявішча антысэмітызму, даў ацэнку зьместу антысэмітызму і вызначыў тактыку барацьбы з ім.

Перш-наперш т. Ленін паставіў пытаньне аб мэце антысэмітызму, і на гэта дае наступны адказ:

> „Гэтая мэта,—піша ён,—відавочная—адхіліць увагу народных мас ад барацьбы з самадзяржаўем, нацкаваць політычна несьвядомую частку насельніцтва супроць рэволюцыянэраў, намаўляючы ёй жах перад кожным „вулічным“ рухам, утварыць для сацыял-дэмократыі моральныя і тэхнічныя перашкоды ў разьвіці дэмонстрацыйнага руху на рэшту, *мобілізаваць усе рэакцыйныя сілы,* якія была-б мага кінуць у бойку супроць рэволюцыйнага пролетарыяту, і інтэлігэнцыі, якая ідзе поруч з ім“ [1]).

Такім чынам мэта, якую ставіць перад сабою антысэмітызм, заключаецца ў тым, каб дэзорганізаваць сілы рэволюцыі і організаваць сілы контррэволюцыі.

Хто-ж зьяўляецца організатарам антысэміцкага руху.

> „Усюды,—піша т. Ленін,—правакатары, жандары зьяўляюцца організатарамі, прадажны журналіст і проституіруючы поп—ідэёвымі натхніцелямі, а невуцтва, цемната, зоолёгічныя інстынкты—спайкай, пры дапамозе якой рознашорстна-соцыяльныя элемэнты формуюць „народную толпу“ [2]).

Тав. Ленін, такім чынам, констатуе політычную мэту антысэмітызму, яго соцыяльных носьбітаў і яго гістарычныя карэньні ў Расіі.

Найбольш поўна Ленінскія погляды на антысэмітызм разгарнуліся ў яго палеміцы па памянёных пытаньнях з Бундам. Бунд не зразумеў соцыяльна-клясавых карэньняў антысэмітызму. У яго ня было яснае і пэўнае пастаноўкі пытаньня аб антысэмітызьме, якая, напрыклад, была ў клясавых ворагаў пролетарыяту—сіаністых.

Што гаварылі сіаністыя? Яны даказвалі, што антысэмітызм—адвечны. Няма нічога дзіўнага ў тым, што яны, як прадстаўнікі буржуазіі, лічылі антысэмітызм адвечным грамадзкім зьявішчам. *Буржуазія лічыць,* што капіталізм адвечны, а калі капіталізм з яго клясавымі супярэчнасьцямі і нацыянальным антагонізмам адвечныя, дык адвечна і яго параджэньне—антысэмітызм.

Ратунак ад антысэмітызму сіаністыя шукалі і шукаюць ва ўтварэньні яўрэйскае буржуазнае дзяржаўнасьці, г. зн. у параўнаньні яўрэйскае буржуазіі з буржуазіяй іншых нацый, якія маюць свае дзяржавы.

Ці лічыў Бунд антысэмітызм адвечным зьявішчам? Строга вызначанага адказу на гэтае пытаньне Бунд не даваў. Адказ, які даваў Бунд, вельмі падобны наогул да сіаніслкага.

Калі Кацярынаслаўскі камітэт РСДРП у 1903 годзе ў аднэй з сваіх праклямацый пісаў аб міжнародным антысэміцкім руху ў апошнім 10-годзьдзі і адзначаў, што „з Нямеччыны гэты рух перакінуўся ў іншыя краіны і ўсюды знайшоў сабе прыхільнікаў—іменна сярод буржуазных, а не рабочых колаў насельніцтва“, дык Бунд злосна адказаў на гэта: „Гэта... шкодная казка. Антысэмітызм пусьціў глыбокія карані ў рабочыя масы [3]).

Каб давесьці гэта, Бунд прыводзіў такія факты, як удзел асобных рабочых ў пагромах, як праява антысэмітызму ў асобных рабочых і г. д.

Як відаць, Бунд адмаўляецца бачыць клясавыя карэньні антысэмітызму і схіляецца разам з сіаністымі да думкі, што антысэмітызм уласьцівы ня толькі буржуазіі, але і рабочай клясе, як такавой.

---

[1]) Ленін—т. IV, стар. 215 (выд. 1925 г.).
[2]) Ленін—там-жа, стар. 216.
[3]) Ленін—там-жа, стар. 198.

Як-жа Леніні аб'ясьняе паасобныя антысэміцкія зьявішчы ў рабочым асяродзьдзі. Ён канстатуе

> „бязумоўную сувязь антысэмітызму з інтарэсамі якраз буржуазных, але не рабочых колаў насельніцтва“ і „што грамадзкі характар сучаснага антысэмітызму не мяняецца ад факту ўдзелу ў тым ці іншым пагроме ня толькі дзесяткаў, а нават і соцень неарганізаваных на $^9/_{10}$ яшчэ цёмных рабочых“ [1].

Ленін, такім чынам, лічыў, што антысэмітызм абсолютна супярэчыць інтарэсам рабочае клясы. Тав. Ленін прыводзіць паасобныя факты ўдзелу неяўрэйскіх рабочых у ахове яўрэяў ад пагромшчыкаў у доказ таго, што сьвядомыя рабочыя вядуць барацьбу з антысэмітызмам і, значыцца, лічаць яго шкодным, супярэчлівым яго інтарэсам. А калі так, дык значыца антысэмітызм мае клясавыя карэньні, а не нацыянальныя.

*Бунд, наадварот,* разам з сіяністамі лічыў, што антысэмітызм, варожасьць да яўрэяў, уласьцівы ня толькі буржуазіі, але і рабочай клясе.

Як бачым, Ленінская і бундаўская пастаноўка пытаньня аб антысэмітызьме процілеглыя: Ленін дае клясавую ацэнку антысэмітызму, Бунд-жа—нацыянальную.

Зусім відавочна, што розныя разуменьні карэньняў антысэмітызму павінны былі прывесьці і прыводзілі да вызначэньня розных сродкаў барацьбы з апошнім.

Бунд, які бачыў нацыянальныя, а не клясавыя карэньні антысэмітызму, натуральна, прыходзіў да ідэі ўзмацненьня самастойнасьці руху яўрэйскага пролетарыяту, які, як заявіў правадыр Бунду, Лібэр, на 2-м зьезьдзе партыі:

> „Значна больш зацікаўлены ў барацьбе супроць выключных уціскаьняў, якія накладаюцца на яго (яўрэйскі пролетарыят.—*Р. К.*) больш, як на ўвесь пролетарыят, што з гэтых прычын ён зьявіцца больш актыўным барацьбітом супроць такога уціску“ [2].

Згодна ўстаноўкі Бунду, карэньні антысэмітызму нацыянальныя. А калі так, дык натуральна, што толькі яўрэйскі пролетарыят можа шчыра і рашуча весьці да канца барацьбу з антысэмітызмам. А дзеля гэтага неабходна, само сабой зразумела, утварыць моцную нацыянальную партыю яўрэйскага пролетарыяту.

Але пытаемся мы, ці магла пры такой пастаноўцы пытаньня аб антысэмітызьме Бундам разьвівацца клясавая сьвядомасьць яўрэйскага пролетарыяту. Зразумела, што не. Гэтаю пастаноўкаю пытаньня аб антысэмітызьме, як справідлова піша Ленін, Бунд „пасеяў сярод яўрэйскіх рабочых ідэі, якія вядуць да зацямненьня іх клясавае сьвядомасьці [3].

Якія-ж сродкі барацьбы з антысэмітызмам прапанаваў тав. Ленін.

> „Галоўным сродкам барацьбы з антысэмітызмам,—піша тав. Ленін,—як і наогул з рэакцыйнымі сіламі, зьяўляецца рэволюцыйная асьвета народнае масы і організацыя яе перадавога элементу“ [4].

Адказ, як бачым, ясны да празрыстасьці.

---

[1]) Ленін—т. IV, стар. 198.
[2]) Пратакол 2-га зьезду РСДРП, стар. 54.
[3]) Ленін—т. IV, стар. 199.
[4]) Ленін—там-жа, стар. 218.

Антысэмітызм—гэта сродак паслабленьня сіл рэволюцыі. Ён накіраваны супроць яўрэяў сваім джалам, але па сутнасьці яго мэта—затрымаць рэволюцыйны рух наогул. І значыцца, у барацьбе з антысэмітызмам зацікаўлены ня толькі яўрэйскія рабочыя, якія непасрэдна ад яго церпяць, але кожны рабочы, да якой-бы *нацыянальнасьці* ён не належаў.

Барацьба супроць антысэмітызму есьць нясупынная, упартая, бязьлітасная барацьба з самадзяржаўем, з капіталізмам, у якой рабочая кляса становіцца клясава-сьвядомай і вызваляецца ад сваіх забабонаў. Барацьба з антысэмітызмам павінна мець не нацыянальны, а клясавы характар. З гэтае прычыны трэба пролетарыят організаваць не ў нацыянальных рамках, а ў адзіную пролетарскую організацыю. У яднаньні—сіла пролетарыяту, у барацьбе з клясавым ворагам з чужымі ідэолігічнымі ўплывамі выкоўваецца рэволюцыйная сьвядомасьць пролетарыяту.

Хто-ж вёў правільную барацьбу з антысэмітызмам: Бунд ці Ленін—правадыр бальшавіцкае партыі. На гэтае пытаньне можа даць ня двухзначны адказ Ленін і яго рэволюцыйная пролетарская партыя, а ня Бунд.

> „Калі-б не рэволюцыйны адпор антысэміцкім рабаўнікам,—пісаў т. Ленін,—зрабіўся справай толькі яўрэяў-сацыялістых дык якім-бы ён ні быў пасьпяховым, ён толькі абвастрыўбы ўзаемныя адносіны паміж застаючымся ў цемры расійскім і яўрэйскім насельніцтвам; „беспорядки“ захавалі-б для шырокае масы характар барацьбы пляменьняў, які яны маюць у сучасны момант. Наадварот, калі-б супроць рабаўнікоў выступілі аб'яднаныя яўрэйскія пролетарыі, „непорядкі“ адразу перайшлі на іншую глебу *політычную* [1]).

Вось іменна. Якраз Бунд імкнуўся надаць барацьбе з антысэмітызмам нацыянальны характар, Ленін-жа—клясава-політычны характар. Дасканала ясна, што Ленін у даным выпадку стаяў на толькі на пазыцыях клясава-рэволюцыйнага руху, але і на сапраўдным шляху барацьбы з антысэмітызмам. Менавіта клясавая барацьба з антысэмітызмам зьяўляецца найлепшым і самым пэўным сродкам барацьбы з антысэмітызмам. Клясавая барацьба з антысэмітызмам—гэта барацьба з тымі клясавымі карэньнямі, якія яго выклікаюць. Наадварот, нацыянальная барацьба з антысэмітызмам ня зьнішчае яго карэньні, але яшчэ больш паглыбляе іх.

Цікава ў заключэньне адзначыць, што Ленін у свой час лічыў сіанізм больш блізкім праціўнікам соцыял-дэмократыі, чым антысэмітызм.

> „Сіанізм, пісаў т. Ленін,—адхіляе ад рабочага руху вядомыя, досыць культурныя колы яўрэйскага пролетарыяту. У гэтым стасунку сіанізм зьяўляецца больш блізкім праціўнікам соцыял-дэмократыі, чым антысэмітызм, які, паўтараем, вядзе за сабою зусім цёмныя і ў культурным і політычным стасунку элемэнты расійскага насельніцтва. Інакш кажучы: сіанісцкі рух непасрэдна больш пагражае разьвіцьцю клясавае організацыі пролетарыяту“ [2]).

Гэтае месца надзвычайна характэрнае для Леніна. Ён ацэньвае клясавыя варожыя сілы з пункту гледжаньня барацьбы рабочае клясы.

---

[1]) Ленін—т. IV, стар. 220.
[2]) Ленін—там жа, 219 стар.

Для яго зьяўляецца чужым нацыянальны пункт гледжаньня, нацыянальнае пачуцьцё. Ён цьвяроза ацэньвае грамадзкія зьявішчы з клясавага пункту гледжаньня. З гэтае прычыны ён здолеў спакойна ацаніць гэтыя два зьявішчы—сіанізм і антысэмітызм і сказаць, што ў даны час сіанізм зьяўляецца больш блізкім праціўнікам соцыялдэмократыі, чым антысэмітызм.

Адваротнае мы бачым у Бунда. У ім вількаціць устурбаванае нацыянальнае пачуцьцё і яму, бязумоўна, чужая была ацэнка сіанізму, як бліжэйшага праціўніка соцыял-дэмократыі, як гэта адзначыў т. Ленін.

Штрых, які характарызуе два падыходы да аднолькавых грамадзкіх зьявішч—нацыянальны ў Бунда, клясавы—у Леніна.

* * *

Зараз, калі мы вядзем барацьбу з антысэмітызмам, мы павінны ўспамянуць тую ацэнку клясавых карэньняў антысэмітызму і сродкі барацьбы з ім, якія паказваў у свой час т. Ленін.

Праўда, гістарычныя абставіны зараз іншыя. Тады была дыктатура прыгоньнікаў-абшарнікаў, а рэвалюцыйны пролетарыят вёў барацьбу з існуючым урадам. Зараз у нашай краіне пануе рабочая кляса; устаноўлена дыктатура пролетарыяту і супроць існуючага ладу ўжо вядуць барацьбу былўшыя абшарнікі і капіталістыя і іх інтэлігенцкія лёкаі.

У сучасны момант нашым клясавым ворагам патрэбен які-небудзь політычны сьцяг, пад які можа было-б уцягнуць шырокія масы. Гэта справа для іх надта ня лёгкая. Выступіць адчынена са сваімі клясавымі патрабаваньнямі буржуазіі нявыгадна, бо гэта адштурхнула-б масы, а апошнія ніколі ня пойдуць за адчыненай буржуазнай програмай рэстаўрацыі капіталізму ў нашай краіне. Буржуазіі патрэбна такая ідэолёгія, якая была-б зразумела для масы ў моцу хоць застаўшых у спадчыну ад старога міру і у завуалёванай форме выражала-б інтарэсы буржуазіі, якая вядзе барацьбу за ўладу.

Такою ідэолёгіяю зьяўляецца, бязумоўна, антысэмітызм. Антысэмітызм распальвае нацыянальныя страсьці, аб гэтым сьведчыць тыя судовыя процэсы антысэмітаў і яўрэйскіх шовіністых. Распальваньне нацыянальных страсьцей і патрэбна клясавым ворагам, бо яно паслабляе міжнародную салідарнасьць пролетарыяту, клясавае адзінства і раскалвае пролетарыят на нацыянальна-варожыя часткі.

У канечным падрахунку нашы ворагі, пашыраючы антысэмітызм, маюць на мэце аслабіць пролетарыят і пахіснуць асновы дыктатуры пролетарыяту, узмацніць буржуазію і адчыніць ёй шлях да рэстаўрацыі капіталізму. Антысэмітызм мае традыцыі і гэта дапамагае лёгкаму пашырэньню яго. Антысэмітызм прыкрывае буржуазную сутнасьць яго носьбітаў. Таму мы сустракаем сярод працоўных такіх, якія яму паддаюцца, хоць яны па сутнасьці не зьяўляюцца праціўнікамі дыктатуры пролетарыяту. Гэта робіць антысэмітызм надта небясьпечнай формай антысавецкага, антыпролетарскага руху контррэволюцыі ў нашай краіне.

Гэта патрабуе ад нас рашучых мер барацьбы з антысэмітызмам, і для таго, каб мы правільна вялі гэтую барацьбу, мы павінны добра прадумаць тую ацэнку клясавае сутнасьці антысэмітызму і сродкаў барацьбы з ім, якія ў свой час указваў т. Ленін.

Тое, што сказаў т. Ленін у свой час аб антысэмітызьме, актуальна і па сёньнешні дзень.

Я. Пайкін.

# Соцыяльны склад камуністаў-сялян БССР[1])

Мэта перапісу была, апроч соцыяльнага складу, выявіць, наколькі камуністы-сяляне сапраўды зьяўляюцца рэволюцыйна передавымі элемэнтамі вёскі—у якой меры яны служаць прыкладам рэволюцыйнае прогрэсыўнасьці і г. д. Разгледзім адпаведныя зьвесткі.

## I.

З агульнага ліку абсьледаваных гаспадарак—39,5 проц. гаспадарак земляўпарадкаваны. Лік земляўпарадкаваных гаспадарак асобных соцыяльных груп дасягае: у групе пролетарыяту—35 проц., у групе поўпролетарыяту — 38 проц., у простых таваравытворцаў — 40,98 проц., у групе дробна-капіталістычных гаспадарак—50,72 проц.; падлягалі земляўпарадкаваньню больш усяго гаспадаркі вышэйшых соцыяльных груп. Аб тым, якія *формы землякарыстаньня* найбольш ужываюцца камуністамі асобных соцыяльных груп—сьведчаць наступныя весткі:

| Клясавыя групы | % гаспад. з формай землякар. | | | | | З аг. ліку % гас. земляўпар. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пасялковай | Абшчыннай | Атрубной | Хутарскай | Падворна-цераспалоснай | |
| Пралетарыят | 19,85 | 0,29 | 6.43 | 12,57 | 60,71 | 36,00 |
| Поўпралетарыят | 23,9 | 0,37 | 3,63 | 13,69 | 59,22 | 38,08 |
| Прост. таваравытв. | 22,27 | 0,30 | 2,14 | 18,97 | 56,32 | 40,98 |
| Дробна-капіт. | 17,39 | — | 2,90 | 43,48 | 36,23 | 50,72 |
| Бяз розьніцы | 22,02 | 0,31 | 3.17 | 17,10 | 57,38 | 39,51 |
| Сялянск. гасп. агулам | 2,9 | — | 0,8 | 19,5 | 68,6 | — |

Агулам сярод разгледжаных камуністаў-сялян пераважнаю зьяўляецца падворна цераспалосная форма землякарыстаньня. Гаспадаркі дробна-капіталістычнае групы ў значным ліку—143,5 проц. упарадкаваны на хутарох. Пасялковая форма землякарыстаньня слаба пашырана сярод разгледжаных гаспадарак, але менш усяго ўпарадкаваліся на пасёлках гаспадаркі дробна-капіталістычнае групы. Такім чынам,

[1]) Гл. № 6 „Бальш. Бел.".

выяўляецца сувязь паміж соцыялістычнаю прыналежнасьцю камуністаў і ўжытай імі формай землякарыстаньня.

З другога боку, з пададзеных зьвестак робіцца зразумелым, чаму гаспадаркі дробна-капіталістычнае групы больш земляўпарадкаваны ў параўнаньні з рэштаю. Гэта адбылося за лік хутарскае формы землякарыстаньня, дужа пашыранае сярод іх. Аднак-жа, на хутарох упарадкаваны камуністы з ніжэйшых соцыяльных груп. Сярод іх пашыраны хутары з малым памерам пасеўплошчы, жабрацкімі сродкамі вытворчасьці і г. д. Прабываньне такіх гаспадарак „на хутарох" сьведчыць аб надзвычайнай сіле ўласьніцкае псыхолёгіі гэтых камуністаў, політычнай іх адсталасьці і г. д. Індывідуалізму простага таваравытворцы ў іх падпарадкавана ўсё... Тым часам трэба адзначыць, што процант хутарскіх гаспадарак сярод камуністаў мала застаецца ад адноснага ліку хутарскіх гаспадарак сярод сялянства наогул, конкрэтна: 17,1 проц. хутарскіх гаспадарак сярод камуністаў, 19,5 проц. сярод сялянства наогул.

Пададзеныя весткі дазволяць канстатаваць, што ў адносінах ажыцьцяўленьня пастаноў XV зьезду ЎсеКП(б) аб пашырэньні: „такіх формаў землякарыстаньня, якія больш спрыяюць разьвіцьцю коопэраваньня і мэханізацыі сельскае гаспадаркі..." Камуністы-сяляне не зьяўляюцца выяўнікамі дзейнага прыкладу.

Па кірунку іх ральніцтва—гаспадаркі камуністаў вызначаюцца большай інтэнсыўнасьцю, чым агульна-сялянскія гаспадаркі. Гаспадаркі камуністаў даюць павялічаныя прапорцыі тэхнічных культур (лёну і інш.) і пасяўных траў. Гэта падмацоўваюць такія зьвесткі:

| Клясавыя групы | На кожныя 100 дз. пасеву прыходзіцца культур | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Зернавых | Бульбы | Лёну | Траў |
| Пралетарыят | 63,10 | 23,21 | 4,66 | 6,34 |
| Поўпралетарыят | 65,97 | 19.04 | 5,81 | 7,29 |
| Простыя таваравытворцы | 65,77 | 17,34 | 5,50 | 8,94 |
| Дробна-капіт. гаспад. | 64,89 | 15,79 | 5,75 | 12,49 |
| Бяз розьніцы | 65.60 | 18,01 | 5,51 | 8,56 |
| Гаспадаркі ўсяго сялянства | 73,3 | 13,3 | 4,2 | 6,0 |

Пададзеныя лічбы выяўляюць, апрочь усяго, што і ў галіне напрамку ральніцтва наглядаецца простая залежнасьць паміж соцыяльнай прыналежнасьцю гаспадаркі і, напрыклад, яе інтэнсыўнасьці. Гаспадаркі дробна-капіталістычнае групы значна выпярэджваюць ніжэйшыя групы па плошчы—травасеяньня. Па засеву бульбы ў агульным маштабе ральніцтва першае месца займаюць гаспадаркі ніжэйшых соцыяльных груп, бо бульба для іх мае вялікае значэньне, як харчавая культура. Гэта сьведчыць таксама і аб спажывецкім характары

гаспадарак ніжэйшых соцыяльных груп. Аб агрыкультурнай прогрэсыўнасьці разгледжаных гаспадарак сьведчаць наступныя лічбы.

| Клясавыя групы | % гасп. з севазваротам | | | | % гаспадарак | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мяшан. | Трох-польле | Чатырох польле | Шмат-польле | З мінэр. угнаен. | З пас. гатунк. насен. | З мэлі-ярац. |
| Пралетарыят . . . | 17,00 | 46,43 | 11.00 | 8,43 | 17,14 | 23,86 | 5.00 |
| Поўпралетарыят . . | 12,29 | 50,84 | 16.48 | 9,96 | 25,88 | 41,06 | 9,12 |
| Простыя таваравытв. . | 11,44 | 50,55 | 17.40 | 12,34 | 31,46 | 48,00 | 13,24 |
| Дробна капіт. гасп. . | 13,04 | 28,99 | 15.94 | 39,13 | 55,07 | 62.32 | 27,54 |
| Бяз розьніцы . . . | 12,53 | 49,65 | 16,16 | 11,57 | 28,27 | 42,82 | 11,20 |

Усяго толькі 27,7 проц. гаспадарак практыкуюць шматпольны севазварот, пераважная большасьць шматпольнага звароту—пашырана ў гаспадарках дробна-капіталістычнае групы. „Трохпалёўка“ наглядаецца ў пераважнай большасьці ў гаспадарках камуністаў, і наогул ва ўсіх групах гаспадарак за выключэньнем дробна-капіталістычных. Процант гаспадарак, якія ўжываюць мінэральнае ўгнаеньне, асабліва ў ніжэйшых соцыяльных групах, таксама невялікі. Трохі лепш справа з ужываньнем гатунковага насеньня. Але, галоўным чынам, яно праводзіцца гаспадаркамі дробна-капіталістычнае групы. Падагульненьне ўсіх вестак наступнае: чым вышэй па свайму соцыяльнаму стану гаспадарка, тым шырэй ужываюцца ў ёй рознастайныя агрыкультурныя мерапрыемствы, агулам-жа гаспадаркі сялян-камуністаў значнаю агрыкультурнаю прогрэсыўнасьцю не вызначаюцца.

## II.

Тэхнічная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі ўяўляе сабой баявую задачу партыі на вёсцы. Асноўны шлях рэконструкцыі ляжыць па лініі разьвіцьця калектыўных і буйных савецкіх гаспадарак. І пагэтаму камуністы, пакуль яны яшчэ захоўваюць свае індывідуальныя гаспадаркі, павінны праявіць максымальную актыўнасьць у адносінах падняцьця гэтых гаспадарак на больш высокі мэханічны ўзровень. Паглядзім на фактычныя адносіны іх да гэтай справы. Склад сродкаў вытворчасьці гэтых гаспадарак характырызуецца наступнымі лічбамі ў процантах на 1 гаспадарку.

| Клясавыя групы | Усе сродкі вытворч. | Скаціны, птуш. і пчол | У тым ліку | | | | | Гасп. будынкаў | Ганд.-прам. устан. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Усяго інвэнт. | У тым ліку | | | | | |
| | | | | Сел. гас. | Удаск. маш. | Транспарт | Прамыс. [1] | | |
| Пралетарыят . . . . | 100,0 | 61,47 | 9,72 | 3,04 | 0,41 | 5.74 | 0.31 / 0,63 | 28,81 | — |
| Поўпралетарыят . . . | 100.0 | 52,47 | 13,73 | 4,39 | 1,05 | 8,15 | 0.45 / 0.74 | 30,04 | 0,05 |
| Прост. таваравытв. . . | 100.0 | 48.28 | 14,54 | 6,36 | 3,65 | 6,81 | 0,62 / 0,75 | 37,05 | 0,11 |
| Дробна-капіт. гаспад. . . | 100.0 | 42.57 | 19,91 | 11,05 | 7,93 | 5,28 | 2,62 / 0,96 | 37,52 | — |
| Бяз. розьніцы . . . | 100,0 | 49,83 | 14,37 | 6,07 | 3,26 | 6.90 | 0,65 / 0,75 | 35,70 | 0,09 |

[1]) У лічніку—прамысловы, а ў назоўніку—іншы інвэнтар.

Гэтыя лічбы паказваюць тэхнічную адсталасьць гаспадарак: кошт усяго інвэнтару складае толькі 14,37 проц. агульнае каштоўнасьці сродкаў вытворчасьці. У тым-жа ліку каштоўнасьць удасканаленага інвэнтару складае 3,25 проц., а сельска-гаспадарчага 6,07 проц. Апрача таго, і гэты ўзровень каштоўнасьці інвэнтару, асабліва ўдасканаленага, дасягае за лік гаспадарак пераважна дробна-капіталістычнае групы. Вышэй пададзеныя лічбы сьведчаць аб тым, што агульная каштоўнасьць сродкаў вытворчасьці складаецца ў пераважнасьці з каштоўнасьці скаціны і будынкаў. Найбольшую вагу каштоўнасьць скаціны мае ў дзьвёх ніжэйшых групах. Далей гэта вага прогрэсыўна зьніжаецца ў напрамку ад гаспадарак ніжэйшых груп да гаспадарча вышэйшых груп. Удзельная-ж вага каштоўнасьці інвэнтару ўсіх выглядаў у тым-жа напрамку ўзрастае. Увогуле, адтрымоўваецца ня зусім прыемны малюнак разьмеркаваньня сродкаў вытворчасьці. Варта адзначыць яшчэ параўнаўча—вялікую ролю *сахі* (гэтага „сымбалю“ тэхнічнае адсталасьці ў сельскай гаспадарцы) у гаспадарках комуністаў, асабліва дробна-капіталістычнае групы, дзе ўдзельная вага сахі складае 15 проц. усяго рольніцкага інвэнтару. Але ўсё-ж такі будова сродкаў вытворчасьці ў гаспадарках камуністаў лепш, чым у сялянства наогул. У апошніх каштоўнасьць інвэнтару складае ўсяго 10,69 проц. (супроць 14,37 проц. у камуністаў), каштоўнасьць сельска-гаспадарчага інвэнтару—5,39 проц. (супроць 6,67 проц.), каштоўнасьць удасканаленага інвэнтару—2,42 проц. (супроць 3,26 проц.). Разьмеркаваньне сродкаў вытворчасьці выяўляецца яшчэ больш выразна ў наступнай табліцы аб кошце асобных элемэнтаў сродкаў вытворчасьці (на адну гаспадарку ў руб.).

Каштоўнасьць асобных элемэнтаў сродкаў вытворчасьці на адну гаспадарку (у руб.).

| Клясавыя групы | Усёй скаціны | У тым ліку: Раб. коняй | У тым ліку: Кароў | Птуш. і вульляў з пчоламі | Інвэнтару ўсяго | У тым ліку: Сельска-гаспадарчага | У тым ліку: Удасканаленых машын | У тым ліку: Транспортн. | У тым ліку: Прамысловы | У тым ліку: Іншы | Гаспад. будынкаў | Гандлёва-прамысловых установаў | Каштоўнасьць жыльлёвых буд. і лазьняў на 1 гас. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пралетарыят . | 73,40 | 12.92 | 46,38 | 1,85 | 11,90 | 3,72 | 0,50 | 7,03 | 0,38 | 0,77 | 35.29 | — | 208.88 |
| Поўпралет.. . | 141,86 | 45.21 | 64,69 | 2,94 | 35,39 | 11.32 | 2.70 | 21,02 | 1,16 | 1,90 | 77,44 | 0.13 | 197,71 |
| Прост. тавара-вытв. (усе) . | 268,81 | 97,82 | 96,58 | 5,46 | 82,45 | 36,04 | 20,70 | 38,59 | 3,56 | 4,25 | 210,21 | 0,62 | 285,92 |
| Прост. таваравытвorч. з кошт. сродкаў вытвор. до 400 р. | 172,55 | 62,46 | 69,62 | 3,08 | 41,93 | 14,01 | 3,13 | 25.05 | 1,67 | 1.87 | 88,94 | — | 172,48 |
| 401--800 „ | 271,65 | 99,20 | 96,60 | 5,40 | 79,33 | 31,97 | 16,75 | 39,82 | 3,22 | 4,32 | 193,87 | 0,29 | 288,78 |
| св. 800 „ | 409,96 | 149,21 | 139,92 | 9,48 | 160,10 | 87.50 | 64,36 | 55,67 | 9,05 | 7,87 | 469,12 | 2,92 | 459,06 |
| Дробна-капіталістычн. гас. | 372.46 | 129,03 | 140,90 | 12,80 | 180,20 | 99,96 | 71,73 | 47,75 | 23,82 | 8,66 | 339,48 | 0,00 | 526,79 |
| Бяз розьніцы . . . | 208,74 | 72.25 | 81,64 | 4.39 | 61,47 | 25,96 | 13,96 | 29,52 | 2,78 | 3,20 | 152,71 | 0,40 | 256,17 |

Каштоўнасьць прамысловага інвэнтару зусім нязначная ў гаспадарках ніжэйшых груп, але прогрэсуе да вышэйшых груп, дасягаючы параўнаўча значных памераў ў дробна-капіталістычных, па сутнасьці таксама невялікіх. У пададзеных лічбах мы знаходзім яскравую адзнаку соцыялістычнае дыфэрэнцыяцыі гаспадарак, выяўленае значным разыходжаньнем кошту ўдасканаленага інвэнтару на адну гаспадарку. Гэта каштоўнасьць складае ў гаспадарцы пролетарскае групы 0,50 р., а ў гаспадарцы—дробна-капіталістычнае групы—71,30 р. на адну гаспадарку сярэднім лікам. Больш яскрава гэта расплastаваньне вызначаюць наступныя лічбы аб каштоўнасьці сродкаў вытворчасьці на адну гаспадарку.

| Клясавыя групы | Каштоўнасьць сродкаў вытворчасьці на 1 гасп. у руб. | Тэмп росту |
|---|---|---|
| Пралетарыят . . . . . | 122,5 | — |
| Поўпралетарыят . . . . | 257,7 | 210,42 |
| Прост. таваравытворцы . . | 567,05 | 219,99 |
| Дробна-капіт. . . . . . | 904,01 | 159,43 |
| Бяз розьніцы . . | 427,71 | — |

Розьніца вартасьці сродкаў вытворчасьці па гаспадарках розных соцыяльных груп, згодна пададзеных лічбаў, досыць вялікая і складае: паміж першай і другой 110 проц., паміж 3 і 2—20 проц., паміж 3 і 4—59 проц. Сярэдняя каштоўнасьць сродкаў вытворчасьці ў гаспадарцы камуністаў усіх соцыяльных груп складае 427,71 р. Гэта каштоўнасьць ніжэй сярэдняе каштоўнасьці сродкаў вытворчасьці сялянскае гаспад. наогул на 8,8 проц. (у апошніх яна складае 465,5 р.).

Вывад можа быць зроблены такі: пры больш нізкай у гаспадарцы камуністаў агульнай каштоўнасьці сродкаў вытворчасьці, у іх значна большаю, у параўнаньні з гаспадаркамі усяго сялянства, удзельнаю вагою карыстаецца каштоўнасьць інвэнтару—у прыватнасьці, удасканаленага. Гэта сьведчыць аб тым, што камуністы-сяляне больш звярачваюць увагі на падняцьце тэхнічнага ўзроўню свае гаспадаркі. Але усё-ж і пры гэтай умове застаецца ў моцы зробленая вышэй заўвага аб агульнай тэхнічнай адсталасьці разглядаемых гаспадарак.

## III.

Коопэрацыя зьяўляецца—слупаваным шляхам да соцыялізму. Ленін зазначаў, што „рост коопэрацыі Савецкага Саюзу—рост соцыялізму". „Пры ўмове поўнага коопэраваньня мы-б ужо стаялі абедзьвюма нагамі на соцыялістычнай глебе"—пісаў Ленін яшчэ ў 1923 г. Партыя ўвесь час імкнецца да максымальнага ўцягненьня сялянства ў коопэрацыю. Для камуністаў-жа ўступленьне ў коопэрацыю зьяўляецца абавязковым.

Весткі перапісу паказваюць, што ня ўсе вясковыя камуністы ўдзельнічаюць у коопэрацыі. Аб гэтым сьведчаць наступныя лічбы:

| Клясавыя групы | На 100 абсьлед. гаспадарак прыходз. гаспадар. з лікам членаў кооп. агулам | Члены і канд. КПБ, члены кооп. к агул. ліку членаў і канд. КПБ у %% |
|---|---|---|
| Пралетарыят . . . . . | 98,06 | 94.41 |
| Поўпралетарыят . . . . | 97,02 | 86,92 |
| Прост. таваравытв. . . . | 96.55 | 78,89 |
| Дробна-капіт. гасп. . . . | 95,65 | 81,33 |
| Бяз розьніцы . . | 96,89 | 82.85 |

Самы вялікі процант коопэраванасьці паказваюць гаспадаркі ніжэйшых сацыяльных груп. У залежнасьці ад гэтае сацыяльнае прыналежнасьці, выяўляюцца грамадзка-палітычная арганізаванасьць і коопэрацыйная сьвядомасьць камуністых. Па розных галінах коопэрацыі члены КПБ разьмяркованы наступным парадкам:

| Клясавыя групы | На 100 членаў кооп. агулам прыпадае | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Членаў коопэрацыі | | | | | Па пера-прац. і збыт. |
| | Спажывецкае | У тым ліку | | | | |
| | | Сел.-гасп. агул. | Пазыка | Вытворч. | Падсобн. вытв. | |
| Пралетарыят . . . . . | 90,70 | 50,12 | 40,24 | 0,24 | 2,42 | 1,69 |
| Поўпралетарыят . . . . | 89,51 | 56,70 | 43,22 | 0,30 | 5,39 | 3.30 |
| Прост. таваравытвор. . . | 85,48 | 52,49 | 36,94 | 0,38 | 6,91 | 4,44 |
| Дробна-капіт. гасп. . . . | 87,85 | 57,94 | 37,38 | — | 12,15 | 6.54 |
| Бяз розьніцы . . | 87,15 | 53,20 | 38,91 | 0,34 | 6,04 | 3,84 |

Больш усяго удзельнічаюць камуністы ў спажывецкай коопэрацыі, менш усяго ў вытворчай. Паводле ўдзелу камуністаў у сельска-гаспадарчай коопэрацыі пададзеныя весткі дазваляюць канстатаваць парушэньні партыйных дырэктыў—у прыватнасьці, пастаноў XI зьезду партыі, у якой гаворыцца: „удзел камуністаў у сельска-гаспадарчай коопэрацыі і калякстывах свайго раёну, ці таварыствах, бязумоўна, абавязковы“.

IV.

Вышэй мы ўжо казалі пра памеры пазычковае дапамогі, якою карысталіся камуністы-сяляне. Трэба адзначыць, што абсьледваныя гаспадаркі карыстаюцца ня толькі дзяржаўна-коопэрацыйнаю, але прыватнаю пазыкаю. Аб гэтым сьведчаць наступныя весткі.

| Клясавыя групы | На 100 абсьлед. гасп. прыпадае гасп. карыст. агульн. пазыкаю | На 100 паз. гасп. прыпад. карыст. дзярж. і коопер. пазыкаю | На 100 паз. гасп. прыпад. карыс. прыват. паз. |
|---|---|---|---|
| Пралетарыят . . . . . | 48,96 | 88,39 | 19,55 |
| Поўпралетарыят . . . . | 53,40 | 88,15 | 17,42 |
| Прост. таваравытв. . . . | 49,61 | 84,35 | 23,51 |
| Дробна-капіт. гасп. . . . | 57,97 | 67,50 | 40,0 |
| Бяз розьніцы. . | 50,53 | 85,63 | 21,66 |

Як бачна, і крэдытныя сувязі знаходзяцца ў значнай залежнасьці ад соцыялістычнае прыналежнасьці разглядаемых гаспадарак. Дробна-капіталістычныя серадняцкія гаспадаркі карыстаюцца прыватнаю пазыкаю, больш чым гаспадаркі ніжэйшых груп. Коопэрацыйнаю пазыкаю карыстаецца большы процант гаспадарак ніжэйшых соцыяльных груп. Суадносіны-ж памераў дзяржаўна-коопэрацыйнае і прыватнае пазыкі, якімі карыстаюцца разглядаемыя гаспадаркі, характарызуюцца наступнаю табліцаю.

| Клясавыя групы | У сярэднім на 1 гаспад. атрымана пазыкі ў руб. | |
|---|---|---|
| | Дзяржаўнае і каапэрац. | Прыватнае |
| Пралетарыят . . . . . | 85,84 | 59,08 |
| Поўпралетарыят . . . . | 81,50 | 41,15 |
| Прост. таваравытв. . . . | 85,45 | 48,64 |
| Дробна-капіт. гасп. . . . | 115.89 | 72,94 |
| Бяз розьніцы . . | 84,91 | 49,37 |

Пададзеныя весткі паказваюць параўнаўча вялікі памер скарыстоўваньня дзяржаўна-коопэрацыйнае пазыкі гаспадаркамі дробна капіталістычнае групы, пры амаль роўназначным скарыстоўваньні гэтае пазыкі гаспадаркамі ўсіх астатніх сацыяльных груп. Пазыка—магутны сродак уплыву і ўзьдзеяньня. З дапамогаю пазыкі капіталістычныя элемэнты вёскі экспляатуюць незаможныя гаспадаркі, эканамічна няволячы іх. Крэдытная залежнасьць часта зьвязвае камуністаў з сацыяльна варожымі элемэнтамі. Пагэтаму наяўнасьць прыватных крэдытных адносін трэба прызнаць зьяваю ненормальнаю, супроць якое патрэбна

весьці рашучую барацьбу. Аднак-жа выяўляюцца ня менш хваравітыя зьявы і адваротнага кірунку, вось якія: камуністы даюць грошы прыватным асобам. Аб гэтым сьведчаць наступныя весткі:

| Клясавыя групы | Далзена пазычкова | |
|---|---|---|
| | На 100 абсьледаваных гасп. прыпадае даваўшых пазыкі | У сярэднім 1 гасп. давала пазыкі ў год (руб.) |
| Пралетарыят | 3,61 | 26,40 |
| Поўпралетарыят | 3,35 | 26,60 |
| Прост. таваравытв. | 3,04 | 34,52 |
| Дробна-капіт. гасп. | 8,70 | 16,17 |
| Бяз розьніцы | 3,29 | 30,45 |

Праўда невялічкі процант абсьледаваных гаспадарак (пераважна дробна-капіталістычныя групы) пазычаюць грошы. Вынікае пытаньне адносна крыніц сродкаў у разглядаемых камуністаў, асабліва дзьвюх ніжэйшых груп, дзеля названых апэрацый? Як бачна, гэтыя сродкі зьяўляюцца вынікам, галоўным чынам, розных службовых і пабочных заняткаў; аднак-жа, незалежна ад колькасьці грошай гэтых „узаемных“ апэрацый і незалежна ад крыніц сродкаў на гэта, выступленьне камуністаў у якасьці вясковага квотніка зьяўляецца праступкам неэтычным. Тым больш, што побач з гэтым, вельмі значны процант камуністаў ня ўдзельнічае ў дзяржпазыках. Аб гэтым гавораць наступныя лічбы:

| Клясавыя групы | % гаспадар., што ўдзельніч. у дзярж. пазыках агулам | % гасп. што, ўдзельніч. у апошніх дзярж. пазыках |
|---|---|---|
| Пралетарыят | 78,36 | 64,49 |
| Поўпралетарыят | 81,12 | 61,30 |
| Прост. таварвытвор. | 83,58 | 53,17 |
| Дроб. кап. гасп. | 85,51 | 43,48 |
| Бяз розьніцы | 82,19 | 56,75 |

Па меры грашовага ўдзелу абсьледаваных камуністаў у дзяржпазыках складае ў сярэднім на адну гаспадарку: для пралетарскае групы 43,42 р., для паўпралетарскае—46,60 р., для таваравытворцаў—32,08 р., для дробна-капіталістычных гаспадарак—42,32 р. Удзел у дзяржпазыках трэба разглядаць, як пакazьнік палітычнае сьвядомасьці. Паводле вестак аб удзеле ў дзяржпазыках ёю адрозьніваюцца, як бачна, ня ўсе разглядаемыя камуністы. І ў гэтым выпадку, як па пытаньні коопэраванасьці і іншых, камуністы ніжэйшых социяльных груп зьяўляюцца

больш перадавымі, у параўнаньні з камуністамі вышэйшых соцыяльных груп. Гэта асабліва яскрава падмацняюць пададзеныя лічбы аб памеры ўдзелу ў дзяржпазыках.

## V.

„У сучасны момант задача—аб'яднаньня і пераўтварэньня дробных індывідуальных сялянскіх гаспадарак у буйныя калякты павінна быць пастаўлена ў якасьці асноўнае задачы партыі ў вёсцы. Катэгарычна заўважваючы на тое, што гэты пераход можа адбывацца толькі пры згодзе на гэта з боку працоўных сялян, партыя прызнае неадкладна шырока разгарнуць прапаганду неабходнасьці і выгоднасьці для сялянства паступовага пераходу да буйнае грамадзкае сельскае гаспадаркі" (рэзалюцыя XV зьезду аб працы на вёсцы). І так партыя забараняе прымусовую калектывізацыю сельскае гаспадаркі. Працу па ўцягненьню сялянства ў калгасы партыя загадвае весьці мэтадам прапаганды. Аднак, без тлумачэньня зразумела, што пад прапагандай партыя разумее ня толькі агітацыю словам. „Мы павінны зараз-жа, з асаблівым націскам, выпукліць задачу будаўніцтва прыкладных калгасаў... каб самім вучыцца—каб даваць прыклад сялянам"—сказаў Калінін на XVI парт. канф. Пад прапагандай калектывізацыі трэба разумець, у першую чаргу, жывы прыклад, практычны паказ. Зусім зразумела, што „тварцом і насіцелем" гэтага „жывога прыкладу" ў вёсцы павінен быць, раней усіх, камуніст-селянін.

„Правда" нядаўна вяла дыскусію на сваіх старонках аб тым, ці можа быць селянін камуністам, што не працуе ў калгасе, а ў індывідуальнай гаспадарцы. Агульная думка, выказаная ў дыскусіі, зьвялася да няпрызнаньня сумяшчальнасьці гэтых двух станаў. Селянін-камуніст *павінен быць* членам калектыўнае гаспадаркі. Паміж іншым толькі 8,80 проц. гаспадарак камуністаў аб'ядналіся ў калгасныя гаспадаркі, а ад агульнага ліку сялян членаў УсеКПБ толькі 8,83 проц. асабіста зьяўляюцца членамі калгасу. Такі процант удзелу сялян-камуністаў у калгасах зьяўляецца зусім нездавальняючым. Варта заўважыць, што матар'ял перапісу не далічыў фактычнага ўдзелу камуністаў у калгасах—усё-ж агульны малюнак вельмі нязначнага ўдзелу камуністаў-сялян у будаўніцтве калгасаў яскрава выяўлен. Галоўнымі застрэльшчыкамі калектывізацыі сярод камуністаў-сялян зьяўляюцца дэмабілізаваныя ўдзельнікі Чырвонай арміі. З агульнага ліку камуністаў членаў калгасаў 53,10 проц. дэмабілізаваных з Чырвонай арміі, а з іх: 69,20 проц. служылі ў *якасьці чырвонаармейцаў*, 23,26 проц.—у якасьці камскладу і 3,57 проц.—у якасьці палітскладу (роля ў Чырвонай арміі рэшткі ня выяўлена). З агульнага ліку калектывізаваных гаспадарак камуністаў, што ўваходзяць у склад камун, — 34,59 проц., арцеляй — 64,16 проц. і таварыстваў па супольнай апрацоўцы зямлі—1,25 проц. З агульнага ліку калектывізаваных гаспадарак падпарадкавалі *аграмаджаньню свае сродкі вытворчасьці:* поўнаму—47,12 проц., частковаму—10,78 проц., зусім не падпарадкавалі аграмаджаньню—2,75 проц. гаспадарак і ўвайшлі бяз жадных сродкаў вытворчасьці—39,35 проц.—пераважна батракі. Аднак, гэтых колькасных паказчыкаў яшчэ недастаткова дзеля таго, каб атрымаць поўны малюнак якаснага ўдзелу камуністаў у калгасах. Паспрабуем выявіць апошняе: напрыклад, сярэдняя каштоўнасьць на адну гаспадарку сродкаў вытворчасьці, падпарадкаваных поўнаму аграмаджаньню, складае 316 р. 07 к., сярэдняя каштоўнасьць аграмаджанай часткі сродкаў вытворчасьці, тых гаспадарак, якія няпоўнасьцю аграмадзілі свае сродкі вытворчасьці — складае 266 р. 72 к. У гэтых

гаспадарках яшчэ захаваліся сродкі вытворчасьці індывідуальнага карыстаньня на 232 р. 97 к. ці 46,65 проц. у сярэднім на гаспадарку. Пагэтаму, гаспадаркі *больш моцныя*, уступаючы ў калгас, толькі часткова аграмаджваюць свае сродкі вытворчасьці. Гэта навочна вынікае з параўнаньня агульнае сумы каштоўнасьці сродкаў вытворчасьці гаспадарак, поўнасьцю абагуліўшых памянёныя, і гаспадарак часткова абагуліўшых свае сродкі вытворчасьці. У першым выпадку сярэдняя каштоўнасьць іх на адну гаспадарку складае 316,07 р., а ў другім выпадку—499,39 р. Цікава выявіць, у якой часткі асобныя сродкі вытворчасьці аграмаджваюцца і ў якой, наадварот, застаюцца ў індывідуальным карыстаньні. Адказ на гэтае пытаньне дае наступная табліца:

| Сродкі вытворчасьці | % аграмаджваньня срод. вытвор. | % індывідуальнага карыстаньня |
|---|---|---|
| Скаціна . . . | 64,42 | 35,58 |
| Інвэнтар . . . | 42,23 | 57,77 |
| Будынкі . . . | 51,44 | 48,56 |

Як бачым, у значнае часткі ўсе сродкі вытворчасьці застаюцца ў індывідуальным карыстаньні, але аграмаджваюцца патроху будынкі і асабліва інвэнтар, ці бо тыя часткі сродкаў вытворчасьці, якія ўяўляюць максымальную для здаваньня іх ў арэнду каштоўнасьць і галоўную аснову для вядзеньня індывідуальнае гаспадаркі. Камуністы, уступаючы ў калгас, пакідаюць ў індывідуальным карыстаньні ня толькі сродкі вытворчасьці, а нават і зямлю ў ліку (у сярэдняй гаспадарцы) ральлі—2,81 дзесяціны і сенажаці—1,81 дзесяціны. Два такіх калгасьнікі нават здаюць гэтую зямлю ў арэнду. Пяць-жа гаспадарак калгасьнікаў ужываюць наём рабочае сілы (праўда, на кароткі тэрмін і падзённа). Калі падагуліць усе адзначаныя факты, як захоўваньне ў індывідуальным карыстаньні зямлі і сродкаў вытворчасьці і калі ўлічыць якасьць пакідаемых у індывідуальным карыстаньні сродкаў вытворчасьці, у агуле застаецца сказаць, што ў значнае часткі камуністаў-калгасьнікаў яшчэ моцная „прыватна-гаспадарчая зацікаўленасьць.

Апошняе падмацняецца яшчэ і тым, часткова, што 12,78 проц. усіх гаспадарак карыстаюцца індывідуальнаю пазыкаю. Памер гэтае пазыкі складае 148,62 р. у сярэднім на адну гаспадарку. На падставе ўсіх гэтых зьяў могуць (нават унутры калгасаў) узьнікнуць адносіны, якія няўхільна нараджаюць соцыяльныя супярэчнасьці. Камуністы-калектывісты павінны былі нішчыць карані падобных адносін. Побач з адзначаным, 18,80 проц. калектывізаваных гаспадарак прымушаны шукаць працы па-за калектывам: з іх, з водпускам рабочых—25,33 проц., з водпускам служачых—84,0 проц. Апрача таго, 4,0 проц. гаспадарак маюць уласныя промыслы звыш заняткаў. На адну гаспадарку прыпадае ў сярэднім 251,13 дзён, прапрацаваных па-за калгасам. Гэта, па-першае, гаворыць аб тым, што калгасы ня поўнасьцю выкарыстоўваюць наяўнасьць рабочае сілы, а па-другое, аб тым, што камуністы ў значнай ступені адрываюцца ад калгасаў (як у грамадзкім, так і ў асабістым парадку) на розныя службовыя заняткі—прадоўжнага і, нават, заусёдышняга характару. Па сутнасьці справы, адарваны, такім чынам, ад калектыву камуніст, нават маючы з ім гаспадарчую сувязь, перастае быць актыўным яго членам. Падагульняючы ўсё сказанае, даводзіцца

канстатаваць нездавальняючы ўдзел камуністаў у калгасах. Выяўнікамі „жывога прыкладу“—прыкладу сапраўднага, разгледжаныя камуністы яшчэ не зьяўляюцца. Патрэбна прызнаць, што гэта — вынік ня толькі дробна-ўласьніцкае псыхолёгіі асобных камуністаў-сялян, але, напэўна, вынік нядастатковых актыўных адносін да гэтае справы нізавых партыйных арганізацый. Па сутнасьці, некаторыя з іх разглядаюць справу калектывізацыі, як прынцып, як „ідэю“, хуткае ажыцьцяўленьне, якое не зьяўляецца вельмі актуальнаю задачаю. Таму, часам даводзіцца натыркацца і на такія нечаканасьці, як, напрыклад: рашэньне агульнага сходу. Бяседаўскае ячэйкі па пытаньнях калектывізацыі: „Прымаючы пад увагу, што раён сельсавету яшчэ экономічна адсталы, насельніцтва някультурна—таму нельга прымяняць сложных форм калектывізацыі“.

Усё гэта сьведчыць, што праца па каляктывізацыі сельскае гаспадаркі ў сельскіх організацыях не заваявала яшчэ становішча „асноўнае задачы партыі ў вёсцы.

## VI.

Вышэй ўжо часткова ахарактарызавана палітычная актыўнасьць разгледжаных камуністаў. Перапіс дае яшчэ цэлы шэраг іншых паказчыкаў, што характарызуюць іх з гэтага пункту гледжаньня. Наступныя лічбы паказваюць удзел камуністаў у працы *па выбарах*:

| Клясавыя групы | % членаў і канд. КПБ. абраных на працу | З агульнага ліку член. і канд. КП(б)Б працуе па выбарах у % % | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | С-сав | РВК | Проф. | Кооп. | КСУ | Парторганы [1]) |
| Пралетарыят | 54,09 | 32,70 | 3,13 | 5,59 | 9,67 | 4,77 | 4,22/1,23 |
| Поўпралетарыят | 55,87 | 39,77 | 2,76 | 2,67 | 9,16 | 2,40 | 2,40/0,36 |
| Прост. тавар. | 69,40 | 42,92 | 2,92 | 1,62 | 10,33 | 5,34 | 2,70/0,60 |
| Дробна-капіт. гасп. | 62,67 | 38,67 | 5,33 | 4,0 | 17,33 | 2,67 | 4,0/1,33 |
| Бяз розьніцы | 57,8 | 40,54 | 2,95 | 2,51 | 10,06 | 4,52 | 2,89/0,64 |

Агулам больш паловы абсьледаваных камуністаў займаюць выбарчыя пасады. Удзел у працы па выбару камуністаў асобных груп павялічваецца ад ніжэйшых соцыяльных груп да вышэйшых. Самы вялікі процает выбарных асоб даюць камуністы дробна-капіталістычнае групы, што знаходзіцца ў поўнай адпаведнасьці з выяўленым вышэй фактам значнага водпуску „служачых“ гаспадаркамі дробна-капіталістычных груп. Толькі ў профэсыянальных організацыях і часткова ў парторганах удзельнічаюць на першым месцы камуністы пролетарскае групы. Заўважаная зьява тлумачыцца тым, як бачым, што камуністы вышэйшых соцыяльных груп адрозьніваюцца больш высокаю адукаванасьцю, культурнаю і політычнаю. Поруч з тым, заўважаныя зьявы сьведчаць аб тым, што з боку парторганаў, як відаць, *ня робяцца актыўныя захады да высоўваньня на выбарчыя пасады большага ліку*

1) У лічніку адзначаны выбарныя органы ячэйкі; у назоўніку—вышэйшыя парторганы.

*прадстаўнікоў ніжэйшых груп.* Аб удзеле камуністаў агулам у грамадзкім жыцьці сьведчаць наступныя лічбы:

| Клясавыя групы | Лік чл. і канд. КПБ, чл. грамадзкіх арганізацый у % да агульн. ліку член. і канд. КПБ | Лік камун. чл. профс. у % да агульн. ліку чл. і канд. КПБ | Лік камун. чл. КСУ да агульн. ліку чл. і канд. КПБ | Лік камун. чл. дабраахв. грам. арг. да агульн. ліку чл. і канд. КПБ |
|---|---|---|---|---|
| Пралет. . . . . | 96,46 | 90,05 | 17,19 | 90,42 |
| Поўпралет. . . . | 94,40 | 78,47 | 18,33 | 88,79 |
| Прост. тавар. . . | 89,43 | 57,92 | 12,75 | 85,25 |
| Дробна-капіт. гасп. | 89,33 | 64,00 | 17,33 | 85,33 |
| Бяз. розьніцы. | 91,67 | 67,80 | 14,46 | 86,88 |

Найбольш грамадзка арганізаванымі зьяўляюцца камуністы бядняцка-пралетарскіх груп. Зварочвае на сябе ўвагу зусім невялікі процант камуністаў—членаў КСУ. Аб ступені палітычнае і культурнае сьвядомасьці камуністаў сьведчаць весткі аб выпісцы літаратуры.

| Клясавыя групы | % % гаспад., што выпісв. літаратуру | 1 гасп., што выпісв. літар. у руб. | % % падп. да агульнага прыбытку |
|---|---|---|---|
| Пралетарыят . . . | 89,60 | 10,68 | 4,52 |
| Поўпралетарыят . . | 87,81 | 9,58 | 3,43 |
| Прост. тавар. . . . | 88,83 | 9,57 | 2,60 |
| Дробна-капіт. гас. . . | 91,3 | 15,2 | 2,95 |
| Бяз розьніцы . | 88,75 | 9,84 | 3,0 |

Процант гаспадарак, што выпісваюць літаратуру, вышэйшы ў групе дробна-капіталістычнай. Агульныя выдаткі на літаратуру ў гаспадарках гэтае групы таксама вышэй чым у іншых. Але па адносным памеры выдаткаў на літаратуру (да агульнае прыбытковасьці гаспадаркі) першае месца займае гаспадарка бядняцка-пралетарскае групы. Але значны лік гаспадарак зусім ня выпісвае літаратуры, і сьведчыць гэта аб тым, што ўсё-ж пытаньнем самаразьвіцьця і самаадукацыі—вясковыя камуністы ня вельмі цікавяцца. Паміж тым, у сельскіх мясцовасьцях, дзе камуністы жывуць у большасьці выпадкаў распылена, дзе адсутнічае ў дастатку разгорнутая сетка партасьветных устаноў,—самаадукацыя сярод камуністаў павінна набыць самае шырокае разгортваньне. Трэба яшчэ адзначыць, што няпісьменных сярод абсьледаваных камуністаў выявілася мала—усяго 9 чалавек, але выяўлены значны лік малапісьменных, а менавіта: 420 чал. (84—у групе пралетарыяту, 117—у групе паўпралетарыяту і 217—у групе простых таваравытворцаў). Але і малапісьменнасьць, як зьяву, што затрымлівае палітычную актыўнасьць камуністаў—трэба прызнаць зьяваю зусім недапушчальнаю сярод камуністаў. Мабыць, на зьнішчэньне гэтае зьявы мала зварочвалася належнае ўвагі.

VII.

Агулам моцнасьць партыйнае праслойкі ў абсьледаваных гаспадарках характарызуеца наступнымі весткамі:

| Клясавыя групы | На 100 душ усяго насельн. у абсьлед. гасп. прыпадае | | На 100 членаў і канд. КПБ прыпадае членаў КПБ |
|---|---|---|---|
| | членаў і канд. КПБ | толькі членаў КПБ | |
| Пралетарыят | 23,53 | 14,81 | 62,94 |
| Поўпралетарыят | 20,27 | 11,58 | 57,12 |
| Прост. таваравытв. | 16,87 | 9,41 | 55,74 |
| Дробна-капіт. гаспад. | 16,48 | 12,75 | 77,33 |
| Бяз розьніцы | 18,39 | 10,58 | 57,51 |

Як бачна, з гэтых вестак наймацнейшая партыйная праслойка ў гаспадарках пралетарскіх і паўпралетарскіх. Найбольшы-ж процант членаў КПБ у групе дробна-капіталістычнай. Гэта тлумачыцца, як бачна, ранейшым уступленьнем прадстаўнікоў гэтае групы ў партыю, што падмацняецца наступнымі весткамі аб парт. стажы абсьледаваных камуністаў.

| Клясавыя групы | На 100 членаў КПБ прыпадае членаў з парт. стажам | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Да 1917 г. | Ад 1917 г. да 1920 г. | Ад 1921 г. да 1924 г. | Ад 1925 г. да 1927 г. | Ад 1928 г. і пазьн. | Невыяўлены парт. стаж. |
| Пралетарыят | 0.22 | 10,82 | 7,58 | 52,81 | 26,62 | 1,95 |
| Поўпралетарыят | 0,16 | 9,03 | 5,14 | 54,67 | 27,57 | 3,43 |
| Прост. таваравытв. | 0,06 | 8,45 | 2,77 | 52,55 | 29,05 | 7,12 |
| Дробна-капіт. гасп. | — | 18,97 | 5.17 | 51,72 | 15,52 | 8,62 |
| Бяз розьніцы | 0,11 | 9,20 | 4,18 | 53,07 | 28,01 | 5,42 |

Сярод камуністаў дробна-капіталістычнае групы няма камуністаў з стажам да 1917 г., але сярод іх самы вялікі процант камуністаў з стажам 1917-1920 г. Наогул-жа сярод разглядаемых членаў КПБ у пераважнасьці камуністы ад 1925 г. і ніжэй. Большасьць абсьледаваных камуністаў уступіла ў партыю пасьля сьмерці Леніна. „Гэтыя маладыя члены партыі патрабуюць да сябе вялікае ўвагі з пункту гледжаньня правільнага іх выхаваньня“ (Е. Яраслаўскі аб камуністах вёскі). Паміж тым, амаль усе весткі перапісу гавораць, што гэта выхаваўчая праца ў належнай меры не праводзілася. Нацыянальны склад абсьледаваных камуністаў такі:

| Клясавыя групы | На 100 членаў і канд. КПБ прыпадае | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусаў | Яўрэяў | Палякаў | Расійцаў | Ін. нацыянальн. |
| Пралетарыят | 92,0 | 1.63 | 0,82 | 2,18 | 3,13 |
| Поўпралетарыят | 95,11 | 1,69 | 0,53 | 0.80 | 1,87 |
| Прост. таваравыт. | 93,68 | 1,44 | 1,16 | 0,39 | 3,34 |
| Дробна капіт. гасп. | 96,0 | — | 1.33 | — | 2.67 |
| Бяз розьніцы | 93.83 | 1,51 | 0,96 | 0,75 | 1,70 |

Увогуле нацыянальны склад сельскіх камуністаў амаль супадае з нацыянальным складам усяго сельскага насельніцтва БССР. Толькі ўдзельная вага „расійцаў“ сярод абсьледаваных камуністаў значна меншая за ўдзельную вагу „расійцаў“ сярод сельскага насельніцтва агулам (0,75% супроць 6,1% сярод усяго насельніцтва). Сувязь абсьледаваных камуністаў з Чырвонай арміяй характарызуюцца наступнымі весткамі.

| Клясавыя групы | На 100 членаў і канд. КПБ | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Праходз. служ. у Чырв. арм. | З іх | | |
| | | Чырвонаарм. | Паліт. працаўн. | Каманд. склад. |
| Пралетарыят | 73,50 | 68,88 | 3,86 | 17,6 |
| Поўпралетарыят | 65,21 | 60,98 | 2,32 | 23,6 |
| Прост. таваравытв. | 60,17 | 56,68 | 2,69 | 28,78 |
| Дробна-капіт. гасп. | 64,0 | 43,75 | 6,25 | 39,58 |
| Бяз розьніцы | 61,92 | 59,46 | 2,84 | 25,91 |

Найбольшы процант шэрагавых удзельнікаў у Чырвонай арміі даюць бедняцка-пролетарскія групы. Асобы каманднага складу і паліт. працаўнікі больш усяго камуністы дробна-капіталістычнае групы. Як бачна, і гэта тлумачыцца вынікамі іх большай культурнасьці адзначанае раней. Некаторая частка сельскіх камуністаў зьвязана з прамысловаю вытворчасьцю, аб гэтым сьведчаць наступныя лічбы:

| Клясавыя групы | На 100 член. і канд. КПБ прых. прац. на фабр. | На 100 працуючых на фабрыцы прыходзіцца асоб з вытворчым стажам | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Да 1. г. | Ад 1 да 3-х г. | Ад 3-х да 6 г. | Ад 6 і выш. | Ня выяўлены |
| Пралетарыят | 32,83 | 18,26 | 22,82 | 18,26 | 28,22 | 12,45 |
| Поўпралетарыят | 25,89 | 26,46 | 25,09 | 16,15 | 23,71 | 8,59 |
| Прост. таваравытв. | 15,70 | 25,73 | 31,32 | 14,77 | 20,81 | 7,38 |
| Дробна-капіт. гасп. | 16,0 | 25,0 | — | 41,67 | 33,33 | — |
| Бяз розьніцы | 20,73 | 24,12 | 27,04 | 16,35 | 23,61 | 8,88 |

Колькасна больш усяго зьвязаны з прамысловаю вытворчасьцю камуністы ніжэйшых социяльных груп. Вытворчы стаж камуністаў, з па-дадзенных зьвестак, вельмі differents рознастайны. Большым вытворчым стажам адрозьніваюцца аднак камуністы вышэйшых социяльных груп.

## VIII.

Якія-ж вынікі просяцца з усяго сказанага? Соцыяльны склад сялян-камуністаў трэба прызнаць нездавальняючым. На рэгуляваньне гэтага складу не зварочвалася ўвага, бо дырэктыва партыі аб павялічэньні ўдзельнае вагі бядняцка-пролетарскіх элемэнтаў вёскі ў партыі—ня выканана. Вынікі перапісу дазваляюць канстатаваць наяўнасьць сярод вясковых камуністаў цэлага шэрагу адмоўных зьяў, а менавіта:

1. Ужываньне найму рабочае сілы, што мае ня толькі дапаможнае значэньне, аля таксама найму больш сыстэматычнага і працяжнага, што мае на мэце пашырэньне гаспадаркі і накапленьне.

2. Здаваньне ў арэнду сродкаў вытворчасьці і найманьне ў арэнду зямлі ад сялян, чым фактычна практыкуецца эксплёатацыя залежачых маламоцных сялянскіх гаспадарак.

3. Карыстаньне прыватнаю пазыкаю, уваходзячы, звычайна, на падставе гэтага ў змычку з кулацкімі і нэпманскімі элемэнтамі.

4. Пазыка ўласных сродкаў прыватным асобам, урываючы падпіску на дзярж. пазыкі, выступаючы тым самым ва ўяўна недапушчальнай для камуніста ролі вясковага квотніка (ростовщика).

5. Утрыманьне саматужна-прамысловых установаў, прадпрыёмніцкага тыпу і г. д.

На глебе зазначаных зьяў адбываецца ня толькі перарастаньне гаспадарак камуністаў у гаспадаркі павышанага тыпу, але адбываецца ня рэдка і поўнае перараджэньне камуністаў. Перапіс выявіў і больш, што значная частка камуністаў-сялян не зьяўляецца членамі коопэрацыйных організацый; удзел-жа іх у вытворчай коопэрацыі зусім ня значны, што зьяўляецца простым невыкананьнем партыйных дырэктыў. Камуністы-сяляне з большага не зьяўляюцца актыўнымі праваднікамі тых форм земляўпарадкаваньня, „якія зьяўляюцца больш зручнымі для разгортваньня коопэраваньня і мэханізацыі сельскае-гаспадаркі“, аб чым сьведчыць ня значны процант гаспадарак з пасялковаю формаю землякарыстаньня, значны процант гаспадарак з хутарскою формаю і выключная пераважнасьць падворна-цераспалоснай формы землякарыстаньня.

Камуністы-сяляне зусім слаба ўдзельнічаюць у будаўніцтве калектыўных гаспадарак.

Зусім нездавальняючы колькасны ўдзел іх у калектыўных гаспадарках насьлядоўваецца шэрагам адмоўных (а часта неэтычных) зьяў, як: няпоўнае аграмаджваньне сродкаў вытворчасьці пры ўступленьні ў калгас, захоўваньне ў індывідуальным карыстаньні лепшае часткі памянёных: захоўваньне ў індывідуальным карыстаньні зямлі, якою карыстаўся да ўваходу ў калгас; здаваньне пакінутае ў індывідуальным карыстаньні зямлі ў арэнду ці наём батракоў для апрацоўкі апошняе.

Па лініі-ж вядзеньня індывідуальнае гаспадаркі камуністы-сяляне не зьяўляюцца носьбітамі ўдасканаленых формаў і спосабаў сельгас. вытворчасьці (мала ўжываецца шматпольны севазварот, па сыстэме ральніцтва, гаспадаркі камуністаў не вызначаюцца лепшаю інтэнсыўнасьцю і накіраванасьцю.

Сярод камуністаў-сялян ёсьць значны лік малапісьменных. Выдаткі-ж камуністаў-сялян на культурныя патрэбы (выпіску газэт і г. д.) зусім нязначны, асабліва ў гаспадарках больш заможных. Адзначаныя зьявы павінны прыцягнуць да сябе пільную ўвагу партыі—пры наяўнасьці гэтых зьяў сельскія камуністы ня змогуць выка-

наць ролі комуністычнага авангарду ў вёсцы—быць сілаю, што вядзе за сабой шырокія пласты сялянства па шляху социялістычнага пераўтварэньня вёскі.

Зьнішчэньню, выпраўленьню і барацьбе з гэтымі зьявамі павінна быць прызначана максімум увагі і энэргіі. Чыстка партыі дасягне значных вынікаў у гэтым кірунку. Але ўмовы дробна-таварнае вытворчасьці, якія „параджаюць капіталізм і буржуазію, заўсёды, штодзенна, штогадзінна, стыхійна і ў масавым маштабе“, будуць спрыяць розным рэцыдывам.

Пагэтаму, усе дасягненьні чысткі партыі патрабуюць свайго замацаваньня шляхам шырокае, сыстэматычнае, партыйна-выхаваўчае і палітасьветнай работы па ўсьведамленьню задач партыі. Правільнаму ажыцьцяўленьню клясавае лініі ў вёсцы, падняцьцю агульна-культурнага ўзроўню камуністаў і г. д. Да разгорнутае работы ва ўсіх гэтых накірунках парторганізацыі павінны перайсьці як мага хутчэй.

Хв. Ляўчонак.

# Аб будаўніцтве буйнае аграмаджанае гаспадаркі.

Хутарская форма землякарыстаньня, прышчэпленая ў шмат якіх раёнах Беларусі, зьяўляецца аднэй з перашкод на шляху будаўніцтва буйнае аграмаджанае гаспадаркі. Тое, што вядзе за сабою хутарская форма, добра вядома: хутары ўзмацняюць уласьніцкі індывідуалізм селяніна, сярод хутаран нізкі ўзровень грамадзкасьці, хутаранін імкнецца жыць замкнуўшыся ў сваёй уласнай хутарскай шалупіне. Цераспалосіца ў севазваротах, засеў культ. траў, вядзецца, галоўным чынам, выходзячы з натуральных патрэб, ня ўлічваючы запатрабаваньні прамысловасьці, абцяжарваецца плянавае ўзьдзейнічаньне на сельскую гаспадарку. Сама хутарская распыленасьць ёсьць на гэтулькі разнастойны конглёмэрат гаспадарак, што штурхнуць іх (хут. гас.) на шлях аграмаджаньня досыць цяжка. Мы па цэламу шэрагу хутарскіх вёсак маем такія выпадкі, калі гаспадарка, паспрабаваўшы ўсіх „выдоб" хутарскoе формы, хоць сягоньня гатова адмовіцца ад іх і аб'яднацца ў калгас. Але аб'яднаньню перашкаджае тэрытарыяльнае разьмяшчэньне хутароў—ня сходзяцца межы, суседзі паміж іх жадаюць яшчэ жыць на хутары і лічаць непарушнымі пастаўленыя пры земляўпарадкаваньні межавыя знакі—слупы.

Хутарская форма гэта ёсьць кулацкая форма землякарыстаньня—ідэолёг гэтае формы кулак, самы натуральны—ці замаскаваны гаспадарным мужыком, і пагэтаму задаволеныя хутарамі зьяўляюцца носьбітамі і перадатчыкамі кулацкае ідэолёгіі. Усім вядома, што ЦКК КП(б)Б выключыла з партыі Лабаноўскага, які з ячэйковай трыбуны абараняў хутарскую форму, як найкарысьнейшую ва ўмовах Беларусі, і ня бачыў дасканалых шляхоў разьвіцьця сельскае гаспадаркі. Вясковая рэчаіснасьць супроць Лабаноўскага і яго супольнікаў, маюцца калгасы, організаваныя з хутаран, большасьць заяў у нашы камуны дасланы паасобнымі зьбяднеўшымі хутаранамі, процэс—расслаеньня на хутарах выяўляецца гастрэй, процант бясконных па хутарох большы—гэтае сапраўднасьці вёскі ня бачыў Лабаноўскі. Гэтаму перашкажалі кулацкія надвочнікі. Хутарская форма адмёрла, а разам з ёй адмёрлі і трохдворкі, пяцідворкі пасялковае формы пародыі на хутары. І той, хто ня бачыць гэтага,—сам „мярцьвяк".

Калгасны рух набывае ўсё большы і большы размах, нашы некаторыя камуны ў гэтым годзе выраслі на 300 проц. Вёскі цэлых сельсаветаў пераходзяць да калектыўных формаў, аб'ядноўваючыся ў буйныя волаты, але пры такім злучэньні можна наглядаць, як „гаспадарныя хутаранцы" пярэчаць аб'яднаньню, яны імкнуцца захаваць свае наседжаныя месцы; у гэтым годзе лік організаваных калгасаў выпярэдзіў плянавыя меркаваньні; калгасам перадаюцца опэрацыйна-гаспадарчыя

функцыі, усё гэта ставіць перад намі заданьне організацыйна замацаваць дасягнутае ў калгасным будаўніцтве, своечасова земляўпарадкаваць організаваныя калгасы, зрабіць захады да падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кіраўнікоў калгасаў, і кіраўнікоў асобных галін, шляхам пропуску цераз асобна-організаваныя спэцыяльныя курсы; вырашыць пытаньне забясьпечаньня трактарамі і машынамі, падрыхтаваць машынных працаўнікоў. Адсутнасьць, нават у буйных калгасах, абсталяваных майстэрняў, дзе было-б магчыма ўтвараць рамонт складаных машын, ставіць неадкладную задачу ў кірунку організацыі падобных майстэрняў.—Ня можна весьці мэханізаваную гаспадарку, рамантуючы машыны не каля блізу ў сябе, а на далёкім заводзе, што будзе выклікаць доўгі прастой машын; своечасова трэба паклапаціцца аб забесьпячэньні трактараў і іншых складаных машын—запаснымі часткамі. Організацыя майстэрняў у буйных калгасах, ці хоць-бы ў „кустах"—патрабуе падрыхтоўкі і адпаведных спэцыялістых: мэханікаў, сьлесароў, такароў, кавалёў і інш. Недахват гэтых спэцыялістых можа быць папоўнены двума шляхамі: шлях першы—пасылка ў калгасы спэцыялістых рабочых з заводаў, якія, працуючы пэўны час у організаваных майстэрнях (хоць бы ў час пасяўное і ўборачнае кампаній) памагалі-б, калгасам сваёю працаю, своечасна рамантуючы машыны і ўсе прылады, а таксама садзейнічалі-б падрыхтоўцы і кваліфікацыі спэцыялістых з калгасьнікаў, жыцьцёвасьць гэтага шляху падмацняецца спробамі пасылкі на вёску рабочых брыгад; шлях другі—гэта пасылка калгасьнікаў на завод, дзеля набыцьця кваліфікацыі, прыкамандыраваньне да прафшкол і інш. Поплеч з падрыхтоўкай спэцыялістых вызначанымі шляхамі, падрыхтоўка пойдзе і цераз нашы навучальныя ўстановы, куды павінен быць накіраван пэўны лік калгаснае моладзі.

Пастаўленыя перад калгасам заданьні і сама шырыня калгаснага руху абавязвае нас паляпшаць, удасканальваць існуючыя формы кіраўніцтва. Трэба проста сказаць, значны лік організаваных у гэтым годзе калгасаў абцяжарвае належнае абслугоўваньне з боку акругова Калгассаюзу, ёсьць небясьпека адрыву Калгассаюзу ад нізавых організацый. За Калгассаюзам павінна застацца роля пляную ючае ўстановы: разьмеркаваньне крэдытаў, забесьпячэньне машынамі, збываньне продукцыі і інш. Калгассаюз вядзе організацыйную працу ў галіне калгаснага будаўніцтва, але каб кіраўніцтву з боку Калгассаюзу акругай надаць належную гнуткасьць, каб наблізіць кіраўніцтва да нізавых організацый, каб паставіць лепш абслугоўваньне ўсіх калгасаў, каб абслугоўваньне і кіраўніцтва садзейнічала злучэньню калгасаў у буйныя аб'яднаньні—неабходна існуючую сыстэму калгасаў у раёне пераглядзець. Маюцца думкі, у зьвязку з правядзеньнем рэорганізацыі акругі, у зьвязку з пашырэньнем раёнаў, у раёнах стварыць калгассэкцыі, ці раённыя калгассаюзы, як асяродкі, кіруючыя ўсім калгасным рухам на тэрыторыі іх дзейнасьці. Бясспрэчна, што ўтварэньне такіх устаноў палепшыць як само абслугоўваньне колгасаў, таксама і палепшыць кіраўніцтва Акрсаюзу. Але ўтвараючы ў раённых асяродках установы, па форме былых калгассэкцый ці акр. саюзу, мы ўнесьлі-б у гэтую справу значную частку непатрэбных роўналежнасьцяй.

Утвараючы ў раёнах адпаведныя організацыі, ці бо, як сказана вышэй перабудоўваючы сыстэму калгасаў, мы павінны заўсёды на ўвазе мець наступнае: буйны калгас, камбінаванае сельска-гаспадарчае прадпрыемства—камбінат, адзінае сельска-гаспадарчае прадпрыемства раёну. Гэтыя задачы будуць ажыцьцяўляцца паступова, віткі шляхоў ажыцьцяўленьня ўжо часткова вызначаюцца нашымі куставымі аб'яднаньнямі, якія павінны зьяўляцца грунтам для будучых буйных калгасаў.

Нашы куставыя аб'яднаньні за год свайго існаваньня яшчэ нямнога дасягнулі, аб'яднаўшыся дзеля супольнага агра-абслугоўваньня; такія-ж задачы, як гаспадарчае зрошчваньне навакол маючыхся прадпрыемстваў, пабудова новых—агульных прадпрыемстваў, аграмаджаньне асобных галін, супольная рэалізацыя прадукцыі,—будуць і павінна пашырацца імі ў будучым. Але ўсё-ж на сягоньня трэба сказаць, што шлях куставаньня—гэта пэўны шлях узмацненьня калгасаў. Перадача калгасам опэрацыйна-гаспадарчых функцый значна пагоршыць пераход злучаных у куст калгасаў у адно сельска-гаспадарчае прадпрыемства, а пагэтаму тэй організацыяй у раёне, каторая павінна атрымацца ў выніку перабудовы калгассеткі, павінен зьявіцца куст. Куст павінен уяўляць сабой асяродкаванае кіраўніцтва ўсімі калгасамі, што ўваходзяць у яго склад.

Куст павінен зьяўляцца юрыдычнаю асобаю, якая дзейнічае ад усяе групы калгасаў, куст разглядвае ўсе пытаньні, зьвязаныя з калгасным будаўніцтвам падпарадкаванага яму раёну. Ён складае вытворчыя пляны, выяўляе патрэбнасьць у крэдытах, разьмяркоўвае крэдыты, організуе збыт продукцыі, выпатрабоўвае неабходныя машыны, выпаўняе аграабслугоўваньне, праводзіць абсьледваньне і інструктаваньне калгасаў, заключае контрактацыйныя ўмовы, з прылягаючым да калгасаў насельніцтвам, робіць захады ў кірунку рэалізацыі контрактацыйных умоў і інш. Праўленьне куста прапрацоўвае пляны росту—пашырэньня калгасаў.

Куст павінен уяўляць буйную вытворчую адзінку з агульным прадпрыемствам па перапрацоўцы продукцыі сельскае гаспадаркі, з агульнымі майстэрнямі, з агульнымі мэханічнымі рухавікамі.

Узбуйненьне паасобных існуючых калгасаў у сучасны момант ідзе наступнымі шляхамі: злучэньне дробных у адзін агульны калгас з адзіным статутам і агульным плянам гаспадараньня. Наглядаецца злучэньне і ня толькі мяжуючых тэрыторыяльна калгасаў, але злучаюцца калгасы тэрыторыяльна падзельныя, абагульваючы ўсе сродкі вытворчасьці, не пакідаючы працаваць на палажэньні экономіі ад буйнага калгасу: у час вясеньняе пасеўнае кампаніі ў вёсцы „Бярозаўка" Гарадоцкага раёну організаваўся калгас з агульнай плошчай зямлі 150 гект., маючы недахоп у цяглай сіле—рабочых коняй, гэты калгас выбраў самае лепшае—уліца ў камуну імя „Леніна", дзе ёсьць трактары, злучэньне было шпарка ажыцьцёўлена, і дало мажлівасьць вяснавую пасеўную кампанію правесьці як належыць; бяз злучэньня нямінуча была-б пагроза зрыву—„Бярозаўка сваімі сіламі ня ўправілася-б з засевам ярыны. Адлегласьць ад „Бярозаўкі" да цэнтру камуны—каля 6 вёрст. Пасьлядоўцам „Бярозаўкі" стала і арцель „Чырвоны Араты". Адлегласьць яе ад камуны каля 4-х вёрст, арцель прыняла статут і злучылася з камунай імя „Леніна". Камуна-ж ставіць за мэту тэрыторыяльна злучыць у агульнае аб'яднаньне распыленыя яе часткі. У сучасны момант падрыхтоўваецца глеба для ўтварэньня яшчэ аднэй экономіі з жадаючых увайсьці ў склад калгасаў; пашырэньне зямельнае плошчы вядзецца таксама шляхам прырэзкі зямлі ўступаючых у калгасы, шляхам прырэзкі зям. фондаў, атрыманых ад сельсавету, з прычыны перасяленьня ў другія раёны.

Галоўную ролю ў справе ўтварэньня буйное гаспадаркі, у справе пашырэньня нашых камун і арцеляй і іх аграмаджаньні—адыгрывае трактарызацыя. У часткі нашых спэцыялістаў, у часткі нашае грамаздкасьці ёсьць недаацэнка трактара ў нашых беларускіх умовах. Некаторыя лічаць, што трактарызацыя мажліва і карысна толькі ва ўмовах экстэнсыўнага земляробства, ва ўмовах, дзе тлустая

чорназемная глеба, пры інтэнсыўным земляробстве, на бедных глебах—трактар бескарысны—гэта рэакцыйны, антымашынны выпад ня толькі ня мае жадных падстаў, але ён на карысьць кулакам, на карысьць усім выступаючым у вёсцы супроць колектывізацыі. Вось што казаў кулак на сходзе, дзе абгаварвалася пытаньне аб утварэньні ў сельсавеце буйнага калгасу: „Вы, дакладчык, гаворыце аб калгасах, а ці ведаеце—якая там зямля, дзе гэтыя самыя трактарныя колёны?—на нашых пясках ды глінах трактар ня пойдзе". Праца-ж трактарамі ў нашых умовах даказала цалкам і поўнасьцю іх карысьць. Трактары скарыстоўваюцца ня толькі для араньня, але за недахопам коняй скарыстоўваюцца як цяглая сіла, пры перавозках—як рухавікі машын і інш. Трэба больш рашуча праводзіць трактарызацыю буйных гаспадарак, утвараючы трактарныя колёны пры „кустох" і буйных камунах, і тым самым паскараць рост аграмаджанага сэктару ў паляводзтве, даючы выйсьце бяскопным гаспадаркам з іх залежнага становішча; трактарныя колёны не павінны абмінуць серадняка які трымае з большага каня стратна для сябе за адсутнасьцю поўнае нагрузкі. Трактарныя колёны ў выніку змогуць быць раённымі машына-трактарнымі станцыямі.

Электрабудаўніцтва, якое разьвіваецца, ня здымае пытаньне трактарызацыі з чаргі дню і не памяншае яго значэньня, праўда, ва ўмовах нашае социялістычнае дзяржавы мы не абавязкова павінны і ня будзем пераходзіць паступова ўсе ступені тэхнічнага разьвіцьця—у нас поўнасьцю мажлівы такія пераходы: ад плуга простага—да плуга электрычнага. Але энэргія будуемых электрастанцый, у першую чаргу, будзе трацицца на ўзрастаючую прамысловасьць, у сельскай-жа гаспадарцы на бліжэйшыя гады галоўнай цягавай сілай будзе, бязумоўна, трактар, і машына-трактарныя станцыі будуць вышэйшай формай мэханізаванае вытворчасьці пры пераходзе ў сельскай гаспадарцы ад рухавіка ўнутранага згараньня да электрычнасьці. Кіравацца на будучы электраплуг і не даацэньваць сягоньня трактар—гэта значыць груба памыляцца.

Пытаньне заснаваньня будынкаў у калгасах на сягоньня павінна заняць значнае месца ў шэрагу іншых пытаньняў калгаснага будаўніцтва. Мы ня можам пахваліцца наяўнасьцю плянавасьці ў справе будаўніцтва, мы ня маем вызначанага для нашых умоў стандарту будынкаў, якім-бы можна было кіравацца; мы з большага пры ўступленьні сялян у калгас перавозім хаты і становім іх, у такім выглядзе, у якім яны і былі—мы ня маем стандарту, утворанага на падставе больш мэтазгоднага карыстаньня будынкаў. Буйны калгас патрабуе і буйнага будаўніцтва, ня трэба кіравацца на асобныя невялічкія хаткі, ня выгадна будаваць дамы на 2—3 кватэры—трэба вялікія будынкі, трэба агульныя кухні, сталовыя, клюбы і інш. Распачынаць будаўніцтва ў арганізаваных калгасах трэба ў першую чаргу з агульных кароўнікаў, бо ад пастаноўкі справы жывёлагадоўлі залежыць і ральніцтва. Капітальнае будаўніцтва павінна адбывацца ў такіх калгасах, якія перароблцца ў асяродкі будучых буйных гаспадарак. Будаўніцтва вымагае адпаведных матар'ялаў, неабходна ў бліжэйшыя гады, месца будаўніцтва забясьпечыць у патрэбнай колькасьці цэглай, імкненьне некаторых калгасаў выпрабляць цэглу саматужным шляхам, патрэбна разгортаваць, патрэбна пераходзіць да выпрабу цэглы шляхам арганізацыі заводаў. Беларусь у мінулым была пастаўшчыком рабочае сілы на цагельні, беларус хаджалы—шмат папрацаваў у земляніках, сушніках, парадоўшчыках, навучыўся гэтай нахітрай кваліфікацыі—гліны на Беларусі колькі хочаш.

Пытаньне парт. кіраўніцтва ў справе будаўніцтва буйнае сельскае гаспадаркі мае найвялікшае значэньне. Праслойка партыйцаў у калгасах слабая, трэба яе ўзмацніць; у калгасах павінны быць арганізаваны ячэйкі. Сел. арганізацыі павінны больш увагі аддаваць па сваім раёне—калгасьнікам, асяродкам працы сельячэйкі павінен быць калгас. Кіраўніцтва калгасрухам з боку акруговага аддзелу па працы ў вёсцы не адчуваецца, яно недастаткова. Для ўзмацненьня парт. кіраўніцтва трэба ў сельрайкомах арганізаваць калгасбюро, павялічыўшы склад райкому на аднаго працаўніка, у некаторых-жа раёнах гэта пасада можа выконвацца па сумяшчэньню; калгасбюро, перапрацоўваючы ўсе пытаньні, маючыя дачыненьне да калгаснага будаўніцтва, будзе садзейнічаць узмацненьню парт. кіраўніцтва, як райкомаў так і акруговага аддзелу па працы на вёсцы.

# НА МЯСЦОХ

М. Сьвярдлін.

## За якасьць парткіраўніцтва.

Абсьледваньне, праведзенае Бабруйскім АК КПБ чатырох раённых партарганізацый (Бабруйскае, Рагачэўскае, Слуцкае і Чырванаслабодзкае), выявіла цэлы шэраг вялікіх недахопаў у рабоце гэтых арганізацый. Адным з гэтых недахопаў, які, па маёй думцы, зьяўляецца асноўным і з якога выцякае ўсё астатнае, зьяўляецца тое, што нашы Райкомы яшчэ не навучыліся як сьлед увязываць тых агульных чарговых задач, якія стаяць у гэты час перад усёю нашаю партыяй з канкрэтнымі асаблівасьцямі, умовамі, эканамічным характарам свайго раёну. Адгэтуль і ідзе тое, што парткіраўніцтва зьяўляецца нявыразным, расплыўкім. Перад партарганізацыяй ня ставяцца асноўныя, вузлавыя пытаньні, якія трэба зрабіць стрыжнем, зьвяном усяе работы арганізацыі, у выніку чаго бывае цэлы шэраг промахаў як у эканамічным, так і палітычным разьвіцьці раёнаў. Уся цяжкасьць нашага парткіраўніцтва менавітна на даным гістарычным этапе, зразумела, на шэрагу з агульнымі цяжкасьцямі, што выцякаюць з нашага шпаркага тэмпу разьвіцьця сацыялістычнае гаспадаркі краіны, заключаецца менавіта ў тым, што сучасная праца патрабуе выразнага канкрэтнага кіраўніцтва, што кіраваць „наогул" гэтаму пэрыяду зусім не адпавядае, што прызнаваць агульную лінію партыі правільнай без канкрэтнага яе правядзеньня ў жыцьцё з вучотам асаблівасьцяй характару свайго раёну, зусім не здавальняюча, ці проста кажучы, нягодным. А вось канкрэтызаваць чарговыя задачы, што стаяць перад намі цяпер для свайго раёну, умець шпарка выхопваць з грунтоўнага, а грунтоўнае ухапіцца за тое грунтоўнае зьвяно, вакол якога трэба сканцэнтраваць усю сваю ўвагу, вакол якога трэба мабілізаваць партыйную і камсамольскую арганізацыі і савецкую грамадзкасьць вёскі. Гэтага мы яшчэ ня досыць навучыліся і адгэтуль грунтоўныя стрыжнёвыя пытаньні недастаткова знаходзяць практычнае вырашэньне з патрэбнымі эфэктыўнымі вынікамі ў рабоце раённых арганізацый. Гэта паказала абсьледваньне 4-х раённых партарганізацый Бабруйскае акругі, у прыватнасьці, Бабруйскае раённае арганізацыі.

Спынюся толькі на Бабруйскай райпартарганізацыі, па-першае, таму, што ў абсьледаваньні гэтае арганізацыі я асабіста ўдзельнічаў, а па-другое, што Бабруйскі раён зьяўляецца больш спэцыфічным, характэрным за астатнія раёны акругі. Бабруйскі раён, раней складзены з двух раёнаў, мае 97 тысяч насельніцтва з агульнаю колькасьцю, сялянскіх гаспадарак 17257, з якіх: бядняцкіх і паўбядняцкіх (аслабанёных ад падатку і з нязначным падаткам) 5150 гаспадарак, серадняцкіх 11700 і кулацкіх 407. Як відаць з вышэй паказаных лічбаў, раён зьяўляецца вельмі вялікім як па тэрыторыі, так і па заселенасьці.

а ў эканамічных адносінах зьяўляецца серадняцка-бядняцкім з адносна вялікаю кулацкаю групаю. Па характару гаспадарак раён зьяўляецца ў асноўным—зернавым. Паводле эканамічнага характару раёну і характару гаспадарак здавалася-б, што адна з галоўнейшых задач, якая павінна была-б стаяць перад партарганізацыяй, гэта задача калектывізацыі і вытворчага каапэраваньня, а гэтая задача амаль зусім не зрабіла адбітку на рабоце арганізацыі. Вядома, што нельга спадзявацца і на добрыя вынікі. Давяду на фактах:

На I/X-28 г. налічвалася 16 каляктываў з агульнаю колькасьцю ўцягнутых гаспадарак 100, а на I/VI-29 г. каляктываў налічвалася 18 з агульнай колькасьцю ўцягнутых гаспадарак 112 (на працягу 8 месяцаў раён вырас толькі на 2 каляктывы і 12 індывідуальных гаспадарак, уцягнутых у гэтыя каляктывы). Пры чым, гэтыя каляктывы былі арганізаваны на бывалешніх памешчыцкіх землях і на запасным фондзе (на такіх землях арганізацыя каляктываў ніякіх цяжкасьцяй ня сустракае) і як па сваёй плошчы, так і па гаспадарчай магутнасьці, гэтыя каляктывы надзвычайна слабыя, іхная ўраджайнасьць значна менш за сярэднюю сялянскую індывідуальную гаспадарку. Характэрна адзначыць і такі факт, што, праводзячы земляўпарадкаваньне ў 27-28 г. г. на ўсёй упарадкаванай зямлі, было створана 67 пасёлкаў і 86 хутароў і толькі за апошні час афармляецца адзін калгас. Вытворчых арцеляй і таварыстваў на I/X-28 г. налічвалася 18 з агульнаю колькасьцю пайнікаў ў 6517, а на 1/IV-29 г. колькасьць арцеляй і таварыстваў не павялічылася, а колькасьць пайнікаў павялічалася на 662 ч. Чым тлумачыцца, што пытаньні каляктывізацыі ў такім раёне, які па сваім характару павінен быць першым па нашай акрузе, знайшлі надзвычайна слабае практычнае вырашэньне? Можа ёсьць рад іншых умоў, якія перашкаджаюць разьвіцьцю калгаснага руху ў раёне і вытворчага каапэраваньня?—Не! На маю думку ў гэтым раёне ёсьць усе ўмовы, каб раён больш хутка рос у калгасным руху і вытворчым каапэраваньні, а гэта тлумачыцца толькі тым, што парткіраўніцтва РК было накіравана ня туды, куды трэба, гэта тлумачыцца тым, што Райком не зразумеў, наколькі вось гэтая задача зьяўляецца для яго асноўнаю, зьяўляецца для яго тым зьвяном, за якое ён павінен быў ухапіцца. Арганізацыяй ня было завострана ўвагі на гэту задачу, бедната і асноўная маса серадлякоў ня былі мабілізаваны вакол гэтае задачы, Райкомы не націснулі на ўсе рычагі і адтаго такія сумныя вынікі.

Тое самае з пытаньнем працы сярод беднаты і батрацтва. Чаму гэтыя пытаньні для Бабруйскага раёну набываюць асаблівае значэньне? А вось чаму. Бабруйскі раён свайго адміністрацыйна-эканамічнага цэнтру ня мае. Яго адміністрацыйна-эканамічным цэнтрам зьяўляецца горад Бабруйск, які зьяўляецца рынкам збыту сельска-гаспадарчых прадуктаў сялянства раёну. Значная частка сялянскага насельніцтва жыве вакол самога гораду і зусім зразумела, што ўплыў капіталістычных элемэнтаў гораду на асобныя групы сялянства, сувязь гарадзкога скупшчыка і гандляра (шляхам продажу і куплі) на асобныя групы беднякоў і серадлякоў большы, як у другім раёне і ўрэшце „змычка“ гарадзкога нэпмана з вясковым кулаком значна мацней, як у другім раёне, што ня мае гэтых асаблівасьцяй.

Адгэтуль палітмасавая праца сярод беднаты, арганізацыя яе вакол канкрэтных мерапрыемстваў партыі і ўлады, арганізацыя канкрэтнае гаспадарчае дапамогі беднаце для Бабруйскае райпартарганізацыі набывае асаблівае значэньне. Між тым, абсьледваньнем выяўлена, што гэтая галіна працы надзвычайна слаба разгорнута. Пры правядзеньні

абсьледаваньня мы стыкнуліся з цэлым шэрагам ячэек, якія, дзякуючы таму, што ў іх няма яскравае ўстаноўкі ў гэтым пытаньні, ніякае працы сярод беднаты не вядуць і, як вынік, супраціўленьне з боку асобных бядняцкіх груп у пытаньні калектывізацыі і іншых гаспадарчых мерапрыемстваў. Чым гэта тлумачыцца? Гэта тлумачыцца, зразумела, ня толькі якасным складам арганізацыі (хоць арганізацыя вельмі засьмечана гнілымі і чужымі нам элемэнтамі, але аб гэтым у наступны раз), а гэта тлумачыцца тым, што РК ня ўлічыў наколькі востра стаіць для іх пытаньне працы сярод беднаты. Райком ня ўлічыў характару і асаблівасьцяй свайго раёну, каб у сувязі з гэтым будаваць сваю працу. Таму і не паставіў ён гэтае задачы перад сабою, як аднае з асноўных і ў выніку—партарганізацыя ня была мабілізавана вакол гэтае задачы і праца сярод беднаты пастаўлена слаба.

Тое самае маем і з батрацтвам, хоць іх і выяўлена каля 300 чал. Хаця эканамічна-прававое становішча некалькі палепшылася (маем павышэньне зарплаты ў параўнаньні з мінулым на 20%, значна больш заключана працдагавароў), але палітмасавая работа, работа па арганізацыі іх вакол партыі—гэта работа слаба праводзілася і як, вынік, ніякага росту партарганізацыі за лік батрацкіх груп.

І нарэшце трэцяе, што павінна было быць, па-мойму адным з асноўных,—гэта вытворчасьць і, у сувязі з гэтым, больш лепшая пастаноўка палітмасавае працы на прадпрыемствах, і інтэрнацыянальнае выхаваньне. Чаму? Таму, што, па-першае, у раёне ёсьць значная па сваёй вытворчай магутнасьці група прадпрыемств з агульнаю колькасьцю штатных рабочых каля 900 чалавек (гута „Камінтэрн“, 2 пільні, 4 саўгасы і некалькі саматужных прадпрыемстваў, як „Млыналес“, які працуе на экспарт) і, па-другое, што гэтыя прадпрыемствы знаходзяцца сярод сялянства, дзе, бязумоўна, рабочыя камплектуюцца з сялян і адгэтуль сялянскі настрой сярод рабочых. Таму, як пытаньні вытворчасьці (працдысцыпліна, вытворчасьць працы, якасьць прадукцыі, зьніжэньне сабекошту і правядзеньне сацыялістычнага спаборніцтва), гэтак і пытаньне палітмасавае працы і інтэрнацыянальнага выхаваньня зьяўляюцца адным з асноўных у рабоце партыйнае арганізацыі. Між тым пытаньні вытворчасьці амаль што прашлі міма ўвагі Райкому; кіраўніцтва РК гэтымі пытаньнямі амаль не адчувалася і ў выніку цэлы шэраг недахопаў (на заводзе „Камінтэрн“ за апошні час маем цэлы шэраг дасягненьняў, што зьяўляецца вынікам правільнае пастаноўкі працы партыйнае ячэйкі), а пытаньні палітмасавай працы займалі слабае месца ў рабоце арганізацыі. Выходзячы з вышэй сказанага, трэба зрабіць наступныя вынікі:

1. Якасьць парткіраўніцтва ў раёнах адстае ад характару пэрыяду, што намі перажываецца.

2. Нашы Райкомы яшчэ не навучыліся выхопваць з грунтоўнага грунтоўнае і вакол гэтага канцэнтраваць сваю ўвагу.

3. Нашы Райкомы недастаткова ўмеюць канкрэтызаваць асноўныя задачы, якія стаяць перад усёю нашаю партыяй і паводле характару, умоў свайго раёну, практычна іх вырашаць.

4. Неабходна яшчэ раз пачаць абгаварэньне аб сыстэме нашага нізавога парткіраўніцтва (хоць за апошні час гэтае пытаньне знаходзіць больш поўнае асьвятленьне на старонках нашага друку), так і ў спэцыяльных партчасопісах.

---

Д. Фішбейн.

# Праца і чарговыя задачы савецкіх ячэек гарадзкіх раёнаў.

*(З матар'ялаў абсьледваньня Гомельшчыны).*

Зрабіць аналіз тых станоўчых бакоў, а галоўным чынам тых адмоўных, якія ёсьць у працы савецкіх ячэек і на падставе гэтага аналізу вызначыць канкрэтныя мерапрыемствы па паляпшэньню працы савецкіх ячэек—зьяўляецца, бязумоўна, неабходным, па-першае, таму, што перад савецкімі ячэйкамі ў апошні час стаялі 2 буйныя задачы: гэта падрыхтоўка да правядзеньня чысткі апарату і падрыхтоўка да чысткі партыі, на падставе якіх мы павінны і можам меркаваць аб працаздольнасьці тэй ці іншай савецкай ячэйкі. Па-першае, эпоха сацыялістычнага будаўніцтва, у якую мы ўступілі, высоўвае настойнае заданьне—пераўтварэньня сыстэмы працы савецкага апарату ў адпаведнасьці з запатрабаваньнямі сучаснага пэрыоду, і наданьня яму большае грамадзкасьці, масавасьці і сувязі з шырокімі коламі працоўных. Сацыялістычнае спаборніцтва, што праводзіцца рабочаю клясаю, патрабуе зьмены працы савецкіх установаў, такім чынам усё вышэйпададзенае патрабуе ад савецкіх ячэек зьмены тэмпу працы ў кірунку яго максымальнага паскарэньня і зьмены закасьцянелых традыцый у працы „авось, ды нябось", ці „праца ня воўк—у лес не ўцячэ".

### Якавы плюсы?

Праведзенае раённым Камітэтам КП(б)Б абсьледваньне паказвае, што ў працы савецкіх ячэек раёну побач з буйнымі недахопамі, памылкамі асобных ячэек, хворымі момантамі і нярэдка скажэньнем парт. лініі па асобных ячэйках, мы за апошні год маем вядомае паляпшэньне наступнага парадку: частка ячэек бліжэй падышла да жыцьця сваёй установы, пачала больш займацца вытворчымі пытаньнямі апарату, больш вывучаць яго і г. д. (Фін. аддзел, Акрсуд, АНА, Райсаюз і інш.), значнаю часткаю ячэек з большага выкананы дырэктывы партыі па пытаньнях зьніжэньня адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў, таксама можам заўважыць некаторыя дасягненьні па рацыяналізацыі і спрашчэньню апарату, дзе частка ячэек, бязумоўна, прымала актыўны ўдзел у гэтай працы. Мы маем вядомае аздараўленьне і ўзмацненьне савецкага апарату ў раёне, асабліва ўзмацненьне тэмпу арабочваньня яго і некаторае ачысткі ад чужых нам элемэнтаў, але, адзначаючы вядомыя дасягненьні ў працы савецкага апарату ў раёне, асабліва ў частцы ячэек, *мы павінны загастрыць нашу ўвагу на тых адмоўнасьцях і буйных недахопах, якія маюцца на сягоньня ў працы савецкіх ячэек раёну.*

### Якавы мінусы?

Значная часта ячэек яшчэ і сягоньня мала займаецца пытаньнямі жыцьця і стану працы свае ўстановы; у гэтых ячэйках ёсьць зусім нязначны адбітак вытворчых пытаньцяў свайго апарату, яго сыстэматычных вывучэньняў—адгэтуль кіраўніцтва жыцьцём апарату, яго працай, яго асобнымі зьвеньнямі і г. д. у частцы ячэек стаіць на нізкім узроўні (Зям. аддзел, Банкаўская, аддзел працы, Дзярж. тэатраў і інш.). Складаецца такое становішча, што ў значнай большасьці ўстаноў эканом. праца надзвычайна слаба разгорнута, а ў паасобных мясцох амаль-што адсутнічае. Там, дзе такая-сякая праца праводзілася, то цераз эканомкамісію, пашыраныя эканомнарады рэдка калі праводзяцца і існуе нават такі настрой, што эканомнарады не патрэбны, нічога не даюць, і г. д. У выніку эканомпраца замыкаецца ў вузкім коле членаў эканомкамісіі—5—6 асоб, а калі камісія ўдаецца непрацаздольнай, то гэта праца кульгае на ўсе 100%. Галоўнай прычынай, а па-мойму, рашучай прычынай паслабленьня працы эканомкамісіі, нарад і эканомпрацы наогул, зьяўляецца дужа слабае кіраўніцтва і ўвага да гэтае працы з боку часткі сав. партячэек, а ня рэдка і дужа слабы ўдзел камуністаў устаноў у працы эканомкамісіі, ці нарады, калі такія ўжо адбываюцца.

### — Падрыхтоўка і ўдзел сав. партячэек у чыстцы апарату.

З боку часткі ячэек мы маем досыць добрую падрыхтоўку і варты ўвагі ўдзел партячэек у правядзеньні чысткі апарату. (Фін. аддзел, яч. Саматужпрам. саюзу, са спазьненьнем—Райсаюз, і некаторыя інш.). У значнай частцы ячэек уся праца выяўлялася ў тым, што ставілі агульныя даклады аб задачах чысткі, у лепшым выпадку 2 даклады. Канкрэтнае вывучэньне стану апарату, асобных зьвеньняў яго асобных аддзелаў, абсьледваньне яго у частцы ячэек адсутнічае. Паасобныя ячэйкі лічылі сваё прызначэньне закончаным тым, што далі казённыя характарыстыкі: „лойялен да савецкай улады“, „кепскага не прыкмячалася“ і г. д. Былі выпадкі, калі ў асобных мясцох паміж ячэйкай і камісіяй брыгады па чыстцы ня было жаднае сувязі і дамоўленасьці, што даводзіла да простых „сутычак“ паміж бюро ячэйкі і камісіяй (Аддзел Працы). Былі адваротныя зьявы, калі ўсю працу па чыстцы праводзіла ячэйка, адміністрацыя стаяла з боку (Саматужпрам. Саюз); кіраўнік гэтае ўстановы „тэорэтычна“ абгрунтаваў, чаму ён ня ўдзельнічаў у правядзеньні чысткі апарату,—літаральны зьмест прамовы: „тут лаюць саматужпрам. саюз, што мы ня ўдзельнічалі ў перавыбарчай кампаніі і чыстцы арцелі па гораду. Па-мойму, гэта добра, таму, што чыстка ёсьць палітычная кампанія, ячэйка і павінна была прыняць у ёй удзел. Апрача таго, дзякуюцы гэтаму, мы мелі магчымасьць абслугаваць—амаль-поўнасьцю пэрыфэрыю“. Мне думаецца, што ў адносінах да такіх кіраўнікоў трэба было-б прыстасаваць пастанову Маскоўскага Камітэту партыі аб удзеле адказных працаўнікоў установы ў чыстцы апарату. У ячэйцы Земаддзелу, ня гледзячы на тое, што бюро атрымала на від, справа яшчэ ня зрушана, тое-ж самае і ў некаторых інш. ячэйках. Яшчэ ня позна ячэйкам, дзе яшчэ не адбылася чыстка—трэба не марудзячы выправіць свае памылкі і расштурхаць гэту працу.

### Сувязь апарату з масамі і барацьба з бюракратызмам у ім.

Трэба адзначыць, што ў кірунку сувязі апарату з масамі яшчэ вельмі мала зроблена. Такія ўстановы як Зям. аддзел, Камун. аддзел, Нарасьветы, Жыльлёвы Саюз і інш., яны і дасюль застаюцца закась-

цянелымі, бюрократычна апаратнымі ўстановамі. Нам думаецца, што ячэйкі павінны быць ініцыятарамі ў адносінах перабудовы апарату. У адносінах барацьбы з бюракратызмам, у паасобных мясцох наглядаецца простая недаацэнка і прымірэнцкія адносіны да бюракратычных выпадаў. Так, кіраўнік саматужпрам. саюзу—на сходзе ячэйкі заяўляе: „што ў нас злоснага бюракратызму няма", і тыпова яму ў дубальт кажа быўшы партыец-спэц: „у нас у апараце шкодніцтва няма".

Адказны работнік Райсаюзу заяўляе на сходзе ячэйкі: „у нас бюракратызму амаль-што няма". Тое-ж самае і ў некаторых другіх ячэйках. У выніку мы маем прытупленьне старожкасьці часткі ячэек у барацьбе з бюракратызмам. Тут мы маем навочную недаацэнку значэньня барацьбы з такім небясьпечным ворагам, як бюракратызм. У выніку мы маем такія ўзрушаючыя выпадкі простае перашкоды вылучэнству рабочых у апарат. Так кіраўнік Акрстраху проста заяўляе: „што нам патрэбны людзі адукованыя, а не няпісьменныя". Кіраўнік Сельска-гаспадарчага банку пад дымкай „сумленнасьці", наперакор пастановы ячэйкі ўзяць у апарат партыйца—бярэ на новую пасаду быўшага партыйца. Ячэйка Банкаўская на гэта аніяк не рэагавала.

### Кіраўніцтва прафпрацай і культмасавай працай.

Тут мы можам констатаваць, як правіла, што ўсё кіраўніцтва партячэек працай М. К. выяўляецца ў заслухоўваньні (дужа рэдка) агульных дакладаў і дачы агульных дырэктыў. Рэдка мы наглядаем, каб ячэйкі прапрацоўвалі асобныя пытаньні прафпрацы ва ўстанове, асабліва адносна культмасавае працы. Гэта праца знаходзіцца на вельмі нізкім узроўні, існуе нават „тэорыя", што сярод служачых культ. масавай працы ня трэба і ня можна праводзіць, бо яны людзі пісьменныя „як бачна!" і наогул гэтай працай ня цікавяцца. А пагэтаму трэба ім даць, што іх цікавіць, і нашы таварышы вызначаюцца значнай вынаходлівасьцю: падменьваюць культурна-масавую палітычную працу дыспутамі на тэмы: „жанчына на раздарожжы", „Константин Терехин", „Аб вэнэрычных хваробах" і г. д.

### Аб выпадах правага ўхілу і барацьбе з ім.

У гэтым пытаньні мы натыкаемся на неразуменьне з боку кіраўніцтва некаторых ячэек задач партыі ў барацьбе з правым ухілам і прымірэнцтвам да яго ў некаторых ячэйках. Мы маем недаацэнку гэтае небясьпекі і часта таварышы шукаюць правага ўхілу дзесьці, але не прыкмячаюць яго выпадаў у практычнай працы. Вось-што пішуць таварышы, якія абсьледавалі ячэйку Саматужпрам. Саюзу: „прыём у арцелі кулацкіх і нэпманскіх элемэнтаў, няправільнае скарыстоўваньне фондаў каапэраваньня беднаты, абарона ў час чысткі арцеляй спэкулянцкіх і чужых нам элемэнтаў, сябраваньне камуністаў з чужымі нам дробна-буржуазнымі саматужнікамі; частка членаў партыі ў арцелях на прадпрыемстве не зьяўляецца прыкладам, цягнуцца за беспартыйнымі, нядбайна адносяцца да працы. Партыйная частка саматужпрам. саюзу пры організацыі арцеляй дапускала засьмечваньне апошніх кулацкімі і чужымі нам элемэнтамі. Да сучаснага моманту ня зроблены рашучыя захады да выключэньня пералічаных, усю працу па чыстцы арцеляй праводзіла бюро ячэйкі. Парт. частка Саматужпрам. саюзу ў гэтай працы ня ўдзельнічала і хавалася за плечы бюро ячэйкі".

Здавалася-б, што кіраўніцтва ячэйкі павінна было-б асярадкаваць усю сваю ўвагу на барацьбе з гэтым наяўным выпадам правага апартунізму і хвасьцізму ў яч. Трэба было-б паставіць пытаньне аб вартасьці партыйнае часткі саматужпрам. саюзу, што дапускае „засьмечанасьць кулацкімі, чужымі элемэнтамі, арцелі „супачываўшай на лаўрах", „што ў нас злоснага бюракратызму няма", але нічога такога не зрабілася. Ячэйка працавала „звычайным парадкам", лічачы гэтыя „звычайнасьці" правамоцнымі недахопамі ў працы. Ці бо па ячэйцы Нарсувязі, дзе маюцца наступныя ўзрушаючыя зьявы: „члены партыі, што працуюць разам з антысавецкімі элемэнтамі, баяцца заўважыць, даводзячы, што парушыцца спакой, баючыся пагроз". Сярод апарату маюцца настроі: „усіх вычысьцяць, бо яч. не выяўляе якасьці працаўнікоў, працуючых сумленна на карысьць справе". Маюцца неразуменьні з боку асобных членаў партыі сутнасьці прычын клясавае барацьбы і задач партыі ў зьвязку з гэтым. Маюцца гутаркі цішком,—навошта патрэбна праводзіць чыстку апарату, што тлумачыцца прымірэнцтвам з антысавецкімі элемэнтамі. Заўважана, што працаўнікі баяцца паказаць на недахопы, асабліва кіруючае галоўкі. Пры выступленьні ўсё абстаіць добра, не зважаючы на глухое нездавальненьне з боку паасобных таварышоў. „У гэтай ячэйцы мы маем наяўную недаацэнку адзначаных небясьпечных зьяў сярод членаў ячэйкі, і калі бюро выключае аднаго за сувязь з кулацкай сям'ёй, то гэта ў ячэйцы праходзіць бясьсьледна, ён выключаецца, як за „звычайную" антыпартыйную справу. Ці бо ячэйка банкаўскіх устаноў, дзе асобныя кіраўнікі апарату адкрыта супроцьдзейнічаюць прасоўваньню рабочых у апарат, у каляктыве маюць мейсца: „ненормальныя ўзаемаадносіны паміж асобнымі працаўнікамі—Раб. банку і Дзярж. банку, кругавая парука, якая выяўляецца ў апраўдваньні і сямейнай абароне адным аднаго, пры выяўленьні паасобных недахопаў. Існуюць настроі, „што ў нас бюракратызму няма і г. д., а ў кіраўніцтва ячэек не хапае мужнасьці рашуча, на карані падсеч гэтыя зьявы, паставіць пытаньне аб партыйнасьці такіх кіраўнікоў і г. д.

Такім чынам, мы маем рэальную небясьпеку выпадаў правага ўхілу, прымірэнцкія адносіны да яго. У нашай практычнай працы ячэйкам: Нарсувязі, Саматужпрам. саюзу, Банкаўскай, Зям. аддзелу і інш., трэба зараз-жа выправіць лінію работы, завайстрыўшы ўсю сваю ўвагу на барацьбе з выпадамі правага ўхілу і іншымі хваравітымі зьявамі ў апараце.

---

І. Шайн.

# Соцыялістычнае спаборніцтва на фабрыцы „Труд“.

*(Абутковая фабрыка, Гомель).*

Два месяцы, як фабрыка „Труд“ праводзіць соцыялістычнае спаборніцтва. „Як праходзіць у вас соцыялістычнае спаборніцтва?—Пытаю ў „трохкутніка“. „У нас у соцыялістычным спаборніцтве абстаіць справа добра. Зрабілі ўмову з усімі прадпрыемствамі Беларусі. Маем значныя посьпехі; павялічваецца продукцыйнасьць працы; правялі шэраг рацыяналістычных мерапрыемстваў і г. д. Пасьля такое ацэнкі, здавалася-б, што і сапраўды ўся рабочая маса ўцягнута ў соцыялістычнае спаборніцтваі, але па сутнасьці справа інакшая.

*Цэнтральнае зьвяно—не соцыялістычнае спаборніцтва.* Соцыялістычнае спаборніцтва не зьяўляецца асноўным зьвяном усяе працы парт'ячэкі і фабкому. Заняцца пытаньнем соцыялістычнага спаборніцтва няма часу; ня можам адрывацца ад пытаньняў плянавае працы — а адгэтуль, як вынік, няпрыкованасьць увагі рабочае масы да ажыцьцяўленьня генэральнае лініі партыі. 27/IV—на пасяджэньні фабкому было пастаўлена пытаньне правядзеньня соцыялістычнага спаборніцтва сярод моладзі і ўхвалілі вылучыць штаб для кіраўніцтва справай спаборніцтва. Галоўнае зроблена. Парт. ячэйка па прыкладу фабкому 11/IV ставіць на бюро пытаньне аб соцыялістычным спаборніцтве, і ўхвальвае рашэньне: „парт. актыву прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні соцыялістычнага спаборніцтва“. Конкрэтна — што рабіць, гэта не іх справа. Кірунак дадзены, а гэта галоўнае. Пасьля „прапрацоўкі“ на бюро і фабкоме, пытаньне патрэбна было, як належала, перанесьці на сход рабочых. Сход быў склікан 7/V.

Здавалася-б, што агульны сход павінен быць поўнасьцю прысьвечаны пытаньню соцыялістычнага спаборніцтва, увязанаму з агульнай лініяй партыі. На сходзе былі пастаўлены наступныя пытаньні:

1) Аб соцыялістычным спаборніцтве.
2) Справаздача Праўленьня ЦРК і выбары ўпаўнаважаных.
3) Выкананьне прапаноў папярэдняго сходу.
4) Розныя.

Зразумела, што першае пытаньне было змазана. Спрэчак ня было. Былі пытаньні, зацьвердзілі ўмовы і перайшлі да плянавых пытаньняў. На падставе такога кіраўніцтва з боку ячэйкі і фабкому маса, — як такая, у правядзеньні соцыялістычнага спаборніцтва актыўна ня ўдзельнічае, а ўся праца праходзіць апаратным спосабам. На прадпрыемстве яшчэ не разгорнута спаборніцтва. Спаборніцтва паміж цэхамі, асобнымі групамі рабочіх, паасобнымі рабочымі — няма. Вось ужо пяць тыдняў прайшло з часу зацьверджаньня ўмоў, а рабочыя не інфар-

муюцца, як выконваюцца яны. Гэта выклікана тым, што кіруючыя т. т. не ацанілі значэньня пытаньня.

*Вытворчая камісія і адміністрацыя.* Вытворчая камісія супольна з адміністрацыяй правяла значную рацыяналістычную працу. Але канкрэтнага пляну правядзеньня соцыялістычнага спаборніцтва няма. Праведзены наступныя рацыяналістычныя мерапрыемствы. У мэханічным цэху ўведзены падзел працы, у загатоўчым цэху рацыяналізаваны два процэсы „Брусоўка і бакоўка", у зьбівачным цэху 3 процэсы: „выкалочваньне заднікаў, зацяжка заднікаў і пукроўка", у дакладачным цэху—2 процэсы: „выкрай набоек і выкрай усьцілак". У выніку маецца экономія, выходзячы з дзённай нормы выпрацоўкі зарплаты, 25 р. у дзень, 840 руб. у месяц. Апрача азначанае рацыяналізацыі—пашывачнае аддзяленьне загатоўчага цэху пераведзена з 1/VI — на падзельную працу. Што згодна папярэджваючых табліц—дасьць эканоміі 10 руб. у дзень, ці бо 240 руб. у месяц. Агулам экономія выявіцца ў 1080 руб. за месяц.

Адмоўная рыса правядзеньня рацыяналістычных мерапрыемстваў выяўляецца ў тым, што пасьля прапрацоўкі пытаньня на вытворчай Камісіі ня зьбіраліся цэхавыя вытворчыя нарады (за выключэньнем рэдкіх выпадкаў). Пагэтаму масавы ўдзел рабочых слабы, дрэнна яшчэ і тое, што праца па соцыялістычнаму спаборніцтву не ўвязваецца з праведзеным аглядам вытворчых нарад. Некаторыя таварышы тлумачаць няўзгодненасьць адсутнасьцю часу—каб займацца гэтымі пытаньнямі. Такая пастаноўка пытаньня няправільная.

### Продукцыйнасьць працы, зьніжэньне сабекошту і якасьць працы.

На фабрыцы ёсьць павялічэньне вытворчасьці працы. Наступныя лічбы гэта характарызуюць. У сакавіку выкананьне вытворчае програмы выяўлялася—106,7%, а ў красавіку—166,8%, такі раптоўны ўздым продукцыйнасьці працы тлумачыцца аб'яднаньнем арцелі „Пролетары" з фабрыкай „Труд". Затое ў маі месяцы продукцыйнасьць працы значна паменшала адносна красавіка, і выяўлялася ў 157,2%—чым гэта тлумачыцца?

Рабочая сіла ня зусім правільна выкарыстоўваецца.

Няўзгодненасьць у працы паміж цэхамі. Рабочы дзень ня поўнасьцю загружаны. Бываюць моманты, што па тэхнічных неладох прастоі дасягаюць 10—15 хвілін, агулам жа гэта складае значную колькасьць часу. Часта дробязі перашкаджаюць продукцыйнасьці працы. Загатовачное і закроечнае аддзяленьне ўзялі на сябе абавязак павялічыць продукцыйнасьць працы на 10—15%, з умовай, калі адміністрацыя прадставіць модэлі, але з прычыны таго, шта адміністрацыя модэлей не дала—ініцыятыву рабочых сарвалі. У справе скарыстоўваньня рабочае ініцыятывы няма належнае гнуткасьці. Што-ж тычыцца памяншэньня сабекошту, то тут мы маем наступнае: у красавіку ў наяўнасьці маецца зьніжэньне на 9%, а ў маі на 11%. Зьніжэньне сабекошту, галоўным чынам, адбываецца на падставе рацыяналістычных мерапрыемстваў—7%, соцстраху—3% і агульных выдаткаў. У горшым стане справа з якасьцю працы. Няма дастатковага контролю з боку майстроў і нездавальняючыя адносіны рабочых да пытаньняў палепшаньня якасьці працы.

У мэханічным цэху даводзіцца перарабляць значную колькасьць дзіцячага абутку, з прычыны кепскае якасьці. У цэху—аздабленьня—давялося перарабіць 1400 пар абутку з тае-ж самае прычыны. Да барацьбы за палепшаньне якасьці працы ня прыцягнута ўвага ўсяго рабочага колектыву.

## Працоўная дысцыпліна.

Некаторыя палепшаньні па ўтварэньню працоўнае дысцыпліны ёсьць. Але ёсьць і цэлы шэраг адмоўных момантаў: спазьненьне на працу на 10—15 хвілін, у часе працы—гутаркі, сьпевы, што ўплывае на працоўную дысцыпліну, дачасная—на 10—15 хвілін пакіданьне працы. Зусім нязвычайнай зьявай трэба прызнаць наступнае: у суботу за 20 хвілін перад сьнеданьнем прадстаўнік Бюро комс. калектыву — зьвярнуўся да ўсіх рабочых: „таварышы, кідайце малаткі, я зараз прачытаю загад комсамольскага калектыву аб політбаі. Шмат хто з пачуўшых зварот пакідалі малаткі, частка згуртавалася каля прадстаўніка, і ў выніку загубілі хвілін 15 часу. І гэта робіцца ў часе разгару разгортваньня социялістычнага спаборніцтва. На фабрыцы „Труд“ гэта нібыта ў законным парадку. Кепска яшчэ і тое, што комсамольская ячэйка, якая выявіла сваю ініцыятыву ў пачатку, пачала пасыўна адносіцца да гэтае справы.

М. Лур'е і Д. Халявін.

# Клясавы твар малочна-жывёлагадоўчай коопэрацыі [1]).

*(Віцебская акруга).*

Малочна-жывёлагадоўчая коопэрацыя адна з самых маладых організацый у нашай агульна-коопэрацыйнай сыстэме, на якую мы мала зварачалі ўвагі. І гэта не зважаючы на тое, што да самага апошняга моманту малочна-жывёлагадоўчыя таварыствы знаходзіліся, калі не амаль-што цалкам у руках вясковай часткі кулацтва, то ня інакш як пад іх уплывам.

Клясавая барацьба сярод малочна-жывёлагадоўчых таварыстваў толькі пачынае разгортвацца і напорнасьць клясавага ворага набывае больш уяўныя формы, поруч з тым, як гэтыя організацыі заваеўваюцца бядняцка-серадняцкаю часткаю сялянства. Кулацтва ўжо пачынае траціць ня толькі сваю досыць значную ўдзельную вагу ў агульным здабытку малочнае продукцыйнасьці, прыпадаючы на іх долю, але і цалкам свой уплыў у праўленьнях таварыстваў, якія ў апошняй перавыбарчай кампаніі на 90 проц. заваёваны бядняцка-серадняцкаю часткаю вёскі, не ўважаючы на адзіны фронт кулацтва. Шэраг фактаў апошняй перавыбарчай кампаніі, як байкатаваньне зьліўных пунктаў заможнікамі на працягу цэлага тыдню, як пазбаўленьне слова сэкратара партыйнае ячэйкі, які спрабаваў правесьці парт. лінію і г. д.— сьведчаць аб значнай гастрыні клясавае барацьбы на дадзенай ступені і аб організаваных перашкодах кулацтва ўнутры малочна-жывёлагадоўчых таварыстваў.

Вось чаму з агульнай дзейнасьці акруговага саюзу мы лічым неабходным у сваім артыкуле зьвярнуць галоўным чынам і амаль-выключную ўвагу на клясавы твар гэтага зьвяна нашае агульна-коопэрацыйнае сыстэмы, якое ва ўмовах Беларусі павінна набыць пераважнае значэньне.

## Склад нізавое сеткі.

Агульны стан і рост нізавой сеткі могуць быць вызначаны наступнымі лічбамі:

| | Кольк. таварыств. | Процант зьмены | Кольк. завод. | Процант зьмены | Колькасьць зьліўн. і сьмят.аддзял. пунктаў | Процант зьмены |
|---|---|---|---|---|---|---|
| На 1/X 1927 г. | 21 | 100 | 30 | 100 | 32 | 100 |
| На 1/X 1928 г. | 31 | 147,6 | 35 | 117 | 82 | 256 |
| На 1/VI 1929 г. | 50 | 161.3 | 58 | 137,5 | 160 | 195 |
| Плянавыя меркаваньні на 1928-29 г. | 46 | — | 52 | — | 168 | — |
| Процант выкананьня пляну на 1/VI-29 г. | 108 | — | 111,5 | — | 95,3 | — |

[1]) Па матар'ялах спэцыяльна-выбарачнага абсьледваньня нізавое сеткі.

*Увага.* %% зьмены даюцца на 1|Х-28 г., у параўнаньні з 1|Х-27 г., а на 1|VI-29 г. у параўнаньні з 1|Х-28 г.

Такім чынам на 1/VI-29 г. у параўнаньні ня толькі з 1/Х-27 г., але і ў параўнаньні з 1/Х-28 г. мы наглядаем вялізны рост. Рост нізавых організацый за 3 кварталы 1928-29 г. выперадзіў і нават плянавыя меркаваньні ўсяго гаспадарчага году. Досыць цікавыя лічбы аб складзе нізавое сеткі таварыства па колькасьці аб'яднаных гаспадарак, кароў і паёваму капіталу.

| | Кольк.гасп. | Колькасьць кароў | Паявы капітал | Уласны і асноўн. капітал |
|---|---|---|---|---|
| На 1\|Х 1927 г. | 3005 | 5621 | 8334 | 4720 |
| На 1\|Х 1928 г. | 6413 | 11881 | 22906 | 22927 |
| %% зьмен гэтага пэрыоду | + 210 | + 211,3 | + 247.4 | + 488 |
| На 1\|VI 1929 г | 12093 | 19796 | 47562 | 24902 |
| %% зьмен на 1\|VI-29 г. | + 189 | + 166 | + 207,6 | + 108 |
| Плянавае меркаваньне на 1\|Х-29 г. | 9184 | 14513 | 64000 | 27000 |
| %% выкананьня на 1\|VI-29 г. | + 136 | + 136 | + 74,3 | + 91 |

Адставаньне росту колькасьці кароў у параўнаньні з колькасьцю гаспадарак за 3 кварталы 1928-29 г. (колькасьць кароў узрасла на 166 проц., а колькасьць гаспадарак на 189 проц.) тлумачыцца толькі тым, што рост выперадзіў у пераважнасьці за лік 1 і 2-х кароўных гаспадарак. Пагэтаму зусім звычайным зьяўляецца адносна вялікі рост колькасьці гаспадарак у параўнаньні з колькасьцю кароў. Што-ж тычыцца вялікага росту асноўнага і ўласнага капіталаў за 1927-28 г., то гэта адбывалася не цалкам за лік унутранага назапашваньня самых пайнікаў, а за лік атрыманых некаторымі таварыствамі розных сумаў, да 16000 руб, з дзярж. фонду АКРЗУ. Коопэравана малочна-жывёлагадоўчай коопэрацыяй з агульнага ліку гаспадарак акругі 9,9 проц., а з агульнага ліку колькасьці кароў 10,4 проц. Усё гэта гаворыць аб вялікай прыхільнасьці сялянства да гэтае галіны коопэрацыі. Але нас ў гэтым пытаньні, разглядаючы ўсё з пункту гледжаньня выяўленьня клясавага твару таварыства, цікавіць ня так колькасны рост, як, галоўным чынам, клясавыя зьмены, утвораныя гэтым колькасным ростам.

## Клясавы твар таварыства.

| | На 1\|Х 1927г. | | На 1\|Х 1928г. | | На 1\|IV-29г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік | %% | Лік | %% | Лік | %% |
| Па пасеўнай плошчы: | | | | | | |
| Беспасеўных і з пасевам да 2-х дзесяцін | 487 | 21 | 1859 | 29,1 | Зьвестак | няма |
| З пасевам ад 2-х да 6 дз. | 881 | 54 | 3764 | 58,6 | | |
| З пасевам ад 6 і больш дзесяцін | 575 | 25 | 790 | 12,3 | | |
| Разам | 1943 | 100 | 6413 | 100 | — | — |
| Па ліку кароў: | | | | | | |
| Бескароўных і з 1 кар. | 1030 | 35 | 2438 | 38 | 5120 | 56 |
| З 2-ма каровамі | 1236 | 42 | 2885 | 45 | 3108 | 34 |
| З 3-ма і больш. каровамі | 677 | 23 | 1090 | 17 | 914 | 10 |
| Разам | 2943 | 100 | 6413 | 100 | 9142 | 100 |

Як бачым з табліцы, бядняцка-серадняцкая частка вёскі, калі меркаваць па пасеўнай плошчы, займала на 1|X-27 г. — 75 проц., а на 1|X-29 г.—87,7 проц., у агульным ліку гаспадарак, аб'яднаных малочна-жывёлагадоўчай коопэрацыяй. Гэты рост на 12,7 проц. адбыўся вядома за лік гаспадарак ад 6 дзесяцін і вышэй, якія на 1|X-27 г. займалі 25 проц., а на 1|X-28 г.—12,3 проц. у агульным ліку коопэраваных гаспадарак. Аднак-жа гэта не азначае, што гаспадаркі ад 6 дзесяцін і вышэй зусім перасталі аб'яднацца ў малочна-жывёлагадоўчыя таварыствы, яны ня толькі не паменшыліся, а нават павялічыліся (ад 575 гаспадарак да 790 гаспадарак). Гэта толькі падмацоўвае нашу асноўную думку аб тым, што бядняцка-серадняцкая група сваім ростам выпярэдзіла больш заможныя групы гаспадарак. Такія-ж унутры соцыяльныя зьмены адбываюцца і ў апошні час, калі меркаваць па кароўнасьці коопэраваных гаспадарак. Гаспадаркі заднэй ці дзьвюма каровамі, якія на 1|X-28 г. займалі 77 проц. ува ўсёй колькасьці кароў коопэраваных гаспадарак, на 1|IV-29 г. ужо займалі 90 проц. у агульным ліку кароў. У адносінах-жа шматкароўных (ад 3-х і больш кароў) варта сказаць, што іх удзельная вага памяншалася ня толькі адносна, але і агульна.

Гэтыя агульна-акруговыя лічбіны захоўваюць сваё значэньне, як паказьнікі таго агульнага генэральнага кірунку, куды соцыяльна расьце малочна-жывёлагадоўчая коопэрацыя. Але ад гэтага агульнага соцыяльнага напрамку маюцца асобныя адхіленьні, хоць і ня вельмі значныя, у паасобных таварыствах. Як па аднаму з адпаведных адхіленьняў мы падаём лічбы Азерцаўскага таварыства, Віцебскага раёну:

| | 1 кароўн. | 2-х кароўн. | 3-х кароўныя і вышэй | Разам |
|---|---|---|---|---|
| У агульных лічбах . . . | 110 | 204 | 72 | 386 |
| У %% адносінах аднэй групы да друг. . . . . | 28,5% | 52,9% | 18,6% | 100% |

У агульна-акруговых лічбах 3-х кароўныя і вышэй займаюць 10 проц., а ў Азерцаўскім-жа таварыстве—18,6 проц. Такім чынам, па асобных таварыствах мы наглядаем значную ўдзельную вагу,—шмат кароўных у параўнаньні з сярэднімі лічбамі для ўсяе акругі.

Па агульна-акруговых вестках, аднакароўныя гаспадаркі займаюць 56 проц., а 2-х кароўныя 34 проц. усяе колькасьці кароў коопэраваных гаспадарак. У некаторай частцы гэтыя зьвесткі не адпавядаюць сапраўднасьці. Колькасьць корму, што атрымоўваецца ад таварыства асобнымі пайнікамі залежыць ад 2-х вялічынь: ад колькасьці кароў і ад колькасьці здаванага малака. Чым больш здадзена малака, тым больш атрымоўваюць корму, але пры аднэй і тэй самай колькасьці здадзенага малака большы процант корму атрымоўвае той, у каго менш кароў. Вось чаму пайніку выгадна коопэраваць адну карову, а малако здаваць ад 2-х кароў, і такім чынам пад выглядам 1 і 2-х кароўніка ў некаторай частцы маскуюцца і шмат-кароўнікі. Мы на гэта заўважаем дзеля таго, каб да падобных зьвестак пры агульных ацэнках і вывадах падыходзілі асьцярожна—аднакароўнік, ці двухкароўнік па анкеце, а фактычна шматкароўнік.

Склад пайнікаў па соцыяльнаму стану і партыйнасьці можа быць прадстаўлен зьвесткамі кастрычніка 1928 г.

| | Кольк. | %% |
|---|---|---|
| Па соцыяльнаму становішчу: | | |
| землябобаў | 6338 | 99 |
| рабочых | 10 | 0,5 |
| служачых | 53 | 0,67 |
| саматужнікаў | 12 | 0,18 |
| Разам | 6413 | 100 |
| Па партыйнасьці: | | |
| членаў і канд. КПБ | 44 | 0,7 |
| членаў і кандыдатаў КСМ | 17 | 0,2 |
| беспартыйных | 6352 | 99,1 |
| Разам | 6413 | 100 |

| | На 1/X-28 г. | | На 1/IV-29 г. | |
|---|---|---|---|---|
| Па полу: | | | | |
| Мужчын | 5690 | 88,7 | 8009 | 87,6 |
| Жанчын | 723 | 11,3 | 1133 | 12,4 |
| Разам | 6413 | 100 | 9142 | 100 |

Партыйцы і комсамольцы займаюць яшчэ зусім нязначнае месца ў агульным ліку пайнікаў.

Які-ж у соцыяльных адносінах той людзкі матар'ял, што знаходзіўся ў кіраўніцтве нізавое сеткі малочна-жывёлагадоўчае коопэрацыі.

Адказ на пастаўленае пытаньне даецца нам на падставе лічбавых зьвестак складу праўленьняў, майстроў і пам. майстроў заводаў і зьліўных пунктаў.

| | Кольк. | %% |
|---|---|---|
| Па соцыяльнаму стану: | | |
| Землябобаў | 108 | 87 |
| Рабочых | 3 | 2,5 |
| Служачых | 12 | 9,8 |

| | Кольк. | %% |
|---|---|---|
| Па партыйнасьці: | | |
| Членаў і кандыдатаў КПБ | 21 | 17,1 |
| Членаў КСМ | 2 | 1,7 |
| Беспартыйных | 100 | 81,2 |
| Па пасеўнай плошчы: | | |
| Беспасеўных і з пасевам да 2 дз. | 54 | 53,8 |
| З пасевам ад 2-х да 6 дз. | 52 | 42,3 |
| З пасевам ад 6 да 16 дз. | 15 | 12,2 |
| Ад калектыўных гаспадарак | 2 | 1,7 |
| Па колькасьці кароў: | | |
| Бескароўных і з 1 каровай | 66 | 53,6 |
| 2-х кароўных | 42 | 34,1 |
| 3-х і больш кароўных | 13 | 10,6 |
| Ад калектыўных гаспадарак | 2 | 1,7 |
| Жанчын | 2 | 2,5 |

*Увага.* Гэтыя лічбы характарызуюць склад органаў кіраўніцтва і контролю, што быў на чале да апошніх ліпнёўскіх перавыбараў бягучага году. Новы праўленчы склад пры апошніх перавыбарах шмат зьмяніўся ў бок палепшаньня соцыяльнага і партыйнага складу, але падагуленых зьвестак у нас яшчэ няма.

Служачыя, што складаюць 0,67% у агульным ліку пайнікаў, у органах кіраваньня і контролю займалі 9,8%, што вядома не адпавядала іх агульнай удзельнай вазе. Партыйцы і комсамольцы, што мелі ў агульным складзе пайнікаў 0,9%, у складзе Праўленьня займалі—18,8%. Шматпасеўныя (ад 6 да 16 дз.) і шматкароўныя (ад 3-х і больш кароў) хоць іх удзельная вага ў кіруючым складзе адпавядае ўдзельнай вазе гэтае групы, у агульным ліку пайнікаў займалі досыць значнае мейсца і ў кіраўніцтве апаратам нізавое сеткі. А калі да гэтага яшчэ дадаць раней намі пададзеныя лічбы, што пад выглядам 1 і 2-х кароўнікаў хаваецца шматкароўнік, то яшчэ гастрэй стане праблема аб неабходнасьці хутчэйшага аўладаньня апаратам нізоўкі, аб своечаснай і большай увазе партыйнай організацыі гэтаму віду коопэрацыі. Кіруючы склад майстроў і іх памоцнікаў нізоўкі падрыхтоўваўся на $1^1/_2$ месячных Віцебскіх і 3-х месячных Магілеўскіх курсах, і зьвесткі аб іх складзе таксама досыць навучальны.

| | Віцебскія курсы | Магілеўск. курсы | Усяго | % % |
|---|---|---|---|---|
| Па соцыяльнаму стану: | | | | |
| Землябробаў | 39 | — | 39 | 68,4 |
| Рабочых | 9 | 5 | 14 | 24,2 |
| Служачых | 3 | 1 | 4 | 7,4 |
| Па адукацыі: | | | | |
| З сярэдняй адукацыяй | 18 | 2 | 20 | 35 |
| З ніжэйшай адукацыяй | 33 | 4 | 37 | 65 |
| Па партыйнасьці: | | | | |
| Членаў і канд. КПБ | 3 | — | 3 | 5,3 |
| Членаў КСМ | 14 | 2 | 16 | 28,7 |
| Беспартыйных | 34 | 4 | 38 | 66 |
| Па полу: | | | | |
| Мужчын | 26 | 3 | 29 | 51,6 |
| Жанчын | 25 | 3 | 28 | 48,4 |
| Выпушчана: | | | | |
| Майстроў | 16 | 6 | 22 | 38,5 |
| Пам. майстроў 1-га разраду | 25 | — | 25 | 43,8 |
| „ „ 2-га „ | 10 | — | 10 | 17,7 |

Лічбы гавораць аб тым, што ў адносінах падрыхтоўкі кіруючага складу малочнае коопэрацыі ёсьць шэраг бясспрэчных дасягненьняў: рабочыя займаюць 24,2%, партыйцы і комсамольцы—34% агульнага складу курсантаў, выпушчаных майстрамі і падмайстрамі. Як на асабліва прыемную справу варта паказаць на шматлікі процант жанчын сярод майстроў і падмайстроў (48,4% агульнага ліку). Усе гэтыя вышэйпаказаныя зьвесткі сьведчаць аб тым, што цяга сялянства да аб'яднаньня ў малочна-жывёлагадоўчую коопэрацыю ёсьць сапраўды. Што бядняцка-серадняцкія масы рушылі да заваёў нізоўкі, да выцісканьня з кіраўнічага апарату значна-супярэчыўшага шматкароўніка. Задачы мясцовых партыйных організацый павінны выяўляцца ў тым, каб узяць гэты рух у свае рукі і надаць яму той кірунак, які патрабуецца для соцыялістычнага будаўніцтва.

## Настроі асобных соцыяльных груп пайнікаў.

Дробны таварны вытворца ня любіць контролю, тым больш ненавідзіць контроль і кіраўніцтва ўлады з партыяй—кулак і падкулачнік. Кулак і падкулачнік з закінутае вёскі Віцебшчыны, ня маючы жаднага паняцьця аб Кандрацьцевым і яго тэзысе аб *„вольнай, не ад кога незалежнай коопэрацыі“*,—крычыць аб тым-жа: „наша таварыства, наша

прыватная справа, дык хто-ж мае права ў яе ўмешвацца. Калі нас было 7—8 чалавек слаба арганізаваных ды з слабымі сродкамі, тады нікога ня было, а цяпер, калі мы памацнелі, дык знайшліся розныя гаспадары, ды інструктары, кожнаму карыся". Тым больш клясавы вораг супроцьдзейнічае, калі шляхам умешваньня ў яго прыватную справу праводзіцца сапраўды вытрыманая клясавая політыка. У інструкцыі па разьмеркаваньню корму ёсьць наступныя пункты: аднакароўным даецца на 100 літраў малака 40 клгр. розных кармоў, што складае 40%, 2-х кароўным—выдаецца на тую-ж колькасьць малака—30 клгр. карму, што складае 30%, і 3-х і больш кароўным на тую-ж колькасьць малака—20 клгр. розных кармоў, ці па 20%. І таму ня рэдка сярод часткі пайнікаў вы пачуеце наступную гутарку: „корм павінен выдавацца па роўных частках на кожную карову, у незалежнасьці ад колькасьці кароў. Вы вось, аграномы, даеце корм аднакароўным больш чым 2-хкароўным, а 2-хкароўным больш чым 3-хкароўным і г. д., што-ж у іх бруха большае".

А калі сельсавет, жадаючы вырваць таварыства з рук заможных гаспадарак, выносіць пастанову аб пераводзе зьліўных пунктаў да месца знаходжаньня сельсавету, уздагон скаголяць кулакі і падкулачнікі: „Нам ня трэба пераводзіць таварыства ў сельсаветы, няхай туды ідуць сумленныя камуністы, а мы, сяляне—туды ня пойдзем". Кулак у некаторых мясцох, як бачна, спрабуе гаварыць ад імя ўсяго сялянства: „мы, сяляне, туды ня пойдзем". Кулакі і падкулачнікі хочуць ня толькі атрымоўваньня роўнае колькасьці корму, але высоўваюць нават такія пытаньні, каб у іх бралі такі-ж пай, як у суседа—бедняка. „Калі вы дасьце больш корму, будзем малако здаваць і папаўняць пай. Пай-то мы вам заплоцім, але ён павінен брацца не ў залежнасьці ад ліку кароў, а роўна ад кожнага пайніка". Малако вы ў яго павінны прымаць усякае, у незалежнасьці ад колькасьці жыроў, інакш: „калі вы ня будзеце прымаць малако (што трапляецца нават з квасьнасьцю і малым процантам жыроў), дык мы зусім перастанем насіць, вось тады вы палепшаеце".

Цемната і някультурнасьць яшчэ моцна сядзіць у галовах большае часткі пайнікаў. У адказ на патрабаваньне розных гігіенічных мерапрыемстваў вы пачуеце: „калі вы будзеце патрабаваць, каб з ручніком доілі кароў, калі вы будзеце прымушаць мыць іх, і наогул калі вы пачнеце ўмешвацца ў хлявы, дык вашы таварыствы разваляцца, і малака насіць ня будзем. Некалі нам гэтым займацца". Забабоны ў некаторай частцы да таго моцна заселі, што адна пайшчыца прыносіла малако на завод „Лапаты" Курынскага Таварыства за 6 вёрст ад свае вёскі, у той час калі ў яе вёсцы маецца зьліўны пункт. А тлумачыла яна гэта наступным: „калі панесьці ў свой пункт, то тады маё малако зьліюць у адзін бак з малаком суседкі, і карова суседкі забярэ малако мае каровы". Апошнія весткі аб настроях з асаблівай рэзкасьцю высоўваюць перад малочна-жывёлагадоўчай коопэрацыяй неабходнасьць разгортваньня культурна-масавае работы, якая да гэтага часу зусім адсутнічала.

### Скажэньне клясавае лініі.

Шэраг вестак сьведчыць аб тым, што ў некаторых таварыствах клясавая лінія скрыўлена. Паявы капітал: Курынскае таварыства, Віцебскага раёну, пазыскала паі, галоўным чынам, у 1 і 2-х кароўных, менш усяго ў 3-х кароўных і вышэй. Вось чаму і атрымалася, што сярэдні пай у 1 кароўных—2 р. 92 к., а ў 3-х кароўных—88 кап.

Мартынаўскае Таварыства Язерышчынскага раёну амаль-што не адрозьніваецца ад Курынскага Таварыства. Сярэдні пай у гэтым таварыстве на 1 карову, у аднакароўных—3 р. 85 к., а ў 3-х кароўных—2 р. 75 к., а ў 4-х кароўных—1 р. 40 к. Такім чынам, шэраг таварystваў замест таго, каб асноўныя свае капіталы спагнаць у шматкароўных, а дзеля малакароўных зрабіць шэраг палёгкаў, робяць зусім адваротнае.

*Разьмеркаваньне корму.* У шмат якіх таварыствах зусім ня выконваецца інструкцыя па разьмяркоўваньню корму і, галоўным чынам, у адносінах шматкароўных. Тэалінскае таварыства Сіроцінскага раёну.

| | Мяркуецца | Выдадзена |
|---|---|---|
| | (у процантах) | |
| 2-х кароўныя . . . . | 30 | ад 54 да 89 |
| 3-х „ . . . . | 20 | „ 44 „ 69 |
| 4-х „ . . . . | 20 | „ 32 „ 42 |
| „Жывёлавод“ Гарадоцкага раёну: | | |
| 3-х кароўныя . . . . | 20 | „ 41 „ 168 |
| Мыртанаўскае таварыства, Язерышчынскага раёну. | | |
| 2-х кароўныя . . . . | 30 | „ 68 „ 277 |
| 3-х „ . . . . | 20 | „ 49 „ 119 |

Пагэтаму і ў адносінах разьмеркаваньня кармоў клясавая лінія ня выконвалася ў шмат якіх таварыствах. Ёсьць і такія, што хадайнічалі перад сельсаветам аб прадстаўленьні ільгот па сельска-гаспадарчым падатку, такім гаспадаркам, якія з цягам часу ў індывідуальным парадку абкладзены, як кулакі (Гарбоўскае Таварыства, Ліозьнянскага раёну).

Ня лепш справа і з фондам коопэраваньня беднаты па шэрагу таварystваў:

У Мартынаўскім таварыстве Язерышчынскага раёну фонд па коопэраваньню беднаты зусім ня быў утвораны. Таксама ня было фонду і ў Язерцаўскім т-ве, Віцебскага раёну. Каравайніцкае таварыства, Сіроцінскага раёну ўтварыла фонд па коопэраваньню беднаты, але цалкам ён скарыстаны ня быў,—згодна тлумачэньняў членаў праўленьня таму, што ў іх больш ня было беднаты. Усё гэта гаворыць аб тым, што ў шэрагу таварystваў клясавая лінія скрыўлена.

## Заключэньне.

Кароткі, месцамі ня зусім поўны разгляд клясавага твару і нізавых таварystваў малочна-жывёлагадоўчае коопэрацыі Віцебскае акругі—сьведчыць аб тым, што ня ўсе таварыствы і ня цалкам яшчэ заваяваны бядняцка-серадняцкаю часткаю сялянства, і што хіба гэта выклікана з большага адсутнасьцю партыйнага кіраўніцтва ў памянёнай галіне коопэрацыі. У асобных таварыствах мы яшчэ маем яўна кулацкую палітыку ў разьмеркаваньні кармоў і па ўзысканьні паявых узносаў. Усё гэта з настойнаю рашучасьцю ставіць пытаньне аб неабходнасьці хуткае мобілізацыі ўвагі мясцовых парт. організацый у кірунку дзейнасьці малочна-жывёлагадоўчае коопэрацыі.

В. Левін.

# Масавая праца, як яна ёсьць.

*(Менск, шчотачная фабрыка).*

## I.

Выкананьне задач высунутых партыяй у зьвязку з ажыцьцяўленьнем пяцігадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва—пляну вялізарных работ—шляхам пераробку ўсяе народнае гаспадаркі і на новай тэхнічнай аснове, выкарчоўваньне карэньняў капіталізму, у ўмовах абвастрэньня клясавае барацьбы ўнутры краіны і абвастрэньня супярэчнасьцяй паміж капіталізмам і СССР,—што ўзмацняе небясьпеку вайны і непасрэднага нападу імпэрыялістычных дзяржаў на нашу краіну, патрабуе перабудовы мэтодаў работы ўсіх арганізацый рабочае клясы па лініі мобілізацыі актыўнасьці пролетарскіх мас, падвышэньня якасьці ўсяе работы, падпарадкоўвае ўсе формы і мэтоды працы выкананьню генэральнай лініі нашае партыі. „Ва ўмовах перабудовы ўсяе народнае гаспадаркі, політычная агітацыя павінна мобілізаваць шырокія колы рабочае клясы да актыўнага і сьвядомага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, накіраваўшы энэргію мас на перамогу цяжкасьцяй гэтага будаўніцтва. Яна павінна разьвіваць рэволюцыйную старожкасьць пролетарыяту, навучыць разумець асобныя формы клясавае барацьбы пераходнага пэрыоду ў іх конкрэтным праяўленьні, паказаць твар клясавага ворага, навучыць весьці барацьбу з непролетарскім уплывам у самой рабочай клясе. Конкрэтныя, дробныя часам, пытаньні адносін да працы і да вытворчасьці неабходна ўздымаць на політычную вышыню. На жывых штодзённых фактах з жыцьця гэтага прадпрыемства, адносін рабочых да сваіх абавязкаў, посьпехах і недахопах вытворчасьці, выхоўваць клясавую сьвядомасьць рабочых, даваючы адпор праяўленьням групавых і цэхавых інтарэсаў асобных груп рабочых, што прыносяць з сабою на соцыялістычнае прадпрыемства звычкі і погляды дробнабуржуазнага сялянскага асяродку. Паказаныя вышэй важнейшыя задачы політычнае агітацыі патрабуюць ад нас усё больш умелае ўвязкі конкрэтнага зьместу і яскравае політычнае ўстаноўкі, патрабуюць суцэльнасьці і адзінства ў агітацыі генэральных політычных задач пролетарыяту з яго штодзённымі будзеннымі задачамі на фабрыцы, шахце, заводзе, каля варштату“ (з пастановы ЦК УсеКП(б) аб пастаноўцы масавай працы).

## II.

Прадпрыемства зьяўляецца працкалялктывам і ўмовы працы вельмі складаныя і цяжкія. Кожнага месяцу адбываюцца зьмены пэўнае часткі рабочых. Сталы кадр рабочых (штатны) даходзіць толькі да 100 чалавек. Пераважаючымі ў складзе рабочых зьяўляюцца жанчыны. Большая

частка рабочых не зьяўляюцца сябрамі саюзу. Нязначная партыйная праслойка—43 сябры і кандыдаты партыі на 618 рабочых (што складае 6,9%). Прадпрыемства адтрымоўвае сыравіну ня ў першую чаргу, а ў асобных выпадках і дрэннай якасьці (волас, дрот), што прыводзіць да зьмяншэньня нормы вырабу, а адгэтуль і зарплаты (Ушывальны цэх). Гэты цэх, а ў ім 300 работніц, наогул астаецца ў зарплаце ад іншых цэхаў (калі ўзяць кастрычнік 1928 году за 100%, то ў ліпені 1929 году мы маем толькі 93%, тым часам як іншыя аддзяленьні даюць павялічэньне на 310%, 360%, 143%, 106% і г. д.). Рабочыя вярбуюцца з складу былых гандляроў, саматужнікаў і дэклясаванае часткі гораду, яны прыносяць з сабою анты-пролетарскія настроі—рвацтва, усякае імкненьне да організацыі працы, да ўстанаўленьня дысцыпліны ўспрыймаецца імі як націск на іх з боку адміністрацыі.

Прадпрыемства перарасло сябе, як працкалектыў, і імкнецца наперад да афармленьня ў Дзяржфабрыку. Ужо зараз укладаецца 25.000 рублёў у капітальнае будаўніцтва, мэханізуецца працэс вытворчасьці, организуецца новы шчацінны цэх, што дасьць магчымасьць мець пэўны запас сыравіны і перапрацоўваць яе.

Такія ўмовы працы патрабуюць вялікае напружанасьці, найбольш выразнае політычнае лініі, сталага партыйнага кіраўніцтва. А тым часам некаторыя кіруючыя работнікі і асобныя сябры партыі высоўваюць як прычыны слабасьці працы—цяжкія ўмовы на прадпрыемстве, што об'ектыўна прыводзіць да такіх настрояў: „У нашых умовах большага зрабіць нельга“, „Мы і так не апошнія“,

У працы за апошні час, у параўнаньні з мінулым, дыскрэдытаваўшым сябе кіраўніцтвам, ёсьць некаторы перавом, але і да гэтага часу конкрэтнага партыйнага кіраўніцтва, вучоту практычнага вопыту, контролю і праверкі выкананьня, умелае організацыі актыўнасьці рабочых мас вакол асноўных пытаньняў вытворчасьці, на грунце шырокага разгортваньня самакрытыкі, выразна не адчуваецца.

III.

Перш за ўсё патрэбна адзначыць недастатковую ўвязку агітацыі з конкрэтнымі гаспадарчымі і політычнымі задачамі і пагэтаму слабая яе роля ў справе організацыі мас. Агітуюць наогул, няма ніякае конкрэтнасьці, нават у партыйнай ячэйцы няма лічбаў аб зарплаце, вытворчасьці працы, прагулах, браку, зьніжэньні сабекошту і г. д., не гаворачы ўжо аб тым, што ў цэху ніякіх вывешаных лічбаў па гэтаму пытаньню няма. Такім чынам, яскравага лёзунгу на падставе пяцігодкі ва ўмовах свайго прадпрыемства ня высунута і ўвага ўсіх рабочых не мобілізавана вакол асноўных пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта (політычная конкрэтнасьць) таксама не адбіваецца ні ў насьценгазэце, ні ў рабоце іншых грамадзкіх організацый. Вельмі яскрава аб гэтым пісаў Куйбышаў („Правда“ за 25-га жніўня). „Партыйная ячэйка, фабзаўком, організацыі Комсамолу і г. д. павінны перабудаваць сваю працу такім чынам, каб, мабілізуючы рабочую грамадзкасьць, уздымаючы яе актыўнасьць, абуджаючы творчыя сілы і энтузіязм рабочае клясы, накіроўваць на вырашэньне зусім конкрэтных, запраўдных і яскрава акрэсьленых задач. Менш траскатні, менш агульных фраз, менш гутарак пра індустрыялізацыю,—пра соцыялістычнае будаўніцтва наогул. На прыкладзе кожнага прадпрыемства патрэбна ўмець паказаць значэньне індустрыялізацыі для краіны, на прыкладзе кожнага прадпрыемства магчыма і патрэбна паказаць, якую шкоду ў справе індустрыялізацыі краіны прыносіць невыкананьне плянавых заданьняў

тым ці іншым прадпрыемствам. Менш палітычнае траскатні і шуміхі, менш гутарак наогул, больш справы, больш дзелавога абмяркаваньня пытаньняў, зьвязаных з жыцьцём свайго прадпрыемства, з выкананьнем даручанага яму заданьня".

Ячэйка несваечасова інфармавала масы аб рашэньні XVI партыйнае конфэрэнцыі. Яшчэ і да гэтага часу як належыць быць не растлумачаны рабочым яе рашэньні, пяцігадовы плян народнае гаспадаркі зусім не распрацоўваўся і не абмяркоўваўся.

Пастаноўка агітацыі ў цэху нездавальняючая. Праца ў цэху не абудзілася. Цэх. організатары не абраны камуністамі свайго цэху і іх ня ведаюць як цэхорганізатараў ня толькі беспартыйныя, а нават і некаторыя партыйцы. Цэх. організатары ня ведаюць, што ім рабіць, ніякага кіраўніцтва імі ня было, так заявілі цэх. організатары на скліканай нарадзе. Асобных нарад камуністаў у цэху не адбывалася, шэраг важнейшых пытаньняў не абгаварвалася і таму асобныя партыйцы плятуцца пазадзе ў адсталых рабочых і ніякае агітацыйнае працы не вядуць. Камуністы не інфармуюць бюро аб настроях у цэху.

У „абдзелачным" цэху ў час гутаркі быў узьняты шэраг вытворчых пытаньняў: „Чаму працу паліроўшчыц лічаць некваліфікаванаю працаю", „Чаму мыюць палітураю рукі", „Чаму майстар разагнаў прыкладны стол", „Грубасьць майстроў, іх афорызмы:—„Мы вас на сьценку павесім, ня ткні свайго носу куды не патрэбна" і г. д. Прысутныя камуністы ня выказаліся і сядзелі, як вады ў рот набраўшы. У мэханічным цэху асобныя камуністы выказваліся, што ўвесь брак залежыць ад машын і што рабочыя тут ня пры чым, што соцыялістычнае спаборніцтва праходзіць за кошт рабочага. Сталага, абдуманага разьмяркаваньня камуністаў і комсамольцаў па сталох (ушывальны цэх) і па асобных цэхах няма. Індывідуальных і групавых агітатараў таксама няма, перапынкі (на полудзень) не скарыстоўваюцца. Неабходна каб усю працу ў далейшым сконцэнтраваць у цэху, нарады камуністаў павінны быць, як сталая сыстэма ў рабоце з абгаварэньнем усіх пытаньняў жыцьця цэху і кіраўніцтва ім. Таксама профсаюзная і вытворчая работа па лініі профдэлегатаў і вытворчых камісій павінна концэнтравацца ў цэху.

Як сыстэмы, работы цэхавых вытворчых нарад няма. Працуе агульнафабрычная вытворчая камісія, якая абмяркоўвае пытаньні цэху і пасьля вывучэньня ставіць гэтыя пытаньні на сходзе, але вытворчыя пытаньні, што ўзьнікаюць непасрэдна ў цэху, не абмяркоўваюцца, даклады майстроў не заслухоўваюцца, сшыткаў для прапаноў аб паляпшэньні вытворчасьці не заведзена і толькі з вялікімі прамежкамі ў некаторых цэхах склікаюць вытворчыя нарады. У „абдзелачным" цэху вытворчых нарад зусім ня было. У скурана-галянтэрэйным цэху была нарада 25 лютага, а ў каніфольным 27 красавіка і з таго часу больш не адбывалася. Вось чаму пры правядзеньні гутарак па цэхах усе спрэчкі концэнтраваліся вакол вытворчых пытаньняў, а калі да гэтага дадаць, што на агульных сходах рабочых ніводнага разу не стаяла вытворчага пытаньня (акрамя агульнага дакладу аб задачах абглядовай камісіі і па прапанове райкому даклад Белшчаціны ў дзень індустрыялізацыі і 2-х вытворчых конфэрэнцый), дык стане зразумелым, што ячэйка дырэктывы партыі аб концэнтраваньні ўвагі на гаспадарчых пытаньнях выканана не ў дастатковай меры. Да гэтага часу вытворчых цэхавых камісій ня існуе і яшчэ ідуць спрэчкі аб мэтазгоднасьці іх, пры ўмовах зьменнасьці. Мы выказваемся за тое, каб організаваць цэх. вытворчыя камісіі з тым, каб старшыня яе не падлягаў зьменнасьці.

Насьценгазэта выходзіць несваечасова і нерэгулярна, рэдкалегія фактычна не абрана, гурток насьценкораў распаўся. Ніякага кіраўніцтва, якое-б грунтоўным чынам палепшыла гэтую справу, ня было. А ўсе неабходнае для разьвіцьця гэтае працы ёсьць. Нельга абмінуць заявы насьценкораў аб тым, што на 18 нумароў газэты было толькі два адказы адміністрацыі і то толькі тады, калі прышлі да дырэктара і палажылі ўсе газэты на стол. „Прысталі да горла—дачакаліся адказу, і то не на ўсе“,—заяўляюць насьценкоры.

На фабрыцы існуе 7 грамадзкіх ячэек (МОПР, ТПА-Авіахім, АЗЭТ, Шэфтаварыства, Прыхільнік дзяцей, Аўтадор, Бязбожнік). Ніякага кіраўніцтва імі і плянавасьці ў іх рабоце няма. Пытаньне аб перавыбарах гэтых грамадзкіх організацый абгаварваецца на працягу 6-ці месяцаў. Рэвізыйных камісій няма і ніхто ня сочыць за скарыстоўваньнем сродкаў. АЗЭТ быў організаваны па ініцыятыве комсамольцаў, на чале яго і цяпер стаіць комсамолец. АЗЭТ праяўляе ініцыятыву ў рабоце, зроблена экскурсія ў калгас, асьвятляюць сваю работу ў насьценгазэце. Ячэйка вырасла з 80 да 140 сяброў. Ячэйка МОПР'у ў мінулым была лепшаю ячэйкаю ў раёне і адтрымала за гэта грамату, а зараз яна фактычна не працуе, таксама як і іншыя ячэйкі.

Нацыянальны склад рабочых наступны: беларусаў 197, расійцаў 14, палякоў 14, яўрэяў 352, іншых 8. Улічваючы такі нацыянальны склад, патрэбна адзначыць недастатковую ўвагу нацыянальнаму пытаньню. Ёсьць захаваны антысэмітызм і жывіцца ён неправільным вырашэньнем асобных пытаньняў. Зьняцьце заггаса ўспрынімаецца, часткаю рабочых і партыйцаў, як уціск з боку яўрэйскае часткі работнікаў і гэта тлумачыцца толькі тым, што пытаньне аб зьняцьці загадчыка гаспадаркі з работы, ці пасылцы яго на іншую работу не абгаварвалась на партыйным сходзе і аб сапраўдных прычынах яго зьняцьця не інфармаваліся рабочыя, што і выклікае вялікае абурэньне, спрэчкі і дагадкі вакол гэтага пытаньня.

У адносінах азнаямленьня рабочых з экономікай і культурай Беларусі нічога ня зроблена. Работа ў заўкоме і партячэйцы ідзе на расійскай мове, гурток па беларусазнаўству распаўся. Няма сталага кадру агітатараў, якія-б сыстэматычна вывучалі настроі рабочых у сваім цэху і праводзілі штодзённа гутаркі як організаваныя з папярэдняй падрыхтоўкай тэмы, так і неорганізаваныя (пытаньні, якія непасрэдна ўзнікаюць у рабочых і патрабуюць зараз-жа тлумачэньня), чытку газэт і г. д. Стварэньню такога кадру агітатараў не аддавалася ніякае ўвагі.

Мы выказваемся за тое, каб на ўсіх буйных прадпрыемствах організоўваць агіткалектывы, якія-б распрацоўвалі ўсе пытаньні агітацыйнае работы, бязумоўна выходзячы з пляну ячэйкі і Райкому, вывучалі ўвесь вопыт, прыстасаванасьць форм і мэтодаў нашае работы да запатрабаваньняў рабочых у адпаведнасьці з генэральнай лініяю нашае партыі. Неабходна ўзяць рашучы курс на забесьпячэньне ячэек сваімі ўласнымі дакладчыкамі.

Не забясьпечана кіраўніцтва соцыялістычным спаборніцтвам. Няма сваечасовага падтрыманьня актыўнасьці рабочых, няма вучоту і контролю гэтае работы. Пытаньне аб соцыялістычным спаборніцтве пачалося з абгаварэньня на вытворчай камісіі ў зьвязку з цыркулярам ЦП Саюзу 23 мая і, каб вышукаць мэтоды правядзеньня соцыялістычнага спаборніцтва, была вылучана камісія (з тэрмінам да 1 ліпеня). 17 чэрвеня ізноў стаяла пытаньне на вытворчай камісіі і без усякага абгаварэньня была прынята пастанова аб тым, каб „прапанаваць адміністрацыі прадставіць калькуляцыю, каб прыступіць да афармленьня работы па соцыялістычнаму спаборніцтву“. 15 ліпеня

ізноў у абвестцы дню вытворчае камісіі лічыцца гэтае пытаньне і таксама без абгаварэньня ўхвалілі: „Вітаць уступіўшых у соцыялістычнае спаборніцтва і запісаць іх прозьвішчы на чырвоную дошку“. Ніякае канкрэтнасьці няма, выстаўлена на дварэ шмат голых дошчак і толькі цяпер некаторыя запоўнены выклікамі рабочых. Сводак аб ходзе соцыялістычнага спаборніцтва таксама няма. Дагавары, якія заключаюцца паміж цэхамі (да рэчы бяз шырокага ўдзелу ўсіх рабочых) носяць агульныя разважаньні—палепшыць, павысіць, а тыя дагавары, якія маюць некаторыя лічбы, зьяўляюцца няправільнымі. Напрыклад, гаворыцца аб зьніжэньні браку на 60—70% у той час, як у калдагавары гаворыцца не аб адным проценту браку, гавораць, што абяцаюць выканаць правіла ўнутранага распарадку. На сходзе камуністаў і камсамольцаў гэта пытаньне грунтоўна не распрацавана. Тое, што няма правільнага разуменьня соцыялістычнага спаборніцтва і кіраўніцтва ім, прывяло да такіх настрояў, што ва ўмовах шчотачнае фабрыкі немагчыма праводзіць соцыялістычнае спаборніцтва (так казалі асобныя рабочыя ў „абдзелачным“ і мэханічным цэху). „Калі адзін сярдзіты на другога, то выклікаюць на соцыялістычнае спаборніцтва. Работніца Савінкава, што дрэнна точыць пілы, выклікае Маціеўскага, які гэта лепш робіць (заява рабочых у час гутаркі ў мэханічным цэху). Соцыялістычнае спаборніцтва не зрабілася сталым мэтодам прыцягненьня рабочых у соцыялістычнае будаўніцтва. Ніякіх вынікаў і праверкі выкананьня прынятых абавязацельстваў няма. У дрылёвачным цэху ў параўнаньні з маем м-цам брак павысіўся на 200%. (15 дрылёўшчыкаў далі ў маі м-цы браку на 33 руб. 16 кап., а 12 тых самых рабочых за чэрвень м-ц далі 99 руб. 72 кап. браку). У гэтым-жа цэху ў жніўні м-цы наглядаліся выпадкі працоўнае недысцыплінаванасьці і гэтыя зьявішчы нідзе не абмяркоўваліся і аб такім становішчы рабочыя фабрыкі не паведамляліся. Такім чынам, у гэтай рабоце ня ўлічвалася дырэктыва ЦК УсеКП(б) ад 9 мая 1929 году аб тым, „каб перасьцерагчы ўсе організацыі ад небясьпекі пратварэньня спаборніцтва ва ўрачыстую пераклічку організацый без сапраўднага ўдзелу мас“. У ацэнцы вынікаў соцыялістычнага спаборніцтва мы павінны выходзіць з пастановы ЦК УсеКП(б), у якой гаворыцца, што: „Асноўнаю меркаю посьпехаў спаборніцтва зьяўляюцца дасягненьні практычных вынікаў у галіне павышэньня прадукцыйнасьці працы, зьніжэньня сябекошту продукцыі па пэўнаму цэху, прадпрыемству, а таксама такое замацаваньне гэтых дасягненьняў праз рацыяналізатарскія мерапрыемствы і тэхнічныя ўдасканаленьні, якія забясьпечваюць далейшае падвышэньне продукцыйнасьці працы“. Ячэйка ў кіраўніцтве соцыялістычным спаборніцтвам павінна выходзіць з таго, што: „Конкрэтнымі задачамі соцыялістычнага спаборніцтва павінна быць выкананьне і перавышэньне прамфінпляну, выкананьне і перавышэньне вызначаных норм па зьніжэньню сабекошту і ўзьняцьцю продукцыйнасьці працы, палепшаньне якасьці продукцыі, барацьба з бракам і прагуламі, зьмяншэньне накладных выдаткаў, узорная вытворчая дысцыпліна, актыўнае правядзеньне тэхнічных удасканаленьняў і рацыяналізацыя вытворчасьці з шырокім прыцягненьнем рабочага вынаходніцтва“ (З пастановы ЦК УсеКП(б)). Парт‘ячэйка да гэтага часу ня ўлічвала, што: „Спаборніцтва побач з самакрытыкаю ўнутры пролетарскіх шэрагаў павінна стаць сродкам соцыялістычнага выхаваньня рабочае клясы, асабліва-ж новых рабочых-выхадцаў з вёсак і дробнабуржуазных пластоў.

Лепшая частка рабочых праяўляе ініцыятыву і творчасьць, але своечасовага падтрыманьня ў гэтым няма. Ва ўшывальным цэху пра-

цуе ўдарная брыгада. Гэтай брыгадзе падкідвалі брак з тым, каб паказаць што ва ўдарнай брыгадзе больш за ўсіх браку. Майстар гэта заўважыў і віноўнага злавіў на месцы. Гэты факт сьведчыць аб тым, што ёсьць анты-пролетарскія настроі, што некаторыя вядуць шкодніцкую работу і ідуць на зрыў соцыялістычнага спаборніцтва. Аб гэтым факце ні партыйная ячэйка, ні заўком нічога ня ведалі. Больш таго, гэтаму не надаюць ніякага значэньня. Па заяве дырэктара, ён аб гэтым ведаў і вынес віноўным вымову, сакратар ячэйкі разам з ім на паседжаньні бюро РК сьцьвярджаў, што гэта зрабіў маладарослы рабочы і таму расцэньваць гэта, як вылазку клясавага ворага, не патрэбна. Тым часам цікава, як мы аб гэтым даведаліся. На гутарцы ва ўшывальным цэху зусім дарослыя работніцы выказваліся, што ў іх ёсьць ударная брыгада, але нічога прыкладнага ў іх няма, больш за ўсіх браку і г. д. Можна было бачыць на тварах некаторых работніц ухмылку. І вось прадстаўнікі брыгады выступілі і расказалі, як яны працуюць і як ім падкідвалі брак. З гэтага відавочна, што справа ня ў тым, хто гэта зрабіў, ня ў тым, што гэта зрабіў маладарослы, а ў тым, што маладарослы зрабіў справу клясавага ворага. Неабходна вакол гэтага здарэньня мобілізаваць рабочых на рашучую барацьбу як з вылазкаю клясавага ворага, накіраваўшы актыўнасьць рабочых на сапраўднае соцыялістычнае спаборніцтва ня ў рамках правіл унутранага распарадку, як гэта было дасюль.

## V.

Сярод такога неаднароднага складу рабочых з шэрагам адсталых і непралетарскіх настрояў асабліва шкодныя хвасьцісцкія настроі камуністаў. Выступленьні асобных камуністаў на цэхавых сходах і на нарадах нельга было адрозьніць ад адсталых беспартыйных. Пра аднаго камуніста рабочы сказаў: „Ён у нас дзейнічае за аблаката“, а Старавойтаў—АПА ячэйкі, член Менскага АК КП(б)Б сказаў, што соцыялістычнае спаборніцтва ідзе за кошт рабочага і зьмяншае яго заработную плату. Не працуюць рабочыя па віне адміністрацыі, а вылічваюць з рабочых. Заметкі ў друку правільныя, і, каб захаваць ад вылучанае камісіі сапраўдную колькасьць браку адвезьлі 2—3 вазы бракаваных шчотак у магазын на Ленінскую вуліцу, і што ён бачыў (бракоўныя шчоткі) уласнымі вачыма. Пры праверцы аказалася, што Старавойтаў аб гэтым ня ставіў на бюро і аб такіх зьявішчах нікога не паведаміў, а вышэй паданыя факты і па зьмесьце не адпавядаюць сапраўднасьці (гэта пытаньне абмяркоўвалася на бюро парт'ячэйкі, на якім Старавойтаў прызнаўся ў сваіх памылках, пастановаю бюро ён вызвалены ад абавязкаў АПА ячэйкі, а агульны партыйны сход узьняў пытаньне аб неабходнасьці вываду яго з складу Акругкому КП(б)Б). Такім чынам, асобныя камуністы робяць шэраг памылак і замест рашучай барацьбы з імі супакойна рэгіструюць факты, выступаючы „сумленнымі староньнімі назіральнікамі“ на беспартыйных сходах.

Майстры цэхаў заўважалі, што асобныя камуністы больш за ўсіх парушаюць працоўную дысцыпліну, робяць брак. Напрыклад, рэкордную лічбу па браку ў дрылёвачным цэху дае той самы Старавойтаў.

З пажарнае каманды выключаюць камуністаў за недысцыплінаванасьць і не зьяўленьне на заняткі і г. п. і аб гэтым будзе абгаварвацца толькі ў парт'ячэйцы пасьля выключэньня. З гэтага відавочна, што пытаньне аб дысцыплінавасьці і аб прыкладнасьці камуністаў на вытворчасьці на шчотачнай фабрыцы неабходна рашуча паставіць.

Камуніст павінен быць узорам адданасьці вытворчасьці.

**Адказны рэдактар—**
*рэдкалегія.*

## ЗЬМЕСТ.



---



## ПАМЫЛКІ ДРУКУ.

На стар. 7 у 22 радку зьверху надрукавана—„абагуліць у калгасы да 25 проц.“, трэба чытаць—„абагуліць у калгасы ня менш 25 проц.“.

На стар 7 у 23 радку зьверху—„а да канца 1930 году—да 40 проц.“, трэба чытаць—„а да канца 1930 году—ня менш 40 проц.“.